Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 22 (4668) 1 чэрвеня 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Падчарка ці дачка?



Не так даўно, разбіраючы свае старыя рукапісы, я натрапіў на вучнёўскі агульны сшытак, так званы чытацкі дзённік, з сотнямі назваў кніг, у пераважнай большасці абыдзеных увагай складальнікамі школьных праграм. Асобныя кнігі пасля перачытваў яшчэ не раз, пра існаванне некаторых проста забыўся і, пры ўсім жаданні, не магу ўспомніць ні сюжэт, ні імёны герояў, але, пераканаы, усе яны, дадаючыся адна да адной, як дадаюцца адна да адной цаглінкі, непрыкметна ператвараючыся ў велічны гмах, так ці інакш паўплывалі на мой далейшы лёс. І калі сёння я бачу школьнікаў з ноўтбукамі, школьнікаў, якія штодня гадзінамі праседжваюць у інтэрнэце, — з аднаго боку, я ім зайздрошчу. З іншага, я не ўпэўнены, што трэба шкадаваць, маўляў, эх, чаму ўсяго гэтага не было ў маім дзяцінстве. Бо тады, пэўна, не было б тых самых соцень кніг. Бо радасць адкрыцця — пачуццё, аднолькавае для ўсіх, незалежна ад таго, з'яўляецца яно дзякуючы вандроўкам па віртуальным свеце альбо па свеце, створаным пісьменніцкай фантазіяй. Пытанне ў іншым: наколькі такая замена — інтэрнэт на кнігу — раўнацэнная ў духоўным плане.

Калі чую ад дарослых, што яны зусім не чытаюць кніг, то адразу раблю для сябе выснову: значыць, у маленстве маці не куплялі, не чыталі ім казкі, і дома ў іх у так званых "секцыях" стаяла што заўгодна, толькі не кнігі. Тым, хто сёння абмяжоўвае сваё чытанне бульварнай літаратурай, хутчэй за ўсё, у маленстве кніжкі куплялі больш з-за яркіх малюнкаў.

Як бы там ні было, адносіны да кнігі, да чытання, безумоўна, закладваюцца ў першыя гады жыцця. Таму, каб заўтра не стала яшчэ больш дарослых, абыякавых да мастацкага слова, трэба сёння прывіваць любоў да яго дзецям. А значыць, неабходна большая ўвага да дзіцячай літаратуры (традыцыйна ў нас яна пачуваецца амаль што падчаркай у вялікай сям'і літаратурных жанраў) і, безумоўна, неабходна больш добрых, цікавых, арыгінальных дзіцячых кніжак.

**Алесь БАДАК**

# СМІ і будучыня

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота Кастуся Дробава**

**VII Беларускі міжнародны медыяфорум "Партнёрства ў імя будучыні: мадэлі новай эпохі" сабраў у беларускай сталіцы больш як сто ўдзельнікаў з шаснаццаці дзяржаў: эксперты, палітолагі, эканамісты, вядучыя медыйныя персоны і кіраўнікі большасці інфармацыйных агенцтваў краін СНД, журналісты Балтыі, Кубы, Кітая, Індыі, Венесуэлы.**

**Тое, што сёлетні медыяфорум будзе істотна адрозніваецца ад папярэдніх, было бачна ўжо з самой тэмы, вынесенай на абмеркаванне медыйнай грамадскасці: глабальныя праблемы сучаснасці.**

**Тэатралізаваным пралогам "Гартаючы старонкі эпох" распачаўся першы дзень. Гасцей сустракалі ля Мінскай ратушы духавым аркестрам. Яркія гістарычныя касцюмы павінны былі даць уяўленне пра багатае мінулае і традыцыі нашага горада.**

(Заканчэнне на стар. 2).




*Журналісты атачылі дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Рыгора Рапоту — ён цікавы суразмоўца.*

**Сённяшні дзень для мяне асаблівы. Не толькі таму, што я — маці, і не толькі таму, што большую частку свядомага жыцця працую ў адукацыйных установах... Якраз сёння — народзіны ў майго малодшага сына. Ён ужо зусім дарослы, але ў гэты дзень міжволі згадваецца ўсё: як раслі мае дзеці, як упершыню пайшлі ў дзіцячы садок, у школу, у якія гульні гулялі, якія кнігі чыталі...**

**Лада АЛЕЙНІК,**
**фота Кастуся Дробава**

# 1 чэрвеня

На жаль, тады, у пачатку 1990-х, на паліцах у кнігарнях не было такой раскошы, як цяпер. Асабліва бракавала менавіта айчынных выданняў — рознатэматычных кніг для дзяцей на беларускай мове. А мне хацелася як мага болей чытаць дзецям менавіта пабеларуску. Каб родная мова, нацыянальная літаратура і культура з малых год былі для іх натуральнымі, арганічнымі. Бо тое, што ўсвядомлена ў першыя гады жыцця, часцей за ўсё робіцца для чалавека вызначальным.

Адной з найбольш любімых кніг у нашым хатнім чытанні быў зборнік "Вяснянка" (1991) — даволі "аб'ёмнае" выданне (амаль паўтысячы старонак!), у якое ўвайшлі лепшыя творы для дзяцей ста шасцідзесяці беларускіх пісьменнікаў — класікаў і сучаснікаў. Цудоўная кніжка! У ёй былі творы на любы густ — вершы, казкі, апавяданні... Апроч таго, у кнізе былі змешчаны шыкоўныя ілюстрацыі — няшмат, праўда, усяго дзясятка паўтара малюнкаў. Але гэта былі вельмі якасныя, адмысловыя ўзоры выяўленчага мастацтва. Памятаю, як малодшы сын ледзь не гадзінамі разглядаў работы Міхаіла Басалыгі, захапляўся ўменнем мастака дасканала перадаваць сутнасць літаратурнага твора, эмоцыі герояў. Ці не тады адбыўся першы



штуршок, які сарыентаваў майго сына ў прафесійным выбары? Бо пазней ён вельмі сур'ёзна захапіўся жывапісам, графікай, цяпер вывучае выяўленчае мастацтва ва ўніверсітэце.

Вядома, асобу фарміруюць не толькі кнігі. Усё важна. Агульнасямейная атмасфера, асабісты прыклад бацькоў, школа, сябры... Але кнігі здольны вельмі істотна паўплываць на дзіця — і на яго духоўнае развіццё, і на інтэлектуальнае.

Сёння я з зайздрасцю гляджу на паліцы кнігарняў. Колькі цудоўных кніг! Цікавых, змястоўных, выдатна ілюстраваных. Асабліва багаты выбар у маленькіх чытачоў. Гэта кнігі Міколы Чарняўскага і Раісы Баравіковай, Тацціяны Мушынскай і Анатоля Зэкава, Людмілы Рублеўскай і Уладзіміра Мазго, Алены Масла і Алеся Бадака, Ніны Галіноўскай і Уладзіміра Мацвеенкі...

Ды нават не толькі ўласна мастацкія выданні бацькі могуць выкарыстоўваць у сямейных чытаннях і інтэлектуальных гульнях. Мяне, напрыклад, проста ўразіла кніга Міхася Пазнякова "Гульняслоў", якую склалі крыжаванкі, анаграмы, шарады, рэбусы, загадкі, скорагаворкі, каламбуры, шматлікія іншыя займальныя заданні і практыкаванні, накіраваныя на развіццё вобразнага і лагічнага мыслення дзяцей, на паглыбленне іх ведаў і навыкаў, на пашырэнне эрудыцыі.

А дзецям старэйшага школьнага ўзросту, упэўнена, будзе цікава і карысна пазнаёміцца з прозай Андрэя Федарэнкі, Алеся Наварыча, Валерыя Гапеева, Алеся Бадака, Уладзіміра Сцяпана, Юрася Нератка... Можна яшчэ доўжыць і доўжыць пералік імёнаў пісьменнікаў, чые творы варта было б прапанаваць сённяшнім юным чытачам. Толькі ведаеце... Перадусім я хачу сказаць, што справа не адно толькі ў добрых кнігах. Кнігі, сямейнае чытанне — гэта аптымальны шлях да паразумення з дзецьмі. Гэта магчымасць адчуць іх трывогі і клопаты, перажыванні і агульны лад мыслення. Гэта магчымасць пагаварыць, абмеркаваць, патлумачыць, даць параду...

Як бы дыдактычна ці пафасна ні прагучала, напрыканцы хачу сказаць... З малых гадоў прывучайце дзяцей да кнігі, знаходзьце час, каб пачытаць разам з дзецьмі... Плён абавязкова будзе, гарантую.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў старшыню Саюза тэатральных дзеячаў Расійскай Федэрацыі, народнага артыста РСФСР Аляксандра Калягіна з 70-годдзем. "На беларускай зямлі Вас цэняць як выдатнага майстра сучаснай культуры, чалавека з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, грамадскага дзеяча і педагога, чый унёсак ва ўмацаванне адзінства нашых народаў адзначаны прэміяй Саюзнай дзяржавы", — сказана ў віншаванні.

✔ Міністэрства інфармацыі Беларусі ўзнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" намесніка начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Брэсцкага аблвыканкама па паліграфіі і фінансава-гаспадарчай дзейнасці Васіля Ільківа, а таксама мастацкага рэдактара часопіса "Вясёлка" Уладзіміра Жука.

✔ Кінастужка "У тумане" паводле аповесці В. Быкава сумеснай вытворчасці Беларусі, Расіі, Германіі, Латвіі і Нідэрландаў атрымала прэстыжны прыз журы Міжнароднай федэрацыі кінакрытыкі FIPRESCI на 65-м міжнародным кінафестывалі ў Канах.

✔ Кнігавыдаўцы Беларусі атрымалі ажно сем узнагарод IX Міжнароднага конкурсу "Мастацтва кнігі" дзяржаў-удзельніц СНД, які прайшоў у Астане (Казахстан). У тым ліку Гран-пры за кнігу "Дмитрий Струков. Альбом рисунков 1864 — 1867"("Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі"). Па пяць дыпломаў атрымалі Азербайджан, Казахстан, Узбекістан, Украіна. Чатыры дыпломы ў армянскіх кнігавыдаўцоў, тры — у расійскіх, па два — у кыргызскіх і таджыкскіх, адзін — у малдаўскіх.

✔ Беларускія пісьменнікі павіншавалі старажытны Полацк з юбілеем, выступіўшы на канцэртнай пляцоўцы каля помніка Сімяону Полацкаму. У праграме ўзялі ўдзел члены Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, а таксама прадстаўнікі літаратурных аб'яднанняў "Наддзвінне" і "Полоцкая ветвь".

✔ Навукоўцы з сямі найбольш прэстыжных ВНУ Беларусі і Украіны, а таксама прадстаўнікі духавенства ўзялі ўдзел у міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Мазыршчына: людзі, падзеі, час", якая прайшла ў Мазырскім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя І. Шамякіна. Мерапрыемства было прысвечана 20-годдзю адраджэння Тураўскай епархіі. Арганізатарамі яго выступілі Міністэрства адукацыі Беларусі, Тураўская епархія, Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя І. Шамякіна.

✔ Заслужаны аматарскі калектыў Беларусі, цырк імя Валерыя Абеля Палаца культуры прадпрыемства "Гомельшкло" заваяваў Гран-пры першага адкрытага вандроўнага фестывалю-конкурсу эстраднацыркавога мастацтва "Северская феерия" ў Чарнігаве. Паводле вынікаў конкурсу, на які з'ехаліся яшчэ 20 цыркавых калектываў з Расіі і Украіны, беларуская міні-трупа манежа занялі яшчэ 8 першых месцаў у розных намінацыях.

✔ Студэнтка філалагічнага факультэта БДУ Ірына Несцерава і студэнтка Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта Алеся Казімірава перамаглі ў адборачным туры XI Міжнароднага конкурсу студэнтаў па кітайскай мове "Кітайская мова — мост". Яны будуць прадстаўляць Беларусь у фінале конкурсу, які адбудзецца ў Пекіне.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## Канферэнцыі

# «Звязда»: гісторыя Айчыны

**У Інстытуце гісторыі НАН Беларусі адбылася рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Газета "Звязда" ў грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі — да 95-годдзя заснавання і 70-годдзя першага выхаду "Звязды" ў гады Вялікай Айчыннай вайны".**

Кацярына БЯДУЛІНА

"Гісторыя "Звязды" непарыўна звязана з гераічным мінулым нашай краіны. Старонкі газеты — дакладны і праўдзівы летапіс жыцця беларускага народа. Газеце належыць адметная роля ў станаўленні і развіцці беларускіх друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, фарміраванні высокіх традыцый нацыянальнай журналістыкі, выхаванні цэлай плеяды выдатных прафесіяналаў", — гаворыцца ў прывітальным лісце міністра інфармацыі Беларусі А. Праляскоўскага. Таксама старэйшую газету Беларусі павіншаваў намеснік міністра інфармацыі У. Матусевіч.

У працы канферэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі, Беларускага саюза журналістаў, гісторыкі, палітолагі, журналісты, моваведы і літаратуразнаўцы.

Сярод выступоўцаў былі Май Данцыг, народны мастак Беларусі, прафесар, унук Герца Данцыга, у друкарні якога ўбачыў свет першы нумар газеты "Звязда", і Галіна Каржанеўская, дачка мінскага падпольшчыка, распаўсюджвальніка падпольнай "Звязды" Мікалая Каржанеўскага.

Таксама слова ўзялі акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар Аляксандр Каваленя, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Вячаслаў Даніловіч і інш.

Адно з галоўных пытанняў, што ўзнімалася падчас канферэнцыі, — "Звязда. Ад мінулага да сучаснасці: што змянілася, што засталося?"

— Сёння газета "Звязда" — гэта захаванне культурнай спадчыны нашага народа, — выказаў думку галоўны рэдактар Алесь Карлюкевіч. — На яе старонках адлюстраваны працэсы, што адбываюцца ў грамадстве, культуры Беларусі. Гэтак жа, як чалавек павінен ведаць пра асноўныя падзеі, што адбываюцца ў свеце, ён мусіць ведаць і сваю мову, і гісторыю краіны, у якой нарадзіўся і жыве.

# СМІ і будучыня

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).**

Рыцары ў даспехах, гусары і шляхетныя паненкі, гандляры XIX стагоддзя, будзёнавец і рэвалюцыянерка ў чырвонай хусцінцы, салдаты Другой сусветнай вайны… Не было ніякіх спецыяльных слоў і мізансцэн. Постаці мінулага растварыліся сярод удзельнікаў форуму.

У ратушы гасцей вітаў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька, адбылася сустрэча са старшынёй Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама Аляксандрам Пятровым і міністр спорту і турызму Беларусі Алегам Качаном. Прайшлі экспертсесіі: "Мінск, які імкнецца ў будучыню" і "Мінск — сталіца чэмпіянату свету па хакеі — 2014". Гасцей уражвала хуткасць развіцця беларускай сталіцы, яе прыгажосць, дзейнасць беларускіх эканамічных, сацыяльных і культурных праграм. У гэты ж дзень удзельнікі медыяфоруму наведалі Парк высокіх тэхналогій і Нацыянальную акадэмію навук.

Адбылося таксама XV пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаўных інфармацыйных агенцтваў краін СНД. Дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Рыгор Рапота адказаў на пытанні журналістаў наконт нацыянальнай бяспекі краін СНД.

— Нацыянальная бяспека кожнай з краін СНД шмат у чым залежыць ад стасункаў з суседзямі, — сказаў ён, дадаўшы пры гэтым, што немалаважная роля ў тым, як будуць складвацца гэтыя стасункі, адводзіцца прадстаўнікам СМІ. Бо чым менш хтосьці ведае пра суседа, тым больш узнікае паміж імі падазронасці.

Выступаючы на пасяджэнні, міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі адзначыў аб'ектыўнасць і непрадузятасць дзяржаўных інфармагенцтваў краін Садружнасці пры асвятленні жыцця Беларусі. Акрамя таго, ён падкрэсліў, што супрацоўніцтва дзяржаўных інфармагенцтваў СНД дасягнула дастаткова высокага ўзроўню і яны выконваюць ролю афіцыйнай інфармацыйнай крыніцы для астатніх медыя.

Асноўныя мерапрыемствы другога дня форуму праходзілі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Прывітальнае слова ўдзельнікам форуму даслаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка: "Сёння, як ніколі, вялікая роля масмедыя ў садзейнічанні развіццю інтэграцыйных працэсаў на еўразійскай прасторы на прынцыпах павагі і супрацоўніцтва, — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы. — Упэўнены, што медыяфорум дапаможа прадстаўнікам журналісцкай і экспертнай супольнасці выйсці на новы ўзровень прафесійнай узаемадзейнасці і будзе садзейнічаць умацаванню даверу паміж нашымі краінамі".

Яркім і запамінальным было выступленне выканаўчага дырэктара Міжнароднага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў СНД Армена Смбацяна. Ён адзначыў, што на працягу толькі апошняга года акрамя рэалізацыі больш як 100 праектаў у галіне культуры, навукі, адукацыі, спорту, фонд вёў працу над стратэгіяй развіцця канцэпцыі гуманітарнай садружнасці з улікам тэндэнцый, эканамічных кааперацый і сацыякультурнай разнастайнасці дзяржаў СНД.

Пытанню інтэграцыі, якая дазваляе менш балюча пераадольваць наступствы сусветнага крызісу, было прысвечана выступленне кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Уладзіміра Макея. Пры гэтым ён адзначыў, што інтэграцыя базіруецца не толькі на эканоміцы, але і на агульнасці духоўных каштоўнасцей.

Аднак постсавецкія краіны не павінны быць зачыненымі для сусветнай інтэграцыі.

Характарызуючы становішча СМІ ў Беларусі, Уладзімір Макей распавёў пра тое, што сёння вядзецца пэўная работа па стварэнні ўзбуйненых медыяструктур, якія будуць прадстаўляць вядучыя рэспубліканскія друкаваныя выданні. Плануецца стварэнне двух вялікіх медыяхолдынгаў: грамадска-палітычнага і культуралагічнага. Гэтак будзе сканцэнтраваны творчы патэнцыял, аптымізавана эканамічная дзейнасць.

Трэці дзень медыяфоруму быў адзначаны дзейнасцю так званай Летняй школы журналістыкі. Завяршыўся медыяфорум праектам "2012 — Год кнігі. Беларусь літаратурная", прымеркаваным да 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Якуба Коласа і Янкі Купалы.

У рэзалюцыі, прынятай VII Беларускім міжнародным медыяфорумам, адзначана, што ў новых палітычных умовах падтрыманне сацыяльнай стабільнасці і правапарадку, міжнародная міру і бяспекі з'яўляецца задачай яшчэ больш складанай і адказнай, чым у папярэдня эпохі. Таму ад чалавецтва патрабуецца нямала высілкаў для таго, каб рэсурсы дзяржаў, міжнародных арганізацый, транснацыянальных кампаній былі выкарыстаны не для ўзаемных канфліктаў, але накіраваны на забеспячэнне годнага жыцця кожнага чалавека. Прадстаўнікам СМІ трэба зрабіць усё магчымае, каб так і сталася.

## Імпрэзы

# З пашанай да Паэта



**Імпрэза па ўшанаванні памяці самага маладога класіка беларускай літаратуры "Пад зоркай Максіма"прайшла ў музеі М. Багдановіча ў Мінску. 120 гадоў таму нарадзіўся будучы беларускі паэт. У гэтым маі споўнілася 95 гадоў, як ён вярнуўся на неба.**

Таццяна ЛАБАДА,
фота Кастуся Дробава

Згодна з традыцыяй, усё распачалося ўскладаннем кветак да помніка паэту. Выказаць свае шчырыя словы любові і павагі Максіму сабраліся тыя, хто з'яўляецца сапраўднымі прыхільнікамі яго творчасці, пачынаючы ад маленькіх школьнікаў да сталых грамадзян. Не маглі не засведчыць значнасці гэтай асобы ў гісторыі нашай краіны сучасныя дзеячы культуры і літаратуры, сярод якіх першы дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча Міхась Пазнякоў, заслужаны дзеяч мастацтваў, аўтар мастацкай канцэпцыі музея Эдуард Агуновіч, беларускі пісьменнік, намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па культуры і мастацтве пры Савеце міністраў Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч, паэтка Людміла Хейдарава, сваячка паэта па бацькавай лініі Вольга Дашкоўская. У Свята-Петра-Паўлаўскім саборы адбылася паніхіда па Максіму, яго спачылых родных і блізкіх. Паводле слоў спадзявання, выказаных пасля памінальнай малітвы іерэем Мікалаем Багдановічам, памяць пра Максіма будзе жывая і за межамі Беларусі, дзе таксама шануюць вы датнага творцу.

Пры жыцці Максім Багдановіч пабачыў толькі адну сваю кнігу — "Вянок". Сёння яго спадчына адкрыта чытачу праз трохтомнае выданне. Да 120-годдзя паэта выйшаў россып найцікавейшых кніг. З кожнай новай кнігай мы адкрываем для сябе цікавыя факты, маем магчымасць пад іншым ракурсам глянуць на ўжо вядомыя акалічнасці. Выдатную працу ў гэтым кірунку правёў укладальнік кнігі "Максім Багдановіч: вядомы і невядомы" Ціхан Чарнякевіч. Дырэктар музея Таццяна Шэлеговіч адзначыла, што гэтая кніга будзе карыснай і цікавай нават для тых, хто доўга працаваў у музеі паэта і прачытаў шмат інфармацыі пра яго. Нельга было не ўзгадаць і пра выданне "Максім Багдановіч" (серыя "ЖЗЛ"), якое павінна стаць падмуркам для тых, хто хоча больш падрабязна пазнаёміцца з асобай паэта. Грунтоўным і важкім набыткам стала і энцыклапедыя "Максім Багдановіч".

У Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь створаны аўтарскі праект Алега Лукашэвіча "Эпоха", з 50 серый якога 4 прысвечаны М. Багдановічу.

Памяць М. Багдановіча ўшаноўваецца па-рознаму. І ў кожнага віду мастацтва свае сродкі ўздзеяння. А калі талент паэта памнажаецца на талент акцёра, то застацца абыякавым немагчыма. Кожнае выступленне артыстаў тэатра "Жывое слова" ў Літаратурным музеі М. Багдановіча — проста падарунак для наведвальнікаў.

Для дзяцей быў абвешчаны мастацкі конкурс "Зорка Венера", які праводзіўся па ініцыятыве выдавецтва "Пачатковая школа". Намеснік дырэктара выдавецтва Вольга Ваніна запэўніла, што дзецям з розных куткоў Беларусі М. Багдановіч вельмі блізкі. А часопіс з работамі пераможцаў, закладкі з вершамі паэта і дзіцячымі ілюстрацыямі да яго, падораныя падчас імпрэзы, таксама знойдуць месца ў фондах музея.

Да мерапрыемства была падрыхтаваная выстаўка, на якой прадстаўлены розныя юбілейныя выданні (манета, медаль, шраг кніг, праграмы канцэртаў, канферэнцый, фотаздымкі і г.д.), якія выходзілі на працягу 2011 г. і былі прысвечаны М. Багдановічу.

*Літабсягі*

# Кучаравы пэндзлік і чароўныя пацеркі

**Ці можа свята пачынацца з класнай гадзіны? Аказваецца, можа. І пацвярджэннем таму стаў наладжаны выдавецтвам "Мастацкая літаратура" фестываль дзіцячай кнігі "Кніжкіна свята", які не так даўно прайшоў у СШ № 185 г. Мінска.**

**Алена ГАЛАЙ**

Фестываль быў прысвечаны беларускай казцы. Адразу пасля ўрачыстага адкрыцця фэсту, на якім слова ўзялі галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп і загадчыца рэдакцыі дзіцячай літаратуры Алена Масла, пісьменнікі разышліся па класах, каб правесці з дзецьмі незвычайную класную гадзіну ды бліжэй адно з адным пазнаёміцца. У "казачных" уроках узялі ўдзел Уладзімір Ліпскі, Ніна Галіноўская, Уладзімір Мацвеенка, Галіна Пшонік, Наталля Бучынская, Людміла Рублеўская, Уладзіслаў Бубен, Леанід Улашчанка, Маргарыта Аляшкевіч, Арцём Кавалеўскі ды іншыя.

Пасля знаёмства вучні і пісьменнікі сабраліся разам на гала-канцэрце ў актавай зале, самым доўгачаканым момантам якога стала, канечне ж, узнагароджанне пераможцаў. Фінальнаму этапу фестывалю папярэднічалі конкурсы, асноўнай задачай якіх было прыцягнуць увагу школьнікаў да аўтарскай і народнай беларускай казкі. Пераможцы "Кучаравага пэндзліка" (конкурс малюнкаў да казак), "З рога ўсяго многа" (конкурс касцюмаў казачных герояў), "Чароўныя пацеркі" (конкурс дзіцячай аўтарскай казкі) атрымалі дыпломы і кнігі ў падарунак ад выдавецтва "Мастацкая літаратура". У конкурсах бралі ўдзел вучні Мінска і Мінскай вобласці. Самая вялікая дэлегацыя ўдзельнікаў — 12 чалавек — прыехала з Барысава пад кіраўніцтвам бібліятэкара Людмілы Захарэвіч.

Арганізатары як з боку выдавецтва (ініцыятар фестывалю Алена Масла і куратар Зося Кустава), так і з боку школьнай адміністрацыі (завуч школы Марына Емяльянава) засталіся задаволенымі вынікамі праекта і лічаць, што яго галоўная мэта — зацікавіць дзяцей чытаннем, родным словам, праз удзел у конкурсах даць магчымасць акунуцца ў чароўны свет беларускай казкі — дасягнута.

У прыватнасці, Алена Масла зазначыла: "Такое шчасце, калі літаратура, мастацтва аб'ядноўваюць людзей. Як на мой розум, так і павінна быць! А фестывальныя мерапрыемствы яскрава дапамаглі аб'яднаць людзей — дарослых, дзяцей, юных і сталых творцаў. Спадзяюся, што гэты фестываль казкі дапамог усім засвоіць залатое казачнае правіла: дабро заўжды перамагае зло. З гэтым правілам і дарослыя, і дзеці будуць далей крочыць па жыцці".




*Удзельніца фестывалю Ганна-Юзэфа Капцава чытае вершы.*

*Артлінія*

# «Залатая дзясятка» з Урала

**Вялікія гастролі Свярдлоўскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра музычнай камедыі адбудуцца ў Мінску. Пройдуць яны з 5 па 25 чэрвеня на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Пра залатую калекцыю спектакляў, якую пакажа мінчанам тэатр з Екацярынбурга, распавёў яго дырэктар Міхаіл Сафронаў — сакратар Саюза тэатральных дзеячаў Расіі, старшыня Свярдлоўскага аддзялення СТД, прэзідэнт асацыяцыі тэатраў Урала. Цягам года ён неаднойчы наведваўся ў беларускую сталіцу для падрыхтоўкі маштабнага і ў творчым, і ў арганізацыйным сэнсах, але фінансава ёмістага і некамерцыйнага гастрольнага праекта. Так, у адрозненне ад шматлікіх "антрэпрызных" расійскіх гасцей і "зорак" шоу-бізнесу артысты гэтага тэатра едуць у нашу краіну не падзарабіць, а наладзіць душэўны кантакт з беларускім гледачом, які любіць і разумее сапраўднае мастацтва. "Наш тэатр даўно марыў пра такую сустрэчу. І ў гастрольную афішу мы ўключылі самыя яркія і паспяховыя пастаноўкі, пра якія апошнім часам гаворыць і піша ўся Расія. Яны адзначаны рознымі тэатральнымі прэміямі, у тым ліку прэстыжнай "Золотой маской",



*Сцэна са спектакля "Кацярына Вялікая".*

якой нашы работы ганараваліся ўжо 16 разоў", — кажа М. Сафронаў. — Мы пакажам восем разнажанравых спектакляў, якія не ідуць на вашай сцэне. Гэта музычная хроніка часоў Імперыі "Кацярына Вялікая", музычная прыпавесць "Ахоўвай мяне, любая", музычная камедыя-фарс "Цётка Чарлі", мюзікл "Чорт і нявінніца", reality-мюзікл "www.СІЛІКОНАВАЯ ДУРНІЦА.net", "Мёртвыя душы" (гогаль-могаль у двух актах), класічныя аперэты "Цыган-прэм'ер" і "Прынцэса цырка". Таксама запрашаем гледачоў на двухактовы рамантычны шпацыр у Часе пад музыку савецкіх кампазітараў пад назваю "Парк савецкага перыяду" і на гала-канцэрт "Зоркі тэатра ззяюць для вас", якім завершацца гастролі". Пасля вяртання гораду Екацярынбургу яго гістарычнага імя тэатр захаваў сваю "брэндавую" назву: Свярдлоўскі, а таксама рэпутацыю "лабараторыі": калісьці савецкай аперэты, сёння — расійскага мюзікла. Для гэтага калектыву, галоўным рэжысёрам якога з'яўляецца народны артыст Расіі Кірыла Стрэжнеў, кампазітары пішуць арыгінальныя творы. Апроч класічнай асновы тут ёсць аркестр народных інструментаў, студыя эстраднага і джазавага вакалу, сусветна вядомы Эксцэнтрык-балет Сяргея Смірнова... Свярдлоўскаму тэатру музычнай камедыі амаль 80 гадоў, але толькі аднойчы, у 1955-м, ён прыязджаў у Мінск. Змянілася не адно пакаленне артыстаў, музыкантаў дый гледачоў. Так што новыя гастролі абяцаюць і тэатру, і публіцы сапраўды залатыя хвіліны новых эмоцый і ўзаемных адкрыццяў.

*Повязі*

# Імідж краіны

**На VIII Кіеўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы адбылася прэзентацыя калектыўнага стэнда нацыянальных асацыяцый выдаўцоў Беларусі, Украіны і Расіі. Удзельнікам і наведвальнікам выстаўкі былі прадстаўлены лепшыя кнігі беларускіх выдавецтваў "Белкніга", "Белкартаграфія", "Беларусь", "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі", "Адукацыя і выхаванне", "Вышэйшая школа", "Пачатковая школа", "Народная асвета", "Мастацкая літаратура", "Літаратура і Мастацтва", "Аверсэв", "Макбел".**

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Арганізатарам і заснавальнікам форуму, у якім прадстаўнікі нашай краіны бяруць удзел штогод, з'яўляецца Дзяржкамтэлерадыё Украіны. Сёлета кніжная выстаўка-кірмаш праходзіла ў Нацыянальным цэнтры культурнага і дзелавога супрацоўніцтва "Украінскі Дом" на Крашчаціку ў Кіеве.

Адкрываючы выстаўку, саветнік Прэзідэнта Украіны Ганна Герман і першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Анатоль Мурахоўскі падкрэслілі выключную важнасць падобных форумаў, падчас якіх адбываецца непасрэднае знаёмства з кнігавыдавецкім працэсам розных краін, абмен вопытам і завязваюцца трывалыя партнёрскія сувязі. Яшчэ было падкрэслена, што кнігі лепш за ўсё ствараюць імідж краіны.

У чатырохдзённую праграму было ўключана больш як 150 мерапрыемстваў: прэзентацыі выдавецтваў і асобных выданняў, тэматычныя "круглыя сталы", майстар-класы і пісьменніцкія аўтограф-сесіі, брыфінгі і дыскусіі. У рамках выстаўкі таксама адбылася акцыя "Літаратурная экспедыцыя" — творчы тур украінскіх і расійскіх пісьменнікаў на параходзе па Дняпры і Чорным моры па маршруце "Кіеў — Адэса". Усяго ў Кіеўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ўзялі ўдзел 118 прадстаўнікоў з розных гарадоў Украіны, Расіі, Балгарыі, Італіі, Азербайджана, Туркменістана, Ірана.

Сярод лепшых прэзентацый выстаўкі былі адзначаны прадстаўленне калектыўнай экспазіцыі Крыма, экспазіцыі "Масква кніжная" і прэзентацыя калектыўнага стэнда нацыянальных асацыяцый выдаўцоў Беларусі, Украіны і Расіі. Беларускія мастацкія выданні, выданні для дзяцей, вучэбная, навуковая, даведачная, навукова-папулярная, гістарычная і публіцыстычная літаратура выклікалі вялікі інтарэс у шматлікіх (было зарэгістравана больш як 8 тысяч) наведвальнікаў выстаўкі.




*Гэтыя кнігі РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў ліку іншых беларускіх выданняў былі прадстаўлены ў Кіеве.*

Беларускія прадстаўнікі таксама ўдзельнічалі ў такім вялікім і значным мерапрыемстве, як нарада выдавецкага актыву Украіны, Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь. На працягу двух дзён абмяркоўваліся пытанні ўзаемнага ўдзелу ў кніжным кірмашовым руху, супрацоўніцтва выдаўцоў з дзяржструктурамі, развіцця навучальнага і навуковага кнігавыдання, пашырэння дзіцячай і электроннай кнігі. Вялася размова пра шэраг сумесных мерапрыемстваў.

*З-пад пяра*

➤ Урачыстае мерапрыемства, прысвечанае памяці славутага паэта-перакладчыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Язэпа Семяжона, адбылося на яго радзіме, у вёсцы Пятровічы Смалявіцкага раёна. Цэнтральнай падзеяй стала адкрыццё кутка паэта ў Пятровіцкай сельскай бібліятэцы. Пасля экскурсіі па вёсцы Пятровічы і знаёмства з экспазіцыяй кутка мастак Святаслаў Федаранка, які добра ведаў Язэпа Ігнатавіча, падарыў землякам паэта яго партрэт і кнігу "Песня пра зубра" з аўтографам Семяжона. А пасля ў зале Дома культуры суседняй вёскі Зарэчча прайшла вечарына "На роднай зямлі".

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

➤ Вольга Патрый, невідушчая спявачка, дыпламант рэспубліканскага конкурсу артыстаў эстрады, лаўрэат міжнароднай прэміі "Філантроп", неаднаразовы лаўрэат конкурсаў і фестываляў аўтарскай песні, ды Валянціна Паліканіна, паэтка, член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Міжнароднай федэрацыі рускамоўных пісьменнікаў, прапанавалі аматарам паэзіі і музыкі вечарыну "Ды будзе ўсім Каханне…", якая прайшла ў канцэртнай зале "Мінск". Таленавітыя жанчыны ўвасобілі ў паэзіі тэму сапраўднага кахання, сяброўства, сям'і, паказалі святло і ўнутраную гармонію чалавека. На ўспамін пра літаратурна-музычную вечарыну наведвальнікам засталіся аўтографы.

**Дар'я ШОЦІК**

➤ Акцыя "Брэст чытае дзецям" стартавала ў аддзеле літаратуры для дзяцей і юнацтва абласной бібліятэкі імя М. Горкага. Яе адкрыў старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар. Губернатар прачытаў навучэнцам школ і гімназіі № 1 горада раздзел "Камянецкая вежа" з кнігі Анатоля Бутэвіча "Званы Нямігі". Падарункі ад Канстанціна Андрэевіча атрымала ў гэты дзень шматдзетная сям'я Сталяровых, якую бібліятэка адзначыла як самую чытаючую. Аддзелу літаратуры для дзяцей і юнацтва старшыня аблвыканкама таксама падрыхтаваў падарунак: каля двухсот асобнікаў розных выданняў.

**Алена ГАРМЕЛЬ**

➤ Прэзентацыя кнігі пісьменніка і журналіста Мікалая Леўчанкі адбылася ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. Леніна. Кніга гэта прысвечана славутаму Чырванасцяжнаму Смаленскаму марскому авіяцыйнаму аб'яднанню, якое ўсе пасляваенныя часы дыслацыравалася ў Быхаве. Гэтае вялікае воінскае фарміраванне было адзіным такога кшталту на тэрыторыі Беларусі. Яно прыкрывала з паветра не толькі нашы тэрыторыі, але і Балтыку, і ўсю заходнюю мяжу вялікай краіны. На прэзентацыю прыйшлі ваеннаслужачыя і навучэнцы Магілёўскага дзяржаўнага бібліятэчнага каледжа імя А. Пушкіна. Успаміны ветэранаў, запрошаных у якасці ганаровых гасцей, суправаджаліся песнямі У. Высоцкага і мультымедыйнай прэзентацыяй.

**Вольга ЗАБІРАН**

➤ На сустрэчу са школьнай і вайсковай моладдзю г. Валожына завіталі вядомыя пісьменнікі Мікола Мятліцкі, Алесь Марціновіч, Уладзімір Саламаха. Сустрэчу вялі кіраўнік народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" раённага Цэнтра культуры Валянціна Гіруць-Русакевіч і дырэктар цэнтральнай раённай бібліятэчнай сістэмы Ірына Зянько. Падчас свята адбылося ўзнагароджанне чатырох юных пераможцаў раённага літаратурнага конкурсу "Маладыя галасы". Пісьменнікі падаравалі юным творцам Валожына свае кнігі, якія былі перададзены ў вясковую бібліятэку.

**Рэгіна ВАЛЯНЦІНАВА**

## Саюзная дзяржава

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА

# Прэмію маладым?

**Гэты год для Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы азначаны вялікай падрыхтоўчай работай — да сакавіка наступнага года чакаюць заявак на атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Чарговы "круглы стол" прайшоў у Цвяры (Расія) і закрануў шмат арганізацыйных пытанняў. Удзел у ім узялі прадстаўнікі Пастаяннага Камітэта і творчай інтэлігенцыі Беларусі і Расіі.**

### Шукаем намінантаў

Выступаючы на адкрыцці пасяджэння, Таццяна Кавалёва, начальнік Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пасткама Саюзнай дзяржавы, згадала пра гісторыю прэміі і яе лаўрэатаў, а таксама акрэсліла задачы на гэты год, які можна ўмоўна назваць падрыхтоўчым, ці, як мне падалося, пошукавым. Людміла Курыловіч, кансультант аддзела сацыяльнай палітыкі Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы, адзначыла, што сустрэчы з прадстаўнікамі творчых саюзаў абедзвюх дзяржаў невыпадковыя: хто, як не яны, ведае сітуацыю, так бы мовіць, знутры. Таму ад удзельнікаў пасяджэння чакалі найперш канкрэтных прапаноў і кандыдатур. І яны паступілі. Сяргей Главюк, арганізатар фестывалю славянскай паэзіі "Поющие письмена", без лішняй сціпласці назваў свята прыкладам цудоўнага міжнароднага праекта, што дапамагае літаратарам славянскіх краін бліжэй пазнаёміцца з творчасцю калег, каб пасля суайчыннікам расказаць пра здабыткі суседніх і роднасных літаратур. Дарэчы, праект вельмі цікавы, аднак паводле ўмоў Палажэння ў конкурсе могуць браць удзел толькі творы.

Андрэй Скарынкін, беларускі паэт, падкрэсліў, што выступае не як прадстаўнік творчага саюза:

— Ад сябе асабіста, як грамадзяніна, чалавека, які мае дачыненне да літаратуры, мастацтва, магу сказаць, што ёсць шэраг вартых імён, якія можна смела прадстаўляць на прэмію Саюзнай дзяржавы. Гэта ўсім вядомы і заслужаны чалавек Іосіф Кабзон, Аляксандр Казінцаў, які шмат гадоў з'яўляецца першым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Наш современник", які год за годам умацоўвае нашыя сувязі, мост нашага сяброўства, адзінства, любові. Таму што культура, мастацтва, паэзія, музыка, сяброўства, любоў не маюць межаў. Хто можа быць вылучаны з беларускага боку, цяжка сказаць, бо вялікае бачыцца на адлегласці. Аднак ёсць дастойныя мастакі, калектывы… Сказаўшы пра Іосіфа Кабзона, не магу не згадаць яшчэ аднаго выдатнага чалавека. Нягледзячы на тое, што ён ужо заслужаны, узнагароджаны многімі медалямі, ордэнамі, званнямі, тым не менш было б справядліва згадаць пра яго. Гэта Ігар Лучанок. Песні яго ведаюць усюды. Калі я бываю ў Расіі, часам прапануюць: "Давайце паспяваем беларускія песні" — і пачынаюць спяваць песні Лучанка, мяркуючы, што яны народныя. І сапраўды, ён унікальны мелодыст. Адчуванне, нібы ён падслухаў мелодыю роднай зямлі. Такія постаці, пакуль яны з намі, трэба ўшанаваць. А моладзь… Яна яшчэ дакажа сваю заслужанасць.

Прыемна, што агучаныя пытанні не застаюцца па-за ўвагай прысутных. Так, Юрый Канаплянікаў, намеснік старшыні Выканкама Міжнароднага таварыства пісьменніцкіх саюзаў, прапанаваў друкаваць творы намінантаў на прэмію (у прыватнасці, літаратараў) на старонках "Общеписательской литературной газеты". І калі гэта будзе зроблена, у Прэміі з'явіцца яшчэ адзін надзейны інфармацыйны партнёр.

Як зазначыла падчас "круглага стала" Людміла Курыловіч, большасць лаўрэатаў прэміі — гэта мастакі. Таму варта падключаць іншыя творчыя саюзы. У сувязі з гэтым надзвычай актуальным было выступленне члена праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў і Міжнароднага СМД, арт-дырэктара прадзюсарскага цэнтра "Класіка" БСМД Валерыя Уколава:

— Вось ужо 25 гадоў Беларускі саюз музычных дзеячаў і Міжнародны саюз музычных дзеячаў звязваюць трывалыя творчыя стасункі. Складана пералічыць усе сумесныя праекты, канцэрты і акцыі. Да прыкладу, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыліся бенефіс-канцэрты "Музыкальное приношение" заслужанаму артысту Беларусі, лаўрэату Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага Валерыю Кучынскаму, народнаму артысту Расіі Генадзю Праватораву. Данінай памяці вялікім артыстам сучаснасці сталіся канцэрты-рэквіемы народным артыстам СССР Ірыне Архіпавай і Мікалаю Пятрову. Увогуле ў нас вельмі шмат задум — і на гэты год, і надалей.

Падчас пасяджэння "круглага стала" беларуская дэлегацыя таксама расказала прысутным пра выдатны праект — рок-оперу "Курган", створаны калектывам аўтараў у складзе Ігара Лучанка, Валянціна Дудкевіча і Андрэя Скарынкіна. Беларускаму гледачу яна была прэзентавана ў лютым мінулага года. У аснове рок-оперы ляжыць паэма Янкі Купалы "Курган" і "Уступ да паэмы", а таксама кантата Ігара Лучанка для салістаў, хору і сімфанічнага аркестра, перапрацаваная Уладзімірам Мулявіным у паэму-легенду "Гусляр". Новае прачытанне твора ўяўляе сабой цэласны і відовішчны спектакль, у якім прадстаўленыя не толькі асноўныя сцэнічныя жанры, але і практычна ўсе віды мастацтва — паэзія, музыка, вакал, харэаграфія, драма, выяўленчае мастацтва.

### Зменам быць!

З аднаго боку, фармат гэтага "круглага стала" прадугледжваў у большай ступені канкрэтныя прапановы па кандыдатурах намінантаў, аднак і падчас яго былі акрэслены некаторыя пытанні, адказы на якія дала Таццяна Кавалёва.

**— На папярэдніх пасяджэннях, як і сёння, абмяркоўвалі сярод іншых і неабходнасць больш шырокай інфармаванасці пра прэмію. Наколькі дапамогуць вырашыць гэтую праблему выезды ў розныя рэгіёны абедзвюх дзяржаў і куды яны запланаваны?**

— Цяжка ажыццявіць паездкі ва ўсе вобласці, але выбіраем культурныя цэнтры. Цвер, да прыкладу, мы ведаем не толькі дзякуючы фестывалю "Поющие письмена". Гэта і фестывалі "Музыкальная осень в Твери", і Бахаўскі, і заснаваны вядомай опернай спявачкай Ірынай Архіпавай "Музыкальное лето Селигера"… Такім чынам, я хацела зазначыць, што Цвер абрана невыпадкова — тут нямала культурных падзей, мерапрыемстваў, якія аб'ядноўваюць Беларусь і Расію. Таму важна праводзіць выязныя пасяджэнні па пытаннях прэміі якраз там, дзе ёсць аўдыторыя, гатовая гэта ўспрыняць і актыўна ўключыцца ў работу па выбары твораў. І, безумоўна, мы шукаем ідэі для ўдасканалення прэміі. Вось прагучала пытанне: чаму, прыкладам, фестывалі не могуць удзельнічаць у конкурсе? І сапраўды, трэба падумаць, каб такія праекты таксама ўключыць. З'яўляюцца і новыя партнёры — далучылася міжнародная супольнасць пісьменніцкіх саюзаў, якая прапануе актыўнае супрацоўніцтва. Трэці кірунак — гэта знаходкі. Да прыкладу, я трымаю ў руках падарунак ад арганізатара фестывалю "Поющие письмена" — анталогію беларускай паэзіі "Из века в век". Акрамя таго, на такіх пасяджэннях самі творцы літаральна знаходзяць адзін аднаго — і нараджаюцца новыя цікавыя праекты. Але ключавая задача — зрабіць так, каб да сакавіка наступнага года на сталах міністэрстваў культуры Беларусі і Расіі ляжала як мага больш заявак, а ў СМІ была інфармацыя пра гэтыя творы, якія адлюстроўваюць нашыя агульныя думкі, памкненні, гісторыю.

**— І як вы казалі сёння, гэта не абавязкова вядомыя імёны…**

— Так. Якраз адна са стратэгічных задач — знайсці творы не толькі аўтараў вядомых, паважаных, ужо любімых, але, магчыма, сярод рэгіянальных, не так шырока прадстаўленых на постсавецкай прасторы, але вядомых у канкрэтным рэгіёне, маладых. Гэта вельмі важна. І, магчыма, наша прэмія якраз і паспрыяе таму, каб гэтыя творы, а яны, безумоўна, павінны адпавядаць азначанаму ўзроўню мастацкай вартасці, прафесійнага выканання, атрымалі прызнанне і ў межах усёй Саюзнай дзяржавы. І праз пэўны час яны стануць такімі ж вядомымі, як і папярэднія лаўрэаты прэміі.

**— У такім выпадку і моладзь можа прэтэндаваць на атрыманне прэміі?**

— Безумоўна. Больш за тое, актыўна абмяркоўвалася такая ідэя: пры ўдасканаленні Палажэння ўключыць пункт пра тое, што адна з прэмій (а іх традыцыйна тры) абавязкова прысуджаецца маладым. А Рыгор Рапота, дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы, увогуле прапануе разгледзець варыянты падтрымкі маладых пісьменнікаў: выпускаць зборнік лепшых твораў маладых аўтараў і літаратараў-пачаткоўцаў ці заснаваць асобную прэмію… Магчыма, іх творы не будуць такога ж узроўню, як творы іншых лаўрэатаў, але калі ёсць выдатны пачатак, той, які можа быць пачаткам вялікага шляху, то яго трэба абавязкова падтрымаць. Саюзная дзяржава — гэта праект, скіраваны ў будучыню. І, адпаведна, усё, што сёння адбываецца ў Саюзнай дзяржаве, перш за ўсё арыентавана на моладзь.

**— Ці магчыма ўжо перад прэміяй наступнага года ўнесці ў Палажэнне адпаведныя змены?**

— Якраз цяпер гэта абмяркоўваецца, і пэўныя ўдакладненні будуць. У прынцыпе, Палажэнне не патрабуе кардынальных змен, і гэта даказала практыка прысуджэння прэміі. Але нейкія ўдакладненні магчымыя. І пры ўмове, што яны будуць падтрыманы членамі Саветаў міністраў саюзных дзяржаў, яны атрымаюць афіцыйную прапіску ў Палажэнні.

# Волаты ўсходнеславянскіх літаратур

Дар'я ШОЦІК,
фота Кастуся Дробава

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адкрылася выстаўка "О, Вільня, крывіцкая Мекка!" арганізаваная сумесна з Літаратурным музеем Аляксандра Пушкіна ў Вільні.**

Пра добрыя стасункі паміж Вільнюсам і Мінскам сведчыць тое, што ў мінулым годзе было заключана пагадненне аб супрацоўніцтве музеяў Пушкіна і Коласа. Дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская расказала, што выстаўка знаёміць наведвальнікаў з каштоўнымі і цікавымі экспанатамі. Гэта і рукапісы лістоў песняра ў рэдакцыю газеты "Наша Ніва", і розныя рэчы з дома сваякоў жонкі Якуба Коласа Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч.

З вітальным словам выступілі намеснік главы адміністрацыі Першамайскага раёна г. Мінска Аляксей Каштальян, начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Вадзім Шчэрбіч.

— Дзякуй літоўскаму боку за супрацоўніцтва і ўзаемадзеянне культур, якое ажыццяўляецца дзякуючы такім творчым праектам, — падкрэсліў Вадзім Міхайлавіч.

Дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец, у сваю чаргу, зазначыў:

— Якуб Колас і Аляксандр Пушкін — гэта два волаты ўсходнеславянскіх літаратур. Яны розныя паводле свайго сацыяльнага паходжання, але роўныя паводле сваёй ролі ў развіцці нацыянальных моў, літаратур і культур. Вельмі важна і знакава, што пасля смерці яны пасябравалі і сталі частымі гасцямі адзін у аднаго. Прыемна, што такое мерапрыемства праходзіць у год 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, творчасць якога не страціла сваёй значнасці і на пачатку XXI стагоддзя. Упэўнены, што пакуль будуць існаваць літаратурныя музеі і праводзіцца цікавыя імпрэзы, будзе жыць і беларускі народ, і беларуская культура, і беларуская літаратура, і беларуская мова.

Пра сувязі Якуба Коласа з Вільнюсам распавяла ў сваім выступленні галоўны захавальнік Літаратурнага музея Аляксандра Пушкіна Дайнора Аўкштакене. Значным падарункам для музея Песняра стала копія фотапартрэта цесця пісьменніка — Дзмітрыя Каменскага, а таксама пераклады твораў народнага паэта на літоўскую мову. Адзін з вершаў зачытала Дайнора Аўкштакене.



*Падарунак ад літоўскіх калег музею Якуба Коласа.*

Нагадаем, што газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр грамадска-літаратурнай акцыі "130 прысвячэнняў Песняру", якую распачаў музей.

# Полацк. Гучыць горда!

## Полацк — гісторыя, душа і дзяржаўнасць Беларусі. Вось ён — лейтматыў святкавання юбілею.

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота БелТА**

Гаворачы пра Полацк на адкрыцці ўрачыстасцей, прысвечаных яго 1150-годдзю, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што "гэты горад з любоўю называюць сэрцам беларускай зямлі. У гэтым горадзе абавязкова павінен пабываць кожны беларус, каб, дакрануўшыся да вытокаў айчыннай гісторыі, адчуць гордасць за сябе і свой працавіты і таленавіты народ".

— Тут, у геаграфічным цэнтры Еўропы, — лічыць Прэзідэнт, — абавязкова павінен пабываць і кожны еўрапеец. Павандраваўшы па вуліцах, дзе больш як за тысячу гадоў перапляліся традыцыі Захаду і Усходу, розныя веры і культуры, лягчэй будзе зразумець: наша агульнае мінулае — крок да агульнай будучыні.

Аляксандр Лукашэнка сардэчна павіншаваў палачан з вялікім святам. А на вуліцах горада дацямна працягвалася святочнае гулянне. Пачаткам яго стаў яркі канцэрт "Полацк мой, мая памяць і гонар", на якім гледачы не толькі пазнаёміліся з гісторыяй горада, але і ўбачылі ўсіх яго знакамітых гістарычных асоб. Тут, на плошчы Свабоды, жыхароў і гасцей віншавалі Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча, кампазітар, народны артыст Беларусі Э. Ханок, ансамблі "Песняры", "Чысты голас", "Харошкі", тэатр танца "Прэм'ер-Спонайд".

У святочным канцэрце ўдзельнічалі і мясцовыя таленты — заслужаны аматарскі калектыў "Юнацтва", народны ансамбль народнай песні і музыкі "Радзімічы", узорны вакальна-харэаграфічны ансамбль "Камарыкі", народны тэатр гістарычнага касцюма "Полацкі звяз". Ужо адзін гэты пералік сведчыць пра тое, што на Полаччыне захавалася багатая духоўная спадчына, якая выяўляецца ў самых розных жанрах вусна-паэтычнай творчасці, за якой стаяць невычэрпная фантазія народа, яго талент і мудрасць.

Рамкі артыкула не дазваляюць падрабязна расказаць пра свята, якое ўсімі колерамі вясёлкі разлілося па вуліцах горада. Назавём толькі некаторыя з мерапрыемстваў. У праграме праекта "Шэдэўры сусветнага мастацтва ля сцен Старажытнай Сафіі" адбыўся гала-канцэрт "Мелодыі нашага часу". У гэты вечар над паўнаводнай Дзвіной гучала музыка славутых расійскіх кампазітараў Эдуарда Арцем'ева, Генадзя Гладкова, Аляксандра Зацэпіна і Мікаэла Тарывердзіева. Музыка да кінафільмаў, створаная гэтымі аўтарамі, не проста ўпрыгожыла мноства савецкіх і расійскіх карцін, але і набыла самастойнае жыццё па-за кінаэкранам. У выкананні сімфанічнага аркестра, салістаў і хору Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра прагучалі мелодыі з фільмаў "12 стульев", "Формула любви", "Человек с бульвара Капуцинов", "Джентльмены удачи", "Кавказская пленница", "Раба любви" і многіх іншых.

У Музеі беларускага кнігадрукавання адбылася прэзентацыя кнігі "Полоцк — Смоленск: вехи общей судьбы" (аўтары Навум Гальпяровіч і Наталля Ваніна). Яна



пабачыла свет у выдавецтве "Пачатковая школа" пры падтрымцы Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы. Кніга ўяўляе сабой своеасаблівы даведнік па Полацку і Смаленску, расказвае пра гісторыю гэтых гарадоў ад першых успамінаў у летапісе да сучаснасці. Частка тыражу будзе накіравана ў бібліятэкі і навучальныя ўстановы Беларусі, а частка — у Смаленск.

На гэтым тыдні ў горадзе-юбіляры прайшло свята апошняга званка "Выпускнік-2012". Сёння, ў Міжнародны дзень абароны дзяцей, адбудзецца адкрыты гарадскі вакальны дзіцячы канцэрт "На крылах мары". Заўтра тут пройдзе фэст сярэдневяковай культуры "Рубон", клубы гістарычнай рэканструкцыі з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Чэхіі накіравалі сюды сваіх рыцараў, каб прадэманстраваць сілу ў турнірах і мужнасць пры ўзяцці замка — захапляльнае дынамічнае відовішча. У суботу і нядзелю над старажытным горадам будуць гучаць званы, разносіцца царкоўныя спевы. На конкурс праваслаўнай творчасці "Полацк збірае землякоў" з'едуцца званары, спевакі, музыкі з Беларусі і суседніх краін.

Згодна з афіцыйнай інфармацыяй, у мінулыя выхадныя ў горад завітала больш як 10 тысяч гасцей. Не менш іх будзе заўтра і паслязаўтра. Усяго ва ўрачыстасцях занята каля трох тысяч артыстаў з розных куткоў Беларусі, а таксама з 15 гарадоў-пабрацімаў Полацка. Яны выступаюць на шасці канцэртных пляцоўках, галоўная з якіх — плошча Свабоды. У памятнага знака "Ў" размясціўся "Крывіцкі кірмаш", альбо ярмарка рамёстваў. Паэты і празаікі, вядомыя грамадскія дзеячы — ураджэнцы Полацка — выступаюць ля помніка Сімяону Полацкаму. Трэцяя пляцоўка — плошча Францыска Скарыны — аддадзена дзецям і моладзі. Ад знака "Цэнтр Еўропы" і да цэнтральнай плошчы — маладзёжная фотавыстаўка.

Закончацца ўрачыстасці 5 чэрвеня. Горад адзначыць Дзень памяці Святой Еўфрасінні — асветніцы, заступніцы зямлі беларускай. У Спаса-Праабражэнскім храме і Хрыста-Узвіжанскім саборы пройдуць Боскія літургіі. Галоўную з іх будзе служыць Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі.

…Полацк — горад-юбіляр, горад-легенда, горад-дзяржава, горад на векі вечныя — чакае новых гасцей.

***Партрэт на фоне кнігі***

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

# Самае яркае ўражанне ад дзяцінства — само дзяцінства

**Зайшла неяк у школу, дзе вучацца мае дзеці, падчас вялікага перапынку і міжволі стала сведкай рэдкага па нашых часах дзіцячага баўлення часу. Вучні малодшых класаў згуртаваліся вакол сваёй сяброўкі, якая зачытвала ім фрагменты з кнігі, раз-пораз перарываючыся для каментарыя. Кніга аказалася казачнай аповесцю беларускага пісьменніка Генадзя Аўласенкі "Удивительные приключения маленького Ветерка из Вентилятора".**

Калі школьны настаўнік біялогіі Генадзь Аўласенка рыхтаваў ужо ў сталым узросце да друку сваю першую кнігу — а гэта былі вершы, — ён яшчэ не ведаў, што будуць у яго і п'есы, і фантастычная проза. Але самымі запатрабаванымі стануцца казкі для дзяцей. Ды, пэўна, ён нават не ўяўляў сабе, што наогул стане калі-небудзь пісаць дзіцячую літаратуру. Дзіцячым аўтарам Генадзя Пятровіча зрабіла… дачка Каця.

— Кожны вечар я чытаў ёй кнігі, — узгадвае літаратар. — А потым захацелася і самому скласці для яе казку. І яшчэ адну. І — яшчэ. Кацярынка была самым першым слухачом і галоўным крытыкам маіх дзіцячых твораў. Калі ёй штосьці не падабалася, я, давяраючы яе густу, перапісваў казку. Дарэчы, маленькі Ветрык з Вентылятара "нарадзіўся" дзякуючы менавіта ёй. У мяне выйшла ўжо тры кнігі пра прыгоды Ветрыка, і дзяўчынка Кацярынка прысутнічае ва ўсіх трох. І па-ранейшаму наведвае дзіцячы садочак нумар пяць, хаця сапраўдная Кацярынка ўжо даўно стала дарослай.

**— Тата, які чытае ці то расказвае па памяці перад сном добрую казку, — такі эпізод дзяцінства, безумоўна, запамінаецца на ўсё жыццё, азараючы яго дабрынёй і святлом. А якое самае яркае ўражанне вашага, Генадзь Пятровіч, дзяцінства?**

— Думаю, што самае яркае ўражанне ад дзяцінства — гэта само дзяцінства. Але, безумоўна, яно складаецца з чарады светлых эпізодаў. Памятаю, да прыкладу, як бацька прывёз з рыбалкі амаль двухметровага шчупака, злоўленага на спінінг. Мне тады было гадоў пяць, і запомнілася гэтая велізарная рыбіна, у некалькі разоў большая за мяне самога. Кракадзіл нейкі, а не шчупак! А аднойчы раніцай я сам пабег на раку з уласнай вудай, і мяне прынаду



адразу ж ухапіў здаравенны язь ці лешч. Тоненькая леска, вядома ж, не вытрымала. Я стаяў ля вады і плакаў ад крыўды. Не таму нават, што не змог выцягнуць рыбіну, а таму, хутчэй, што ведаў: ніхто мне не паверыць…

**— А што трэба, каб дзеці паверылі ў праўдзівасць створанага пісьменнікам? Асабліва дзеці сённяшнія, прагматыкі?**

— Сапраўды, прагматызму ў сучасных дзяцей значна больш, чым было, скажам, у часы майго дзяцінства, але сцвярджаць, што ўсе сучасныя дзеці перасталі марыць, нельга. Проста яны марацьстаць не касманаўтамі, лётчыкамі ці геолагамі, а зоркамі эстрады, знакамітымі спартсменамі, паспяховымі топмадэлямі. А няхай і бізнесменамі. А пісьменніку дзеці павераць, калі ён павядзе з імі давяральную гутарку пра тое, што ім блізка.

**— Ці можна пасродкам дзіцячай літаратуры сёння выхоўваць любоў да Радзімы альбо пісьменніку марыць пра гэта — утапічна?**

— На мой погляд, любоў да Радзімы, як і любоў да жанчыны, гэта пачуццё настолькі інтымнае, што пра яго нельга крычаць на кожным кроку. І нельга сілком прымусіць кагосьці любіць Радзіму, бо ў гэтым выпадку замест любові атрымаем штосьці зусім супрацьлеглае. А вось выкарыстоўваць літаратуру (у тым ліку і дзіцячую) у якасці сродку для выхавання адданасці сваёй Радзіме, гарачай любові да яе, не толькі магчыма, але і жыццёва неабходна. Але гэта не павінны быць агіткі ў стылі ранняга Маякоўскага. Адзін невялікі лірычны верш, прасякнуты сапраўднай любоўю да роднага краю, можа ў гэтым сэнсе даць куды больш карысці, чым цэлая сотня гучных, але галаслоўных заклікаў і пажаданняў…

**— Акрамя казачных аповесцей для дзяцей вы пішаце таксама "казкі для дарослых" — я маю на ўвазе фантастыку. Як вы тлумачыце вялікую цікавасць маладых людзей да яе?**

— Фантастыка, тым больш фэнтэзі, — гэта і сапраўды казка для дарослых. Але, з другога боку, дзіцячая казка — гэта тая ж фантастыка, у якой ажывае Калабок, Курка-Рабка гаворыць чалавечым голасам, а Пакацігарошак змагаецца з Цмокам і, вядома ж, перамагае яго, бо ў казках дабро заўсёды павінна перамагаць зло… І, хутчэй за ўсё, дарослыя аматары фантастыкі не таму застаюцца гарачымі яе прыхільнікамі, што не нагуляліся ў дзяцінстве альбо ў іх жыцці не хапае экстрыму. Проста, на мой погляд, гэта людзі з багатай фантазіяй, і з іх, дарэчы, атрымліваюцца самыя паспяховыя вучоныя.

**— Ці часта вы адчуваеце задавальненне ад уласнай творчасці?**

— Калі чытаеш уласны твор, які толькі што выйшаў у свет (не мае значэння, асобнай кніжкай альбо на старонках таго ці іншага перыядычнага выдання), міжволі пачынаеш шукаць у ім нейкія недахопы, пастаянна хочацца штосьці выправіць, змяніць, палепшыць. І гэта нармальная з'ява для кожнага пісьменніка. Калі табе пачынаюць падабацца ўсе без выключэння ўласныя творы — гэта міжволі насцярожвае і, магчыма, нават з'яўляецца першай прыкметай графаманства. А задавальненне я атрымліваю, хутчэй, у працэсе самой творчасці. Калі раптам з-пад тваёй пяра (дакладней, клавіятуры) пачынаюць нараджацца амаль жывыя героі, якія думаюць, размаўляюць, дзейнічаюць. І толькі ад цябе залежыць, як распарадзіцца іх далейшым лёсам… Гэта цяжка перадаць словамі. Напэўна, штосьці падобнае адчуваў Усявышні, ствараючы за шэсць дзён Сусвет…

**— Шчасце — што гэта, па-вашаму? І што такое няшчасце?**

— Як сказаў адзін мудры чалавек, шчасце — гэта калі раніцай з радасцю ідзеш на працу, а вечарам з радасцю ідзеш дамоў. І гэта сапраўды так, лепш, пэўна, ужо і не скажаш… Што ж да мяне асабіста, то найбольш шчаслівым я адчуваю сябе, калі трымаю ў руках сваю новую кнігу, якая толькі што выйшла, калі пачынаю яе гартаць. Але гэта толькі кароткае імгненне, і яно хутка праходзіць. І зноў адчуваеш незадаволенасць і сабой, і сваёй творчасцю. І тое не атрымліваецца, і гэта зроблена не так. А няшчасце... Я думаю, для пісьменніка самае вялікае няшчасце, калі анічога не пішацца. І даволі працяглы час. Калі нават сама думка пра тое, каб сесці за камп'ютар, выклікае амаль агіду…

Акрамя цяпер ужо трылогіі пра Ветрыка з Вентылятара Генадзь Аўласенка падарыў нашым дзецям вясёлую аповесць пра Васю Лайдачкіна ў краіне Шкодных звычак.

— Але, — кажа пісьменнік, — у мяне ёсць не толькі аповесці, а невялікія казачкі на тэмы беларускай прыроды (пра жывёл, расліны і наватз'явы прыроды). Нядаўна я аб'яднаў большасць гэтых маленькіх казачак у кнігу пад агульнай назвай "Казкі Дзядулі Дняпра". Рукапіс гэтай кнігі знаходзіцца цяпер у РВУ "Літаратура і Мастацтва" і, спадзяюся, хутка пабачыць свет.

Яўген ГАРАДНІЦКІ

# На крылах рамантыкі

**Тамара Чабан... Гэтае імя час ад часу з'яўляецца ў спасылках літаратуразнаўчых і крытычных прац, згадваецца сучаснымі даследчыкамі. Цытуюцца яе працы. Такім чынам і працягваецца пасмяротнае жыццё крытыка, літаратуразнаўцы — у жывых водгуках на створанае, здзейсненае.**

Кнігі, артыкулы, рэцэнзіі, вусныя выступленні... Спецыфіка літаратурна-крытычнай творчасці звязана ў многім з яе ўздзеяннем на літаратурны працэс, з кантэкстам свайго часу. Па-за гэтым кантэкстам часта многае з даробку крытыка, літаратуразнаўцы страчвае сваю актуальнасць, свае канататыўныя, звязаныя з канкрэтнай літаратурнай сітуацыяй, сэнсы. Тое, што было калісьці гарачай магмай дыскусій, спрэчак, гіпотэз і інтэрпрэтацый, становіцца з часам ***гісторыяй***.

Аднак тое, што непарыўна знітавана з канкрэтна-гістарычным бытаваннем, у многіх выпадках усё ж такі не становіцца чымсьці цалкам “нечытэльным” для новага часу. Шмат што з сапраўды вартага ў галіне літаратуразнаўства і літаратурнай крытыкі пераўжывае свой час, застаецца актуальным і ў новую эпоху.

Тамара Чабан, глыбокі даследчык беларускай літаратуры, найперш паэзіі, удумлівы і зацікаўлены крытык з аналітычным дарам пранікнення ў сутнасць тэндэнцый літаратурнага развіцця, пісала ў асноўным пра сучасную ёй літаратуру. Пра тую літаратуру, якая ўжо стала гісторыяй. І якая, разам з тым, і сёння ўспрымаецца як адна з непераўзыдзеных эстэтычных вяршынь. Мы, жывучы і працуючы ў новым стагоддзі і нават тысячагоддзі, азіраючыся на яе, гэтую вяршыню, адчуваем яе магнетычнае ўздзеянне. Аднак жа літаратурны працэс не спыняецца. Сёння пішуцца новыя творы, праз якія нашы сучаснікі спрабуюць выказаць свае дачыненні з часам.

Тамара Чабан засталася ў тым часе, у той эпосе, аддзеленай ад нас цяпер рубяжом стагоддзяў. Хоць магла б жыць і сёння, сустракаючы свой шасцідзесяцігадовы юбілей, радуючыся творчым здабыткам пісьменнікаў, турбуючыся пра стан роднай літаратуры.

Яна нарадзілася 31 мая 1952 года на Глыбоччыне, у краі азёрным, легендарным. Там, “паміж Мнютай і Авутай”, дзвюма беларускімі рэчкамі, што нясуць свае воды да Дзвіны, хадзіў калісьці з падарожным кіем і мастакоўскімі прыладамі ў руках Язэп Драздовіч. Ідучы ад вёскі да вёскі, малюючы для аздаблення вясковых хат свае дзівосныя дываны, зазіраў ён, мабыць, і на хутар Чабаны. Тым больш што непадалёку знаходзіцца ўвекавечаная ім Гараватка. Там жа, на Глыбоччыне, у Падсвільскай лякарні завяршыліся дні “вечнага вандроўніка”. Неўзабаве пасля гэтага ў Падсвільскую бальніцу патрапіла ў цяжкім стане, з запаленнем, трохгадовая Тамара. Была пэўны час на мяжы жыцця і смерці. Аднак тады дактары ўратавалі яе.

Яшчэ бліжэй да Тамарынай вёскі, літаральна за дзесяць кіламетраў, роднае паселішча і месца спачыну другога выдатнага беларуса — Ігната Буйніцкага. Палівачы, Празарокі...

Тамара Канстанцінаўна любіла сваю “малую радзіму” любоўю дачкі. Ды і як не палюбіць гэты цудоўны край з яго бяздоннымі азёрамі, разлеглымі да далягляду палямі і пералескамі.

Калі ўзнікла пагроза затаплення поймы Дзвіны ў сувязі з будаўніцтвам у 1980-я гады Даўгаўпілскай ГЭС і грамадскасць была ўстрывожаная магчымымі экалагічнымі наступствамі, Тамара Чабан адной з першых у Беларусі адгукнулася на заклік латышскага журналіста Дайніса Іванса і ўзяла актыўны ўдзел у змаганні супраць рэалізацыі гэтага неабдуманага праекта. Пісала звароты, збірала подпісы. Не будучы па сваёй натуры грамадскай актывісткай, цураючыся наогул усякай мітусні, яна, тым не менш, шчыра аддалася гэтай справе. Таму што гэта была яе родная зямля, частка яе душы. Тут ужо выходзілі на першы план як этычныя, так і эстэтычныя матывы. Для яе такія катэгорыі, як ***роднае*** і ***прыгожае***, былі паняццямі амаль тоеснымі. Яе “душу ўзгадавалі”, калі карыстацца выслоўем У. Караткевіча, узгоркі і даліны роднай Глыбоччыны, блакіт нябёсаў, адбіты ў сіні азёр.

Мабыць, з гэтага адчування асабістай далучанасці да загадкавага быцця прыроды і выспела ў душы дзяўчыны з глыбоцкай вёскі захопленасць паэзіяй. Прыроднае натуральна спалучалася з кніжным, адкрываючыся пры гэтым новымі гранямі, набываючы прыхаваныя раней сэнсавыя адценні.

Яскравым прыкладам такой цеснай паяднанасці прыроднага і кніжнага можа служыць наступны малюнак. Гэта з апавядання калісьці самой Тамарай з яе дзіцячых гадоў. Ідзе яна па бальшаку — а дарога да школы з іх хутара, тады яшчэ не перанесенага па загадзе ўлад у вёску, — няблізкая. І чытае на хаду кніжку. Сустракаючы і сёння кагосьці, хто на хаду чытае што-небудзь, у наш нелітаратурацэнтрычны, нечытацкі век, я згадваю гэтую дзяўчынку з кніжкаю ў руках на палявой дарозе, што віецца з узгорка на ўзгорак між вясёлкавага разнатраўя. Бо і сам калісьці меў такую звычку — зачаравана пагружацца ў свет мастацкага вымыслу. Наогул, мае пэўнае значэнне ва ўспамінах не толькі *што*, а і дзе і калі мы чыталі нейкую рэч. Таму што асяроддзе, акаляючы свет усё ж такі даюць пра сябе знаць нават і тады, калі іх, здаецца, не заўважаеш. Расказвала Тамара Канстанцінаўна і пра тое, як яна залазіла на верх драбіны, прыстаўленай да даху хаты, і там уладкоўвалася з кнігай. Той краявід, што адкрываўся ёй з гэтага “назіральнага пункта”, таксама ж уваходзіў нейкім чынам, няхай хоць бакавым зрокам схоплены, у кантэкст чытання.



Вядома, быў пасля філалагічны факультэт БДУ, які Т. Чабан скончыла з дыпломам выдатніка. Ужо падчас вучобы праявіліся ў поўнай меры такія яе якасці, як настойлівасць у дасягненні мэты, працавітасць, уседлівасць, імкненне да пастаяннага пашырэння свайго кругагляду. Тыя якасці, якія пасля вельмі спатрэбіліся Чабан-даследчыцы. Яна валодала аналітычным складам мыслення. Не магла брацца за распрацоўку якой-небудзь тэмы, што называецца, “з наскоку”, ёй патрэбна было спачатку ўжыцца ў гэтую тэму, грунтоўна абдумаць усе звязаныя з ёю пытанні, магчымыя падыходы. І толькі потым адбывалася пагружэнне ў працу, прычым пажадана было засяродзіцца на гэтай працы надоўга, каб нішто іншае не адцягвала ўвагі. “Абдумаць спосабы, і матар'ял, і мэту...”, — як пісаў адзін з любімейшых яе паэтаў Максім Багдановіч.

> *“Адчуваючы тэму дысертацыі знутры, успрымаючы не проста як вырашэнне асобнай навуковай задачы, а ў першую чаргу як выяўленне свайго ўласнага бачання шляхоў развіцця айчыннай паэзіі, таго галоўнага, што надае слову паэта быццёвую паўнаважкасць, Т. Чабан горача адстойвала ў спрэчках сваё разуменне ролі рамантызму ў сучасным літаратурным працэсе. Сама ў душы застаючыся ўсё жыццё рамантыкам, яна пераканаўча сцвярджала плённасць рамантычнага шляху сучаснай паэзіі...*

Мэтанакіраванасць, сканцэнтраванасць на галоўным, здольнасць да прадуктыўнай працы ў любых умовах аказаліся вельмі патрэбнымі якасцямі пасля заканчэння ўніверсітэта, калі Тамара Чабан сумяшчала завочную вучобу ў аспірантуры з педагагічнай працай, затым з працай у выдавецтве. Размеркаванне яна, на сваю радасць, атрымала ў родныя мясціны. Чатыры гады, з 1974 па 1978, адпрацавала ў сярэдняй школе ў пасёлку Ветрына на Полаччыне, у суседнім з Глыбоцкім раёне. У гэтай жа Ветрынскай школе, толькі зусім у іншы час, у другой палове трыццатых гадоў, выкладала мову і літаратуру Марына Барсток, даследчыца беларускай паэзіі, з якой жыццёвыя шляхі Чабан пазней перакрыжаваліся ў акадэмічным Інстытуце літаратуры.

Увогуле жыццё даволі часта самым дзівосным чынам пераплятае чалавечыя лёсы. Я паступаў на філалагічны факультэт у 1969 годзе (пасля няўдалай спробы паступлення на хімфак) разам з Тамарай Чабан. Праўда, тады, у агульнай абітурыенцкай грамадзе, яна мне не запомнілася, тым больш што вучыцца разам не давялося — я перавёўся на вячэрняе аддзяленне. А сустрэліся мы ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, які стаў для нас родным. Менавіта ён злучыў нашы лёсы, у яго сценах мы працавалі поруч, у адным аддзеле, займаючыся блізкімі праблемамі даследавання тэорыі літаратуры, галоўным чынам паэзіі. Сталі затым блізкімі і па жыцці.

Т. Чабан прываблівала грунтоўная акадэмічная навука, яна адчувала схільнасць да паглыблення ў таямніцы паэтычнага слова, пошуку заканамернасцей літаратурнага працэсу. Аднак жа яе цікавіла і тое, як гэтае слова адгукаецца ў свядомасці чытача, якое непасрэднае ўздзеянне яно аказвае на духоўны стан грамадства. Рэалізацыі гэтых практычных мэт садзейнічала праца ў школе. Там выявіліся ў поўнай меры ўласцівасці характару Т. Чабан як рамантычна настроенай, духоўна акрыленай асобы. Яна не толькі знаёміла школьнікаў з мастацкім светам літаратуры, далучала іх да скарбаў нацыянальнай культуры, але і імкнулася знайсці паразуменне з кожным вучнем, падтрымаць іх. З тым класам, дзе яна была класным кіраўніком, узаемаадносіны наогул былі асаблівыя. Захаваліся шматлікія здымкі, на якіх маладая настаўніца разам са сваімі падапечнымі ў вандроўках па родным краі, на ўлонні прыроды. Пры гэтым педагога амаль не адрозніш ад выхаванцаў. Калі Тамара Канстанцінаўна ўжо жыла і працавала працяглы час у Мінску, пакінуўшы школу і сваіх гадаванцаў, некаторыя з іх і лісты пісалі былой настаўніцы, і прыязджалі да яе дадому, каб падзяліцца радасцю або клопатамі. Тамарына маці расказвала, што развітанне са школай і дзецьмі наогул было са слязьмі.

Аднак жа наступаў новы перыяд у жыцці Тамары Чабан. Яна разумела гэта. Клікала новае поле дзейнасці, з якога патрэбна было зняць новы ўраджай. Навуковы, даследчыцкі патэнцыял чакаў сваёй рэалізацыі.

З прыездам у сталіцу Т. Чабан уладкоўваецца карэктарам у акадэмічнае выдавецтва “Навука і тэхніка”. Такім чынам, шлях да навукі аказаўся няпростым. Праца карэктара — нялёгкая, патрабуе напружанай увагі, сканцэнтраванасці на тэксце на працягу ўсяго рабочага дня, пільнага ўчытвання ў кожную літарку. Працаваць над дысертацыяй даводзілася ў вячэрні час. Адразу пасля завяршэння рабочага дня, павячэраўшы па дарозе ў бліжэйшай сталовай, Т. Чабан ішла ў акадэмічную бібліятэку, дзе праседжвала над кнігамі да закрыцця. Што ж, вясковая дзяўчына з працавітай сялянскай сям'і здаўна звыклася з тым, што лёгкіх сцяжын у жыцці не бывае, што толькі ў працы здабываецца неабходны плён. І ў выніку, прыйшоўшы ў 1981 годзе на працу ў Інстытут літаратуры, Тамара Чабан мела ўжо, па сутнасці, завершаную дысертацыю, якую і абараніла паспяхова ў наступным годзе.

Як бачым, дысертацыйная тэма выношвалася даволі доўгі час. Над ёй аўтар працавала грунтоўна і захоплена. Адчуваючы яе знутры, успрымаючы не проста як вырашэнне асобнай навуковай задачы, а ў першую чаргу як выяўленне свайго ўласнага бачання шляхоў развіцця айчыннай паэзіі, таго галоўнага, што надае слову паэта быццёвую паўнаважкасць. Яна горача адстойвала ў спрэчках сваё разуменне ролі рамантызму ў сучасным літаратурным працэсе. Сама ў душы застаючыся ўсё жыццё рамантыкам, яна пераканаўча сцвярджала плённасць рамантычнага шляху сучаснай паэзіі, правамернасць існавання такой катэгорыі ў сучаснай мастацкай свядомасці.

Да выхаду на абарону дысертацыі ў Т. Чабан ужо мелася манаграфія, выдадзеная “Навукай і тэхнікай” у 1982 годзе. З'ява наогул рэдкая ў практыцы навуковых абарон. На тыя часы, калі патрабаванні да саіскальнікаў навуковых ступеняў былі не такія жорсткія, як цяпер, дастаткова было мінімальнай колькасці апублікаваных артыкулаў. Гэтая невялікая фарматам, але ёмістая сваім зместам кніга, паэтычна названая “Крылы рамантыкі” (яна мае і навуковы падзагаловак: “Рамантычныя тэндэнцыі ў сучаснай беларускай паэзіі”), на жаль, аказалася адзінай асобнай манаграфіяй даследчыцы. Былі яшчэ раздзелы ў калектыўных зборніках, сумесная з аўтарам гэтых успамінаў манаграфія “Сучасная паэзія і фальклор” (1988). Але “Крылы рамантыкі” застаюцца галоўнай працай, той кнігай жыцця, якой быў, напрыклад, для Максіма Багдановіча яго “Вянок”.

Багдановічаў “Вянок” згадаўся невыпадкова. Так сталася, што апошняй буйной працай Тамары Чабан — па сутнасці, яе лебядзінай песняй — з'яўляецца артыкул пра адзіную кнігу Багдановіча — «Космас “Вянка”», які быў надрукаваны ў якасці літаратурнага каментарыя ў першым томе поўнага збору твораў класіка (1991), а затым перадрукаваны ў часопісе “Полымя”. Пісалася гэтая праца, якая і сёння высока ацэньваецца спецыялістамі, ужо, па сутнасці, невылечна хворым чалавекам. Можа, таму з такой скрупулёзнасцю прачытана паэзія вялікага паэта, так дакладна ўгадана агульная канцэптуальная задума яго кнігі. Пісалася як апошняе слова. Хоць да канца і не верылася ў гэта. Праца, як і іншыя, якія выходзілі ў апошнія гады жыцця таленавітага крытыка, сведчыла пра тое, што Тамара Чабан знаходзілася на ўздыме, што крылы рамантыкі ўзносілі яе ўвысь. Ды надламаліся раптам крылы, не вытрымалі напругі, як калісьці Страцімавы.

Новыя кнігі

# Не толькі змест, але і сэнс

**У першую кнігу Любові Аляксеевай "Давным-давно", выдадзеную сталічным выдавецтвам "Кнігазбор" два гады таму, увайшлі вершы і апавяданні, напісаныя ў розны час і пра рознае. Мяркуючы па станоўчых ацэнках у перыядычным друку, кніга атрымалася. У ёй аўтарка ў меру сваіх жыццёвых і літаратурных варункаў пастаралася паказаць дабро і зло, радасць і смутак герояў і гераінь сваіх твораў, а значыць — і нас.**

Алег САЛТУК




Ужо тады выразна выявілася імкненне дэбютанткі перажываць і суперажываць тое, што адбываецца ў нашым жыцці, і даваць усяму ацэнку са станоўчым ці адмоўным знакам у залежнасці ад абставін.

І вось перад намі яе новая кніга прозы "Расскажу нерассказанное", якая выйшла ў тым жа выдавецтве.

У новым зборніку аўтарка зноў і зноў упарта і мэтанакіравана стараецца знайсці адказы на няпростыя пытанні. Спроба апраўдваецца не толькі зместам, але і сэнсам. Змест цікавы і займальны, сэнс — глыбокі. Удала выкарыстоўваецца такі, напрыклад, прыём, як погляд на тое, што адбываецца з яе героямі, вачыма... сабакі. Прыём не новы, але ў дадзеным выпадку апраўданы. Тое, што адчуваюць браты нашы меншыя, уласціва і іх гаспадарам.

У апавяданнях прываблівае роздумнасць, багатая палітра людскіх пачуццяў, учынкаў і эмоцый: чаканне кахання, пошук сваёй, канечне ж, ідэальнай палавінкі, любоў і здрада. Так, у апавяданні "Ивона" гераіні ў пошуку сваіх ідэалаў і самой сябе ўдаецца, праўда, не без высілкаў, пазбавіцца ад навязаных ёй мяшчанскіх стэрэатыпаў і галоўных памкненняў нашага часу — браць як мага больш ад жыцця, жыць прыгожа і багата і нічога не даваць узамен. У апавяданні мы бачым бяздумных прыгажуноў-мужчын, дасканалых нібыта лялечных жанчын. О, колькі такіх глядзіць на нас з экранаў тэлевізараў, са старонак бульварных газет і раманаў, глянцавых часопісаў! Аж сорамна за тое, што жывеш побач з такімі асобамі. Якія яны без грыму, адказаць няцяжка: пустыя і нікчэмныя.

Праз усе перыпетыі прайшла Івона, знайшоўшы шчасце не ў грошах і прыгажосці, не ў ідэальным мужчыну, а ў звычайным урачу "хуткай дапамогі".

Цікавым сюжэтна і змястоўна падалося апавяданне "И это всё про меня". У ім Л. Аляксеева спыняецца на тэме маралі, ці, хутчэй, амаральнасці некаторых падлеткаў, кінутых бацькамі на волю выпадку і вуліцы. Такія дзеці становяцца гвалтаўнікамі, цынікамі, абібокамі. У названым апавяданні не чалавек абараняе чалавека, а зноў-такі сабака, ахвяруючы сваім жыццём. І нам не шкада хуліганаў, якіх добра пашкуматала Венера і якія трапілі ў калонію, а шкада сабакі.

У апавяданні "Тени" паказана, як таленавіты, прыгожы, унутрана багаты чалавек дэградуе і становіцца ціхім алкаголікам. І вось тут, напэўна, аўтарцы варта было б папрацаваць над развіццём сюжэта. Герой апавядання вельмі бездапаможны. А чаму? Што замінала ці замінае Саню Шыхаву і такім, як ён, застацца патрэбнымі грамадству, сям'і, родным і сябрам, каханай?..

Самае значнае месца займаюць у кнізе мініяцюры — мазаічны россып імгненняў, гадзін, месяцаў і гадоў з жыцця адной сабакі. Мы прасочваем разам з аўтарам яе нараджэнне, сталенне, перажываем яе асалоду і боль, радуемся таму, што яна засталася жывой. Чытаючы гэтыя мініяцюры, ловіш сябе на думцы, што браты нашы меншыя апроч інстынктаў маюць яшчэ нешта — больш істотнае, толькі невядомае нам.

Новая кніга разлічана не толькі на дарослую аўдыторыю, але і на школьнікаў, бо каму, як не ім, трэба пачынаць жыццё, згодна з законамі дабра і справядлівасці, праўды і любові. Інакш спажывецкая псіхалогія, кан'юнктура, абы-якавасць да ўсіх і ўсяго загубяць у чалавеку чалавечае.

У адной сваёй мініяцюры Любоў Аляксеева напісала: "Я люблю прыгожае слова і хачу, каб яно засталося на паперы..." На мой погляд, напісанае ёй застанецца не толькі на паперы, а і ў душы.

Лявон ЦЕЛЕШ

# Багаты творчы шлях вясковага настаўніка

**Мяккія рысы твару, даверлівы погляд, у вачах іскрынкі… Ад самога аблічча самабытнага паэта, празаіка Аркадзя Нафрановіча вее паэзіяй, узнёсласцю. Зусім нядаўна ў выдавецтве "Кнігазбор" пабачыла свет яго кніга "Выбранае", у якую ўвайшло ўсё лепшае, што стварыў Аркадзь Нафрановіч за апошнія 15 гадоў. А гэта паэзія, проза (аповесць "Мая адысея"), публіцыстыка і крытыка, гумар. Жыццёвы шлях Аркадзя Нафрановіча сапраўды нагадвае адысею. Нарадзіўся ён 24 красавіка 1936 года на Мядзельшчыне, у вёсцы Юшкавічы.**



Маленства паэта прайшло пад уздзеяннем дзіўнай прыроды Беларускага Паазер'я, напоенага водарам казак і народных песень, легенд і паданняў пра возера Нарач, якое знаходзіцца за якія-небудзь 15 кіламетраў ад вёскі. З дзіцячых гадоў Аркадзь дапамагаў бацькам. Аднак вайна парушыла мірны лад жыцця сялянскай сям'і. 1 верасня 1943 года хлопчык павінен быў ісці ў першы клас, але менавіта ў гэтым годзе нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску Юшкавічы, і сямігадовы Аркадзь разам са сваімі бацькамі, братам і сястрою быў вывезены ў Германію на прымусовыя работы. "Тое, што я спазнаў у Нямеччыне, ніколі не забудзецца", — піша Аркадзь Нафрановіч у аўтабіяграфічнай аповесці "Мая адысея".

У маі 1945 года сям'ю Нафрановічаў вызвалілі амерыканскія саюзнікі, і яны вярнуліся на папялішча роднай вёскі Юшкавічы, да здзічэлых ніў. З вялікімі цяжкасцямі на зарослым мохам падмурку былой сядзібы бацька Аркадзя, не без дапамогі аднавяскоўцаў, збудаваў новую хату. Толькі сям'я пачала выбірацца з галечы, як апынулася ў наступным ярме — была вымушана ўступіць у калгас, дзе за працадні амаль нічога не атрымлівалі. Пасля заканчэння школы Аркадзь паступіў у Пастаўскае педагагічнае вучылішча. Давучвацца давялося ў Лепелі, куды з цягам часу была пераведзена гэтая навучальная ўстанова. У сваіх успамінах А. Нафрановіч піша, што яго настаўнікам у Лепельскім педвучылішчы быў Мікола Пятрэнка, кампазітар-песеннік. Дзякуючы яму Аркадзь Нафрановіч, калі пачаў пісаць вершы, уважліва ставіўся не толькі да зместу, але і да гучання. Адсюль і запатрабаванасць яго вершаў беларускімі кампазітарамі Леанідам Захлеўным і Міколам Пятрэнкам.

У 1968 годзе Аркадзь скончыў геаграфічны факультэт Белдзяржуніверсітэта і ўсё жыццё працаваў настаўнікам — выкладаў геаграфію, гісторыю, музыку, спевы. Трэба адзначыць, што ён валодае цудоўным музычным слыхам і голасам: усе блізкія і знаёмыя бачылі ў яго асобе будучага спевака. Свой першы верш А. Нафрановіч напісаў, калі вучыўся ў шостым класе, і прысвяціў яго роднай школе. У 1989 годзе ён уступае ў літаратурнае аб'яднанне "Світанак" пры раённай газеце "Пастаўскі край". Вершы паэта пачалі з'яўляцца ў пастаўскай і мядзельскай раённых газетах, у альманахах паэзіі "Рунь" пастаўскага літаб'яднання.

Творы А. Нафрановіча друкаваліся і друкуюцца ў часопісах "Вожык", "Роднае слова". У 1995 годзе была выдадзена яго кніга паэзіі "Мядзельскі мерыдыян", а ў 1998-м — "Святло Нарачы". 17 песень і рамансаў, якія ўзніклі дзякуючы плённаму супрацоўніцтву паэта і кампазітара Міколы Пятрэнкі, склалі зборнік "Мелодыі роднага краю" (1995). Аркадзь Нафрановіч — аўтар кніг "У пошуках ісціны", "Горад музыкі і сонца", "Сейбіты дабра і мудрасці". Яго аўтабіяграфічная аповесць "Мая адысея" была ўзнагароджана Літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Караткевіча.

Вялікі ўплыў на Аркадзя Нафрановіча як на творчую асобу аказала яго асабістае знаёмства з народным паэтам Беларусі Максімам Танкам. Упершыню яму пашанцавала сустрэцца са славутым земляком падчас вучобы ў Белдзяржуніверсітэце. Між імі ўзнікла ліставанне. Максім Танк цікавіўся самабытным паэтам, хваляў і падтрымліваў яго, пісаў: "Друкуецеся Вы даўно і ў газетах, і ў часопісах. Таму, рэкамендуючы Вас у члены СП Беларусі, жадаю Вам новых творчых поспехаў не толькі на мядзельскім мерыдыяне". Апошні ліст Аркадзь Нафрановіч атрымаў ад Максіма Танка 7 красавіка 1995 года, калі той быў зусім хворы і знаходзіўся ў бальніцы...

Гартаю старонкі кнігі "Выбранае", і мяне не пакідае адчуванне, што ўсё напісанае ў ёй створана сапраўдным майстрам мастацкага слова.

Пільным зрокам углядаецца Аркадзь Нафрановіч у малюнкі роднай беларускай прыроды, адкуль чэрпае сваё паэтычнае натхненне. У любові да Радзімы паэт прызнаецца ціха, амаль малітоўна.

Свае вершы ён адрасуе землякам, калегам-настаўнікам, героям Вялікай Айчыннай вайны.

У раздзеле "Паэзія" пад загалоўкам "Слынныя людзі мінуўшчыны" надрукаваныя вершы, якія паэт прысвяціў Сымону Буднаму, Францыску Скарыне, Кірылу Тураўскаму, Еўфрасінні Полацкай, Міколу Гусоўскаму, Уладзіміру Дубоўку. У раздзеле "Публіцыстыка. Крытыка" Аркадзь Нафрановіч аналізуе творы нашых выдатных пісьменнікаў-сучаснікаў. Прываблівалюць мяккім гумарам і кароткія жартаўлівыя двухрадкоўі паэта пад назвай "Карацелькі".

Знаёмячыся з кнігай Аркадзя Нафрановіча, прасякаючыся яго любоўю, яго словам — чыстым і светлым, разумееш, што паэт заслугоўвае сапраўды высокай ацэнкі.

# Паэзія



Павел Саковіч

## Маці

**(Урывак з паэмы
"Рэха трывожных гудкоў…")**

*Даць хацеў бы я гудок
Доўгі, урачысты
Ў гонар нашых мацярок —
Самых родных, блізкіх.*

*Покуль дзесь цягнік імчыць,
Маці — бацька знае —
Склаўшы рукі не сядзіць:
Ад пліты ў гарод бяжыць,
Дзетак даглядае.*

*На зямлі не адшукаць
Больш такой харошай!
З кім яе мне параўнаць?
Можа, з Маці Божай?*

*Помню ў покуці абраз,
Свечку з ручнікамі.
Мне здавалася штораз:
На малюнку — мама.*

*Як мяне ні круціць лёс,
Ды паўсюль, паверце,
Вочы матчыны з нябёс
Зорачкамі свецяць.*

*Грэюць позіркам душу
І вядуць па свеце.
Не закрый ты іх, прашу,
Зноў,* ***у тым*** *сусвеце.*

*Часам чуецца здалёк,
Зверху шэпт знаёмы:
"Смела рухайся, сынок,
Бач, гарыць «зялёны»"?*

*…Адчувалі мы цяпло
Тых вачэй зялёных,
Як вяртаўся ў дом з дэпо
Бацька наш стамлёны.*

*Маці ставіла на стол
Свежы боршч, аладкі…
Бацька спыніць: "Не, пастой,
Я пасплю спачатку".*

*І, міргнуўшы мне, казаў:
"Вунь там, бачыш, сумка?
Зайчык нешта перадаў
Для цябе пахрумкаць".*

*Дзе такое зайка ўзяў —
Пайку ад ленд-ліза?
Я пра гэта не пытаў:
Джэм з пячэннем даставаў
І, як кот, вылізваў.*

*Маці просіць: "Паўлючок,
Кінь ты жвачкі, джэмы,
Лепш варэнне еш, мядок!"
(Не атруціўся б сынок*

*Пачастункам "сэма".)
Пасміхнецца бацька ледзь
З той трывогі мамы,
Толькі трэба зразумець
І яе таксама.*

*Назапасіла ўсяго,
Ды матулі горка:
Тым, рабіла для каго,
Дай яды заморскай!*

*Што ў гародчыку расло —
Ў слоіках і кадках,
А бананаў не было —
Збераглі нашчадкам.*

*Еш ты іх, нашчадак, еш!
Я ж бананы, манга
Прамяняў бы на кулеш,
Нават і на манну.*

*І на бабку з чыгунка,
І на блін-крывянік…
Даў бы ківі паўмяшка
За матулін дранік.*

*Не скрануў бы аніяк —
Хоць ты пуць вылізвай —
Бацька з месца таварняк,
Каб не торбачка, аднак,
З матчыным "ленд-лізам".*

*Не насыціцца, відаць,
Больш ядою тою…
Застаецца ўспамінаць,
І давіцца, і глытаць
Слінкі са слязою.*

* * *

*Рукі маці ўсё маглі,
Ўсё рабіць умелі.
Нас кармілі, берaглі,
Пралі шэрсць, кудзелю.*

*Рукавіцы да зімы
З ніцей тых вязалі.
У шкарпэтках цёплых мы
Маразоў не зналі.*

*І фіранкі, дываны
Маці расшывала.
Цуды тыя, дзе яны?
Недзе ўсё прапала…*

*Толькі памяць па начах,
Як узор, віецца.
Ў каляровых бачу снах
Васількі на ручніках…
Ці мне так здаецца?*

*Маці й шыць-перашываць
Не пераставала.
Тым шыццём яна, відаць,
Зрэдку зарабляла.*

*А мяне дык шмат гадоў
Цалкам апранала:
Колькі кіцеляў, штаноў
Пераліцавала!*

*Бацьку, помніцца, не раз
Падганяла форму.
Генералу ў ёй якраз
Мог бы даць ён фору!*

* * *

*Матчын голас не забыць:
Мяккі, ручаёвы
У вушах дасюль гучыць
Як малітвы словы.*

*А спяваць пачне яна —
Зайздрасна суседкам…
Не матуліна віна,
Што спявала рэдка.*

*Нам вячэрняю парой
Штосьці на сон шаптала,
А калі і раніцой,
Як харошы быў настрой,
Песню напявала.*

*Пранікнёна, міла так,
Ціха, задуменна.
Я здагадваўся, аднак:
Сніла штосьць, напэўна.*

*Як убачыць добры сон
З Волечкай-дачушкай,
Дык надзеяй маму ён,
Як малую, гушкаў.*

*На суседках за два дні
Гэты сон праверыць,
На гадалках, на радні —
І ўсяму паверыць.*

*Удалося выжыць ёй
Недзе на чужыне.
З маці ўбачыцца сваёй
Вернецца дзяўчына!*

*Свечку ставіла ў царкве
За жывую Волю.
Суцяшаў святар яе,
Зычыў светлай долі.*

*Верыў бацька — як жа не! —
Што дачка — жывая.
Ды сышлі бацькі раней,
Чым надзея тая…*



Іван Капыловіч

* * *

*Вясеннія вятры
Вярнуліся дадому.
Запар дні два ці тры
Не зналі сну, утомы.*

*Над полем жаўрукі
І мёртвага разбудзяць.
Ачнецца лес глухі,
Гром першы слухаць будзе.*

*Аклікнуць жураўлі
Прыціхлыя мясціны.
На збуджанай зямлі
Вясновыя хрысціны.*

* * *

*Дарога ў Каралін —
Палескую мясціну.
Да тых святых далін,
Дзе жураўліны клін
Свой след зямны пакінуў.*

*Не, не пакрыўдзіў Бог
Куточак гэты райскі.
Усё зрабіў, што мог,
Каб кожны луг і лог
Быў не абдзелен ласкай.*

*Каб леты ўсе ішлі,
Не знаючы праклёну
І збуджанай зямлі
Прысніўся пах раллі,
Цвітучага загону.*

*Куды ні пагляджу —
Спакоем кут спавіты.
І спорнага дажджу
Туманную імжу
Дзень прапусціў
скрозь сіта.*



**Фота Кастуся Дробава**



Ала Нікіпорчык

* * *

Откуда такая нежность?
И что с нею делать…
**М. Цвятаева**

*пяшчота
пяшчота
пяшчота
да суму
да скону —
пяшчота
нітачка —
голас скрыпкі
танюсенькі шлях жыцця
хачу на шырэйшы выйсці
не маю ні веры ні сілы
у глыбокім палоне-сне
Шубертавай санаціны
прысніцца няяўная ява
дзе будзем і ты і я
разам*

* * *

*сумленне і мараль
лягчэйшыя чым пух
таполі у паветры
о як ім лёгка жыць
о як ім проста плыць
па рацэ
дзе ні віны ні абавязку
бясконцасцю
настойлівых званкоў
разбурыць белы дзень
самоты і спакою*

*забіць на смерць —
і запрасіць у госці*

* * *

*я магу толькі
за Вас маліцца
я не магу нават
на Вас маліцца
даўно малюся
я толькі Богу
адно маленне —
адно вяртанне*

*я магу толькі
за Вас маліцца
не спакусіцца —
надзеяй ці марай
не памыліцца —
чаканнем ці болем
я магу толькі
за Вас маліцца*

*я буду толькі
маліцца за Вас*

* * *

*наша з табою сустрэча
як папараць-кветка
ў купальскую ноч
ніколі не знойдзеш*

*Да 130-годдзя Янкі Купалы*

# Наша вечна жывое сэрца

**У галерэі "Атрыум" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося адкрыццё літаратурна-мастацкага праекта "Светач беларускай паэзіі", прысвечанага 130-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**



*Першае шматтомнае прыжыццёвае выданне твораў Янкі Купалы.*

Як вядома, юбілей класіка беларускай літаратуры, які нарадзіўся 7 ліпеня (паводле новага стылю), будзе адзначацца пазней. Але, на думку дырэктара бібліятэкі Рамана Матульскага, мерапрыемства наўмысна праводзіцца раней, каб пазнаёміць наведвальнікаў з рарытэтамі, факсіміле і іншымі цікавымі выданнямі, што захоўваюцца ў фондах установы. Як падкрэсліў Р. Матульскі, работы 1920 — 1930-х гадоў асабліва дарагія. Частка з іх была напісана ў сценах бібліятэкі, дакладней, у беларускім аддзеле, які наведваў Купала.

У сваім выступленні пісьменнік Анатоль Бутэвіч звярнуў увагу на ўшанаванне памяці класіка беларускай літаратуры. Анатоль Івановіч, які трымаў у руках "Выбраныя творы" Купалы (1946), нагадаў, што тады яшчэ ляжала ў руінах Беларусь, яшчэ не быў адноўлены Мінск, а класіка выходзіла 20-тысячным накладам. Акрамя таго, А. Бутэвіч згадаў вядомы факт, што ў 1972 годзе ў Амерыцы быў усталяваны бюст Купалы. Як вобразна адзначыў пісьменнік, "уся Купалава паэзія — малітва за Беларусь, пра Беларусь, за беларусаў і пра беларусаў".

Алена Ляшковіч, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, адзначыла, што ўшанаванне памяці Купалы мела месца яшчэ пры жыцці творцы. Напрыклад, у 1926 г. яго імя атрымалі школы ў Мазыры і Полацку. У 1932-м у гонар Купалы была названа бібліятэка ў далёкай Бразіліі. А адразу пасля вызвалення Беларусі пачалася праца па стварэнні музея.

Літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша звярнуў увагу прысутных на канцэпцыю нацыянальнай дзяржаўнасці Беларусі, якую паэт распрацаваў у 1919 годзе. У савецкія часы яна падвяргалася моцнай крытыцы. А цяпер яна рэалізуецца. І з самых высокіх трыбун гучыць тэзіс: "Дасягненне незалежнасці — адна з галоўных заваёў беларускага народа". Таксама В. Рагойша пазнаёміў прысутных з сігнальным асобнікам сваёй кнігі "Мой Трыглаў" і падараваў яго бібліятэцы. Трыглаў — гэта гара вышынёй 2864 метры, самая высокая кропка Славеніі і наогул былой Югаславіі. Сваю назву яна атрымала дзякуючы трохгаловай вяршыні. В. Рагойша удала абыграў гэты момант: кніга складаецца з артыкулаў пра трох вялікіх айчынных творцаў: Янку Купалу, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. У ёй звяртаецца ўвага на невядомыя аспекты: напрыклад, разглядаецца дзейнасць Купалы як лексікографа. "Мой Трыглаў" стала другой кнігай, прэзентаванай падчас праекта. Першая — зборнік Янкі Купалы "Шляхам жыцця" (Пецярбург, 1912), факсімільнае перавыданне якога ажыццявіла выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Пра віртуальны праект "Янка Купала і Якуб Колас. Да 130-годдзя з дня нараджэння песняроў зямлі беларускай", які даступны наведвальнікам сайта бібліятэкі, распавяла Вольга Грынкевіч, загадчык сектара аналітычнай інфармацыі па культуры і мастацтве. Раздзелы праекта пазнаёмяць з асноўнымі датамі біяграфій творцаў, прадставяць электронную версію тэкстаў і гуказапісы, выслоўі, выказванні, афарызмы песняроў, а таксама ўвасабленне твораў айчынных класікаў. На стадыі распрацоўкі знаходзяцца раздзелы "Спяваем песні і рамансы на словы класікаў (з фондаў НББ)", "Купала і Колас у прасторы інтэрнэту", "Цікавыя факты. Віктарына".

У той жа дзень у бібліятэцы адкрылася юбілейная кніжна-ілюстрацыйная выстаўка "Пясняр беларускай душы". У экспазіцыі яе першай часткі — зборы купалаўскіх твораў і прыжыццёвыя яго зборнікі: "Адвечная песня", "Huslar", "Сон на кургане", "Паўлінка", "Шляхам жыцця", "Спадчына", "Безназоўнае" і іншыя. Першая кніга "Жалейка" на выстаўцы прадстаўлена факсімільным выданнем, а з арыгінальным можна пазнаёміцца ў чытальнай зале рукапісаў, старадрукаў і рэдкай кнігі.

Другая частка выстаўкі дэманструе творы, што пабачылі свет у другой палове XX ст., а таксама сучасныя выданні. Шматграннасць Купалавага таленту, які праявіўся ў самых розных жанрах, наглядна адлюстравана ў раздзеле "Уладар беларускай песні". Таксама на выстаўцы прадстаўлены перастварэнні твораў майстра на многія мовы свету, яго ўласныя пераклады. Уплыў спадчыны паэта на тэатр, выяўленчае мастацтва і музычную культуру адлюстраваны ў раздзеле "Янка Купала і мастацтва". Ёсць у экспазіцыі разнастайныя выданні пра жыццё і творчую лабараторыю паэта, вершаваныя і празаічныя творы, а таксама выданні пра ўстановы, якія ўшаноўваюць і зберагаюць памяць пра паэта. Пра значэнне для беларусаў творчасці песняра калісьці трапна напісаў Уладзімір Караткевіч: "Купала застанецца першай нашай любоўю, нашымі вачыма, нашым сумленнем, нашым вечна жывым сэрцам".

*Юбілей*

# «Фантастыка — гэта праўда пра тое, чаго няма»

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Аляксандра Новікава**

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры прыхільнікі жанру "праўды пра тое, чаго няма", сябры і калегі віншавалі з юбілеем беларускага пісьменніка-фантаста Аляксандра Сілецкага. Вёў творчы вечар паэт Анатоль Аўруцін, ён назваў Аляксандра Валянцінавіча "звычайным унікумам", галоўнай якасцю якога з'яўляецца сціпласць. Пісьменнік не штурмуе выдавецтвы, таму на яго рахунку 70 апавяданняў і некалькі кніг, хаця сваім настаўнікам Сілецкага лічаць многія калегі-фантасты.

Першае яго апавяданне з'явілася ў часопісе "Юный техник" у 1963 годзе, калі аўтару не было і 16 гадоў, але ён ужо перамог на міжнародным літаратурным конкурсе ў Балгарыі. Потым — сцэнарны факультэт ВГІКа, удзел у семінарах пісьменнікаў-фантастаў у Дубултах і Малеўцы. Ён працаваў у навукова-папулярных часопісах "Земля и Вселенная", "Наука и религия". У 1989 годзе выйшаў зборнік, дзе побач з творамі Сяргея Паўлава, Фелікса Дымава была і проза Аляксандра Сілецкага. Потым у аўтара з'явіліся і іншыя кнігі, сярод якіх вылучаліся "Тем временем где-то", "Питомник для мух". У серыі "Бібліятэка сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы" ўбачылі свет раманы "День зверя", "Дети, играющие в прятки на траве", "Легендарь".

Прамы нашчадак паэта Жукоўскага, Аляксандр Сілецкі нарадзіўся ў Маскве. Пераезду сям'і ў Мінск напрыканцы 1990-х, па словах жонкі, пісьменніцы Наталлі Новаш, паспрыяла тое, што па лініі бацькі карані Аляксандра Валянцінавіча з Польшчы, і тое, што тут жылі сяброўкі маці, вядомай піяністкі-акампаніятара.

А. Сілецкі прыгадваў пачатак творчага шляху, расказваў пра аўтараў, якія паўплывалі на яго станаўленне, разважаў пра лёс жанру, якому прысвяціў жыццё: "Сёння фантастыка знаходзіцца на задворках літаратуры. Але яна неад'емная частка літаратуры ад шумерскіх міфаў да нашых дзён, таму што яе лейтматыў — судакрананне чалавека і цуду".

Шмат цёплых слоў у адрас Аляксандра Сілецкага прагучала з вуснаў старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова, старшыні секцыі фантастыкі СПБ Уладзіміра Кулічэнкі, спявачкі Ніны Цішко, рэжысёра Андрэя Леўчыка. Пісьменнік адказваў на пытанні прысутных, дарыў моладзі кнігі, раздаваў аўтографы.



*У падтрымку чытання*



**Доктар біялагічных навук Язэп СЦЕПАНОВІЧ:**

# Крыніца досведу

**Віялета ВАШЧЫЛІНА**

— З узростам чалавек абапіраецца больш на свой жыццёвы досвед, становіцца больш кансерватыўным і радзей звяртаецца да літаратурных крыніц. Таму чытанне адыходзіць на другі план. Зважаючы на сябе, магу адзначыць, што найбольш плённы перыяд для чытання — школьныя і юнацкія гады, час, калі хочацца пазнаць і сцвердзіцца ў гэтым свеце і ў галаве шмат вольных паліц, кнігі чытаюцца запойна. Хочацца знайсці свой ідэал. І таму найлепшы спосаб атрымання першага жыццёвага вопыту — літаратура. Потым, у старэйшых класах, пачаў сам пісаць вершы (дзесьці з сотню набярэцца). Спрабаваў друкавацца як у школьнай газеце, так і ў Вілейскай раённай "Шлях перамогі". А ў студэнцтве прысвяціў сваім аднагрупнікам цэлую паэму — "Сесія".

Мне заўсёды не хапала беларускамоўнага асяродка, і я імкнуўся запоўніць пусткі літаратурнымі звесткамі. Так, у творах Васіля Быкава "Дажыць да світання", "Воўчая зграя", "Пастка", "Сотнікаў", "Альпійская балада" і іншых я знаходзіў шмат падабенства з расповедамі бацькі пра вайну, якую ён сустрэў у Брэсцкай крэпасці.

Даспадобы "Новая зямля" Якуба Коласа. Жыццёвыя сюжэты, яскравыя выразы. Часта цытую, каб патлумачыць студэнтам тэрміналогію (што такое поплаў, напрыклад) ці нейкія біялагічныя з'явы. Вельмі трапны гумар у Кандрата Крапівы. Як навукоўцу мне асабліва імпануе яго п'еса "Хто смяецца апошнім".

Так, да паэзіі цяга вялікая. Ды толькі захапленне гістарычнай прозай не саступае лірыцы. Справа вось у чым: мяне заўжды непакоілі, цікавілі пытанні нашай мінуўшчыны, паходжання, мовы. Уладзімір Караткевіч і яго гістарычна-прыгодніцкія дэтэктывы "Дзікае паляванне караля Стаха", "Чорны замак Альшанскі", раман "Каласы пад сярпом тваім" — па-за канкурэнцыяй. Вось такую прозу я чытаў і перачытваю з новым асэнсаваннем. Не цураюся і твораў замежных аўтараў, напрыклад, "Дзеці капітана Гранта" Жуля Верна, "Рабінзон Круза" (дарэчы, у перакладзе на беларускую) Даніэля Дэфо, "Дэрсу Узала" Уладзіміра Арсеньева, а таксама твораў Міхаіла Булгакава, Аляксандра Грына, Джэймса Фенімора Купера, Гі дэ Мапасана, Вальтэра Скота…

Аўтографы ад сэрца

# З трывалай любоўю…

**Сяброўства пісьменнікаў, трывалыя стасункі паміж яркімі, творчымі асобамі — заўсёды прадмет, тэма для развагі. Веданне таго, хто з кім добра і прыязна кантактаваў, — яшчэ і дадатковая характарыстыка паэтычных ці празаічных вышукаў таго ці іншага майстра слова. Алесь Бачыла — яркі, самабытны паэт. Гэта цяпер не час для паэзіі, але ж павінна нешта зварухнуцца ў грамадстве, у свядомасці людзей, каб пачулі вершы, каб прыхінуліся да святла, чысціні, да самой прыроды настрояў і эмоцый.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

У вершах Алеся Бачылы — шырокая прастора шчасця, бязмежнае сонечнае ўзвышэнне, паднябесны блакіт і ўсе фарбы з палёў і лугоў. Чытаеш паэтычныя радкі аўтара “Радзімы маёй дарагой” — і быццам крынічнай вадой смагу праганяеш… “Дзе ж яшчэ ёсць такая на свеце, як ты?! // Над якою зямлёй ідучы, // Там праменіцца сонца святлом дабраты, // Шчыра так “калі ласка” гучыць?” Прыцягненне ў паэзіі Алеся Бачылы настолькі моцнае, што кожнае са слоў падаецца зіхоткім брыльянтам.

*Тут і сонца, здаецца,*
*святлейшае свеціць,*
*І дабрэйшыя ўсмешкі —*
*у добрых людзей.*
*Ёсць нямала зямель*
*багацейшых на свеце,*
*Толькі ты мне радней,*
*даражэй і мілей.*

Мне здаецца, што з такім жа піетэтам, як і чытачы, да свайго паплечніка па прыгожым пісьменстве ставіліся і калегі па літаратурным цэху. Такое ўражанне складваецца, калі знаёмішся з аўтографамі на кнігах, падараваных Алесю Мікалаевічу. Гартаю старонкі тых зборнікаў літаратурнай крытыкі, мастацкай прозы, аўтарам якіх з’яўляецца Алесь Адамовіч. Кнігі захоўваюцца ў мемарыяльным пакоі паэта, які быў адчынены некалькі гадоў таму, якраз да 90-годдзя Алеся Бачылы.

Адамовіч нараджэннем з 1927-га, у час вайны партызаніў. Бачыла — з 1918-га, у Вялікую Айчынную вайну — на фронце, супрацоўнік армейскай газеты. Здавалася б, асабліва калі гаварыць пра пачатак творчай дарогі, дыстанцыя ва ўзросце шмат значыць. Першы зборнік вершаў Алеся Бачылы “Шляхі” пабачыў свет у 1947 годзе. Першая кніга Алеся Адамовіча “Шлях да майстэрства” выдадзена ў 1958 годзе. А ўжо ў верасні 1961-га Аляксандр Міхайлавіч дорыць паэту трэцюю са сваіх кніг — “Беларускі раман” (Мінск, 1961): “Дарагому Алесю ад таксама Алеся. Бачыле — ад Адамовіча. 5.9.1961…”

Але, нягледзячы на розныя шляхі ў мастацтве, іх шмат што аб’ядноўвала. Па-першае, вайна. Па-другое, вельмі трапяткое стаўленне да лепшых традыцый у класічнай літаратуры. Алесь Адамовіч пільна ўглядаўся ў творчасць Кузьмы Чорнага. Алесь Бачыла ўлюбёна ўчытваўся ў паэзію Максіма Багдановіча. Па лібрэта А. Бачылы ў 1970 годзе ставіцца опера Ю. Семянякі “Зорка Венера”. А ў 1971 годзе выходзіць асобным выданнем нарыс пра класіка “Дарогамі Максіма”. Пасля Алесь Мікалаевіч яшчэ будзе дарабляць, дапісваць гэтую кніжачку. 18 красавіка 1972 года паэт піша ліст сакратару ЦК КПБ А. Т. Кузьміну: “…Пішу гэтую тлумачальную запіску. Як і было дамоўлена з Вамі. Вельмі прыемна, што ў рэспубліцы, згодна з рашэннем ЦК КПБ, так хораша было адзначана 80-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Паэт такую высокую пашану заслужыў сваёй выдатнай творчасцю.

*“Адсутнасць “культурнага паветра” (а душа прасіла ўжо і “асветніцкага паветра”) я кампенсаваў беларускай кнігай. Два разы на год — у лютым і напрыканцы жніўня — я вёз з сабою ў Львоў стос свежых беларускіх кніг. І ўжо тады сярод любімых аўтараў быў Алесь Адамовіч.*

І ўсё ж нашай літаратуразнаўчай навукай і даследчыкамі магло быць больш зроблена ў справе вывучэння жыцця і творчай дзейнасці паэта. Мы амаль не вывучылі асяроддзе і акружэнне паэта ў яраслаўскі перыяд, амаль не даследавана дзейнасць яго старэйшага брата Вадзіма, які сваёй рэвалюцыйнай дзейнасцю зрабіў вялікі ўплыў на паэта. Праўда, мы шмат чаго ўжо не здолеем высветліць, бо няма ў жывых тых, хто тады вучыўся разам з М. Багдановічам. Аднак яшчэ жывуць некалькі чалавек, якія блізка ведалі паэта і маглі б сёе-тое ўспомніць. Нам неабходна арганізаваць запісы іх успамінаў. Усё гэта людзі пажылога ўзросту і адкладваць такую работу нельга…”

Канечне ж, у курсе багдановічазнаўчых зацікаўленняў Алеся Мікалаевіча быў і яго сябра Алесь Адамовіч. На кнізе “Здалёк і зблізку (Беларуская проза на літаратурнай планеце)” ён робіць наступны надпіс: “Дарагі Алесь! Хай свеціць табе Зорка Венера і ўсе іншыя добрыя і прыгожыя зоркі. 12.1.1977 г.” А крыху раней вучоны і пісьменнік на кнізе “Война под крышами. Сыновья уходят в бой” (Масква, 1971) пакідае такі аўтограф: “Дарагому Алесю Бачылу з даўняй, трывалай любоўю да яго і яго таленту… 27.4.71 г.” А на другой маскоўскай кнізе — “Горизонты белорусской прозы” (1974) — лаканічны радок: “Алесю Бачыла па-сяброўску! 8.9.74 г.”

…У мяне з асэнсаваннем і ўсведамленнем творчасці Алеся Адамовіча звязана свая гісторыя. У 1981 — 1985 гадах я вучыўся на аддзяленні журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Курсанцкае жыццё істотна адрозніваецца ад студэнцкай вольніцы. Ды і пачатак 1980-х — не самы лепшы перыяд для творчага асяродку ў Львоўскім вучылішчы. Былі і іншыя часы. Прыкладам, сярэдзіна 1960-х, калі ў Львове вучыўся беларускі паэт Сяргей Панізнік, калі можна было амаль свабодна выходзіць у горад, адкрываць для сябе бібліятэкі і нават архівы. Адсутнасць “культурнага паветра” (а душа прасіла ўжо і “асветніцкага паветра”) я кампенсаваў беларускай кнігай. Два разы на год — у лютым і напрыканцы жніўня — я вёз з сабою ў Львоў стос свежых беларускіх кніг. І ўжо тады сярод любімых аўтараў быў Алесь Адамовіч.

У 1988 — 1990 гг. мне выпала замежная камандзіроўка на Кубу. Ізноў — амаль без беларускай кнігі. І цяпер ужо — два гады — без адпачынку. Пасылкі, бандэролі не дазвалялася атрымліваць. Толькі зрэдчас, пры ўмове, што кніжачкі былі танюткія і ўмяшчаліся ў канверт, да мяне траплялі паэтычныя зборнікі. Але з сабою я прывёз “Само слова говорыць” Фёдара Янкоўскага і “Ничего важнее” Алеся Адамовіча. І атрымліваў найвышэйшую чытацкую асалоду — ад спасціжэння слоў і думак!.. Гляджу гэты “кубінскі” том і сёння. Думаю, разважаю над тым, чаму падкрэсліў, наставіўшы клічнікаў, тое ці іншае месца… Як і гэтыя, прыкладам, радкі: “…так как же писать, чтобы подобное было просто невозможно? Чтобы нас читали, а читая, получали настоящий иммунитет к болезни, которой нет-нет, да и заболеет какая-нибудь слабенькая головёнка.

У каждого, конечно, свой ответ. У меня такой: писать войну войной, со всей беспощадностью. Да, не щадя ни себя, ни других, ни на йоту не отступая от жестокой памяти самого народа о войне. В памяти народной, в памяти тех, кто испил всю чашу испытаний, — истинная мера правды, нравственная мера. Другое дело, что и этот источник правды может быть замусорен всем, что плыло на нас и через нас все эти годы: жизнь есть жизнь. Но надо уметь пробиться к душе, к памяти народной, чтобы зачерпнуть самое правду…”

Глыток гэтай праўды — і ў тых інтанацыях, што ўкладзены, укладваліся ў аўтографы. Чытаем надпіс, зроблены ў кнізе “Літаратура, мы і час” (Мінск, 1979): “Алесю Бачыле, які сам добра памятаць павінен той час і тую эпоху, з павагай да ўсяго жыцця яго…” Не, што ні кажыце, і такія лаканічныя аўтографы дастаткова шматслоўныя. Мо менавіта гэты сяброўскі надпіс нагадаў паэту пра няпросты лёс яго бацькоў, многіх сялян з пухавіцкай, рудзенскай Лешніцы, дзе прайшло яго маленства... З той Лешніцы, пра якую Алесь Бачыла напісаў:

*Без цябе нават мара*
*здаецца бяскрылаю,*
*Без цябе і ў жыцці*
*не пакінуў бы след…*
*Я знаю, ці птушкі*
*вяртаюцца з выраю*
*Ў тыя гнёзды,*
*адкуль выпраўляліся ў свет.*

*Я ж цябе, быццам матчынай ласкі,*
*трымаюся.*
*І ў якіх ні блукаў бы далёкіх краях,*
*Дзе б ні быў,*
*а заўсёды ў пачуццях вяртаюся*
*Да цябе, мая Лешніца, вёска мая.*

*Да сваіх землякоў,*
*з кім быў лёсам заручаны,*
*Дарагіх успамінаў дзіцячай пары…*
*Мне і сёння паводкай*
*шуміць Закаблучанка,*
*Шэпчуць гонкія сосны з высокай гары.*

…“Хатынскую повесть”, выдадзеную ў Маскве ў 1974 годзе, Алесь Адамовіч надпісаў паэту 28 лютага 1975 года: “Майму старому, але не старэючаму сябру Алесю Бачылу!..” Канечне ж, за аўтографамі хаваецца і шмат невядомага. Пэўна, бальшыня думак сышла ў нябыт разам з пісьменнікамі. Алесь Бачыла памёр у 1983 годзе. Даўно няма сярод жывых і Алеся Адамовіча. І ўсё ж, і ўсё ж… Памяць літаратуры — гэта і аўтографы на кнігах. Па тых надпісах, што адрасаваў Алесь Адамовіч Алесю Бачылу, відаць, што дарыліся кнігі ад чыстага сэрца.

Майстры беларускага экслібрыса

# Дакладнасць лініі і думкі

**“Майстры экслібрыса” — серыя пра мастакоў, аўтараў кніжнага знака. Экслібрыс сёння з’яўляецца не толькі знакам уладальніка, але і паўнавартасным творам выяўленчага мастацтва. Вядомыя мастакі Усходняй Еўропы ўнеслі, магчыма, найбольшы ўклад у развіццё сучаснага экслібрыса. Прэзентацыя іх творчасці — асноўная задача дадзенай серыі”, — чытаем на клапане адваротнага боку вокладкі кнігі (брашуры? альбома?) “Генадзь Вяль” (Кіеў, выдавецтва Сяргея Брадовіча).**



**Васіль СНУСЦІК**

Генадзь Вяль — беларускі мастак. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Беразоўцы Маладзечанскага раёна. У 1980 годзе закончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. З 1980 па 2002 гады — выкладчык у сярэдняй школе № 10 з архітэктурна-мастацкім ухілам г. Брэста. З 2002 — выкладчык Брэсцкай дзіцячай мастацкай школы. З 1985 года браў удзел у міжнародных выстаўках эстампа ў Бельгіі, Югаславіі, Галандыі, Польшчы, Германіі, Францыі, Італіі і іншых краінах. Працы мастака адзначаны многімі ўзнагародамі на міжнародных конкурсах друкаванай графікі і экслібрыса.

У кнігу ўвайшло 13 работ. Яшчэ адзін экслібрыс прадстаўлены на вокладцы. Антычнасць, міфалогія, казачныя і фантастычныя сюжэты — усяму знайшлося месца ў кніжных знаках таленавітага творцы. Алег Судлянкоў (аўтар уступнага артыкула і ўкладальнік кнігі-альбома) зазначае: “Работы Генадзя Вяля карыстаюцца вялікай увагай у калекцыянераў экслібрысаў і аматараў графікі з-за бліскуча выкананых афортаў з акватынтай. Па сваёй празрыстасці і тонавых пераходах акватынце цяжка знайсці саперніка, і Генадзь Вяль, выкарыстоўваючы ўсе даступныя яму тэхнічныя прыёмы, дасягнуў у ёй дасканаласці. Звяртае ўвагу аматараў яго творчасці сур’ёзнае стаўленне да малюнка, кампазіцыі і тэхнікі выканання. У яго штрыхах паядналіся вастрыня гатычных ліній, экспрэсія ў пабудовах фігур, добрае веданне анатоміі”.

Уражлівыя экслібрысы Генадзя Вяля пашыраюць прастору ўяўлення пра кніжны знак. Выкананыя на працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў, работы майстра адлюстроўваюць шматаблічны свет памкненняў чалавека да вандровак у часе і прасторы. За простымі знакамі, выразнымі лініямі бачыцца асацыятыўная сувязь літаратурных сюжэтаў. Генадзь Вяль уважлівы і да класічнага мастацтва. Экслібрысы часам выяўляюць яго асаблівае майстэрства ў прачытанні спадчыны мінулых стагоддзяў.

Увага кіеўскага выдаўца творчасці Г. Вяля засведчыла: зробленае ў Беларусі ў апошнія гады ў галіне экслібрыса — праява высокай нацыянальнай культуры, развіццё ранейшых слаўных традыцый. Застаецца толькі падзякаваць Алегу Судлянкову і Сяргею Брадовічу за рэалізацыю ўнікальнага кнігазнаўчага праекта.

# Это вам не шуточки!

Ольга ПОЛОМЦЕВА

Честолюбивы ли вы? Хотелось ли вам, чтобы весь мир с детства знал ваше имя и помнил ваши слова всю жизнь? Что для этого нужно? "Сделать что-то из ряда вон выходящее на пользу человечества и войти в учебники", — скажете вы и почти угадаете. Можно, например, совершить удивительное открытие, стать известным политиком, киноактёром, режиссёром или ещё кем-нибудь. А можно написать яркие талантливые произведения для детей, как это сделал Киплинг. Английский писатель, поэт, публицист, лауреат Нобелевской премии по литературе, он приобрёл мировую славу именно как детский писатель, хотя только сказками его творчество не исчерпывается.




Р. Киплинг родился в Бомбее в семье Джона Локвуда Киплинга, ректора и профессора Бомбейской школы искусств, и Алисы (Макдональд) Киплинг. В возрасте 6 лет, как это было принято в англо-индийских семьях, Редьярд и его младшая сестра были отправлены учиться в Англию, где жили в частном пансионе. Впоследствии писатель признавался, что хотел бы поджечь это миленькое заведение и посыпать его пепелище солью — с воспитанниками там обращались сурово. Близорукость помешала Киплингу стать военным. Отец, первый ценитель литературных опусов сына, подыскал ему работу в редакции индийской англоязычной "Гражданской и военной газеты".

Ах, какое это было время! Его рассказы и стихотворения печатает газета, выходит первый сборник "Департаментские песни", потом ещё шесть сборников коротких рассказов для серии "Библиотека Индийской железной дороги", предназначенной для путешественников — и слава как в Индии, так и во всей Британской империи. Заключив с газетой "Пионер" контракт на написание путевых очерков, Киплинг много путешествует: Япония, Северная Америка, Бирма, Китай… Накопив впечатлений, он создаёт одно из своих самых известных произведений — "Книга джунглей" (1894). "Вторая книга джунглей" выходит через год.

Не политическая позиция, проводя которую в своих поздних творениях, он прослыл литературным хулиганом, а именно детская литература приносит ему в 1907 г. Нобелевскую премию "за наблюдательность, яркую фантазию, зрелость идей и выдающийся талант повествователя". К этому времени Киплинг написал тринадцать томов рассказов, четыре романа, три книги рассказов для детей, несколько сборников путевых заметок, очерков, газетных статей и сотни стихотворений.

На счету Р. Киплинга награды от университетов Парижа, Страсбурга, Афин и Торонто (1907), почётные степени Оксфордского, Кембриджского, Эдинбургского и Даремского университетов (1907).

Если запросить всеведущий Google, найдётся список экранизаций Киплинга из 59 мультипликационных и художественных фильмов.

На самом деле только успех на поприще детской литературы дарит вам вечную непреходящую славу. Сначала лучшие в мире книжки (ведь родному ребёнку — только самое-самое!) вам читают дедушки-бабушки, папы-мамы, потом вы сами не выпускаете книжку из рук, через 20 с хвостиком собственному чаду вы достаёте с дальних полок свои детские книжки или покупаете их же — вновь изданные, ведь издатели знают, что есть беспроигрышный вариант. А ещё лет через 20 вы будете искать эти классные книжки для внучат (а уж эти ещё дороже, чем дети!). Бьюсь об заклад, книгу **Редьярда Киплинга "Сказки"**, что вышла в серии **"Хрестоматия школьника"**, вы купите и перечитаете не один раз. Ещё бы! В сборник вошли истории о кошке, которая гуляла сама по себе, и мотыльке, что топнул ногой, слонёнке и броненосцах, Ките с большой глоткой и старом Кенгуру. Вы сразу же вспомните, как Леопард получил свои пятна, а первобытная девочка Таффамай Металлумай (а это значит: Девочка-которую-нужно-хорошенько-отшлёпать-за-то-что-она-такая-шалунья) написала первое в мире письмо. Эти и другие произведения серия предлагает в переводе Самуила Маршака и Корнея Чуковского.




## Война за свободу

Евгения БЕЛИНА

Проект братьев Стругацких "Обитаемый остров" — книжная серия тематически объединенных произведений. Знакомые герои и новые персонажи, захватывающий и таинственный мир… В жанровом отношении эти книги — сплав "жесткой" научной фантастики и фэнтези.

Автор фантастического романа **"Мир ротмистра Тоота" Владимир Свержин** с юношеских лет увлекается военной историей, геральдикой, литературой и единоборствами. Возможно, именно это стало для него источником вдохновения для создания остросюжетного произведения. Главный герой книги Аттайр Тоот ищет собственное "я", душевное спокойствие, пытается понять мир, в котором сегодня всё по твоим правилам, а завтра резко оборачивается против тебя, выходя за привычные рамки. Здесь не знаешь, кто друг, а кто враг. Не знаешь, где дорога в светлое и спокойное будущее, а где — в неизвестность, охваченную пламенем огня.

"Офицеры бывшими не бывают". Казалось бы, кому-кому, а потомственному военному Аттайру Тооту не нужно объяснять эту простую истину, усвоенную в годы великой смуты. Годы, когда не было ни малейшей возможности понять, кто прав в охватившей страну бойне, и каждому приходилось решать, на чьей он стороне и есть ли вообще та сторона, за которую стоит проливать кровь.

У ротмистра Тоота было всё: овеянное славой прошлое, стабильное настоящее и вполне радужное, по меркам его планеты, будущее. У него имелся даже собственный ручной упырь — Дрым. И всё же… После успешного переворота в Столице и падения режима Неизвестных Отцов один из самых молодых полковников за всю историю Метрополии, офицер с блестящими карьерными перспективами и родной брат самого командующего неожиданно попадает в отставку. Теперь у него другая жизненная миссия. Вместе с молодой и красивой женой Юной и верным упырём Тоот едет преподавать в маленький приморский городок Белла. Но кто мог знать, что там он нос к носу столкнётся с опасностью? Неспроста говорят, что для создания будущего нужно порой сделать резкий и рискованный шаг. Так получилось и с Аттайром.

В родной для Тоота город Харрак одновременно с ним прибывает шеф контрразведки Метрополии — прогрессор Рудольф Сикорский, известный на Саракше как таинственный Странник. Совершено нападение неизвестных на стратегический объект, похищена секретная документация, а хонтийские и пандейские диверсанты, говорят, растут прямо на деревьях. Так что, не успев оглянуться, ротмистр оказывается втянутым в странную войну. Причём правила её неизвестны. А точнее — их и вовсе нет. Ведь начало не имеет конца, конец не имеет начала.

# В сказочной стране детства

Екатерина БЕДУЛИНА

Помните мультфильм "Песенка Мышонка"? Жил-был Мышонок, который гулял, распевал песни и смотрел, как другие трудятся. А сам ничего не любил делать. И над ним все смеялись. Он понял, что бездельников нигде не любят. Любят трудолюбивых и тех, кто чего-то хочет добиться в жизни, ставит перед собой цель и уверенно к ней идёт. К тому же у тех, кто умеет и хорошо работать, и весело петь, да ещё и играет на гитаре, всегда много друзей!

### Тест на дружбу

Популярные герои "Союзмультфильма" возвращаются к нам в книжках серии "Читаем сами", выпущенных в свет издательством "Русич". Это прекрасная находка для родителей и малышей. Взрослые вспомнят своё детство, а дети смогут побывать в чудесной стране сказок и познакомиться с весёлыми и забавными героями.




Испытывая героев на храбрость, доброту, верность, авторы тем самым показывают, что никакие волшебные средства не могут помочь стать честным и порядочным. Нужны только личные поступки.

**Екатерина Карганова** — детская писательница, автор более 150 книг для детей, сценариев для мультфильмов, а также множества детских песен.

В книге **"Песенка мышонка"** Екатерины Каргановой — истории, знакомые по советским мультфильмам: "Чуня", "Песенка мышонка", "Волшебная булавка", "Как ослик счастье искал", "Жёлтик".

Сказки Екатерины Каргановой можно найти и в книге **"Самый большой друг"**: "Кто самый красивый?", "Как синичка волка спасла". Под обложкой этой книги есть и произведения другой известной детской писательницы Софьи Прокофьевой: "Самый большой друг", "Часы с кукушкой", "Сказка про башмачки", "Когда можно плакать?"

В сказочном мире каждый сможет почувствовать себя как дома. Действие в книгах чаще всего происходит не за тридевять земель и не в далёкую от нас эпоху, а в нашей стране, в наше время. Главное, что делает эти сказки особенно близкими читателю, — это то, что самые фантастичные из них, где много волшебных превращений и других чудес, вызывают живое участие в судьбе героев, будь то слонёнок, бабочка или облако...

Как же узнать, кто "самый большой друг"?

Очень легко! Настоящий друг — тот, кто никогда не оставит тебя в беде, поддержит добрым советом и словом и всегда будет хранить твой секрет. Как один из героев книги, поросёнок Чуня. Скромный, забавный, вежливый, тактичный. Именно эти качества помогают ему научить других самому, казалось бы, простому в жизни — пониманию и уважению.




Забавные истории, где в главной роли выступают различные представители животного мира, научат малыша понимать, что такое дружба, учиться выбирать надёжных и верных друзей.

Немаловажно само оформление книги. Ведь детское правило "сначала должна понравиться обложка" никто не отменял. О "яркой внешности" книги позаботились художники Пустоваловы.

### Отгадай, кто я такой

Загадки бывают разные: лёгкие и сложные, смешные и довольно-таки серьёзные, детские и взрослые. В общем, на все случаи жизни, обо всём на свете. Судите сами:

Седой дедушка у ворот
Всем глаза заволок.
(Туман)

Зелена, да не луг,
Кудрява, да не голова,
Бела, да не снег.
(Берёза)

**"Книга загадок"** — очень удобная. Компактного формата. Благодаря красочным иллюстрациям художника Татьяны Емельяновой ответы на загадки искать легко.

Листая эти книги, вы не раз улыбнётесь, ведь это удивительное путешествие в сказочную страну детства…

*Маладзічок*



# Падрадкоўнік часам перашкаджае

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва" паспрыяла выхаду ў свет зборніка вершаў "Як зрабіць вясёлым дзень". У гэтым праекце паэт Мікола Чарняўскі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і прэміі імя Васіля Віткі, выступіў у якасці перакладчыка дзіцячых вершаў паэтаў Эстоніі, Малдовы, Украіны, Таджыкістана, Туркменіі, Азербайджана і іншых былых савецкіх рэспублік, а таксама Ізраіля.**



Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**— Мікола Мікалаевіч, ці здаралася вам раней працаваць над перакладамі?**

— Так, мой вопыт перакладаў можна адлічваць з таго часу, калі выходзіла 15-томная анталогія дзіцячай літаратуры народаў СССР у выдавецтве "Юнацтва". У часопісе "Бярозка", дзе я працаваў, да розных юбілейных дат, калі прадстаўлялі ўсе рэспублікі СССР цікавымі творамі іх аўтараў, даводзілася шмат перакладаць, рабіць тэматычныя падборкі. І цяпер таксама стараюся час ад часу брацца за пераклады, знаёміць з навінкамі дзіцячай паэзіі розных краін.

Вельмі спадабалася кніжка дзіцячай паэзіі, аўтар якой — Роберт Мінулін, народны паэт Татарстана, лаўрэат прэміі імя Ханса Крысціяна Андэрсена. Калісьці я некалькі яго вершаў пераклаў для альманаха "Ветразь". Калі б раней у мяне была гэта кніжка, абавязкова ўключыў бы яго ў зборнік "Як зрабіць вясёлым дзень" — піша вельмі сімпатычна, з усмешкай, добра адчувае дзіцячую псіхалогію. Адзін з вершаў аддаў у часопіс "Качели".

**— Раскажыце, калі ласка, як ішла праца над зборнікам.**

— Перакладаў з рускага падрадкоўніка. Але падрадкоўнік часам перашкаджае. Як і вершы ў перакладзе на рускую мову, якія іншым разам прапаноўваліся. Тыя, хто нам іх прапанаваў, думалі, перакладаць лягчэй будзе. Але пры кожным перакладзе даводзіца нешта апускаць і мяняць. Калі з трэціх рук — мала што ад аўтара застаецца. Галоўнае для перакладчыка — знайсці цікавы ракурс. Трэба шукаць уласнае зерне. Даводзілася і ў энцыклапедыю зазірнуць не раз. І іншых паэтаў пачытаць. І ў бібліятэцы пасядзець. У паэтаў розных краін нават на форму вершаскладання зусім розны погляд. Калі фармальна падыходзіць да справы — абы з рук — можна гэта ўсё лёгенька перакласці. Але калі сур'ёзна, каб было ўяўленне пра творчую асобу, трэба добра парупіцца, улічыць, што сярод аўтараў, чые творы ўвайшлі ў зборнік, — не толькі дзіцячыя паэты.

**— Вершы якіх аўтараў найбольш патрабавалі "адаптацыі" для маленькіх беларускіх чытачоў?**




— Калі браць паэзію сярэднеазіяцкіх краін і нават Прыбалтыкі — яны адрозна ад нас глядзяць на рэчы, што нам падаюцца звычайнымі. У гэтых аўтараў зусім іншая вобразная сістэма. Напрыклад, вершы туркменскага паэта Каюма Тангрыкуліева і кіргізскага Тэмеркула Уметаліева. Ідзе апісанне: стэп вясновы, трава падрасла, авечкі ходзяць, малыя ягняты гуляюць. І на гэтым верш заканчваецца. Агульнае захапленне — вясна, сонца, стэп. Ну і што такога, здавалася б? А ў іх гэта захапленне — частка жыцця. Можа, таму, што побач пустыня.

Пры перакладзе пажадана, каб вобразы захаваліся. Эпітэты свае, параўнанні свае — нацыянальны штрых. Казахскія, туркменскія, айзербайджанскія вершы для нашых чытачоў абавязкова будуць адкрыццём, таму што ў іх свае героі, любімыя персанажы, месцы дзеяння. Напрыклад, у іх паўсюдна арэх расце, а ў беларускіх вершах дзеці любяць гуляць пад дубам.

Працаваць над перакладам, канечне, цяжка. Каб там жыў, бачыў усё гэта, адчуў... На вялікі жаль, не давялося пабываць у гэтых мясцінах, калі творчых камандзіровак праводзілася шмат за савецкім часам — і нашы пісьменнікі шмат паездзілі, пабачылі, прывезлі нямала творчых задумак з такіх вандровак. У Прыбалтыцы быў — там уся жончына радня, а каларыт Сярэдняй Азіі ўяўляю толькі з літаратуры і кіно.

**— Якія агульныя арыенціры ў паэтычнай Краіне дзяцінства розных народаў і якімі ўвогуле павінны быць вершы для дзяцей?**

— Па-першае, сумнымі яны быць не павінны. Невялікія па аб'ёме. Сёння дзеці больш увагі аддаюць камп'ютару. Ведаю па ўнучцы. Задаюць вучыць на памяць, прыйдзе і просіць: "Знайдзі мне вельмі кароценькі верш!" Як я вучыўся, мне розніцы не было, бо давалася лёгка. Некаторыя паэмы Маякоўскага на памяць ведаў цалкам. Хаця тады іх у школе не ўсе вывучалі — вельмі цяжкі паэт, складаная рытміка. А мне падабалася. Калі чалавек сталее, ён ужо не будзе шукаць больш кароткае чытво. А дзецям на ранішніку трэба карацелькі.

Кніжка "Як зрабіць вясёлым дзень" адрасавана вучням пачатковай школы, дзецям малодшага школьнага ўзросту. Хацелася, каб вершы не былі занадта павучальныя, дэкларатыўныя, якія, аднак, для душы нічога не даюць. Калі ў вершы ёсць гумарынка нейкая, сатырычная нотка, дзеці ўспрымаюць твор па-іншаму. І калі там нешта высмейваецца, малы задумаецца: "Можа, і не варта так рабіць?" У раздзеле кнігі "Бабслей… на парэнчах, альбо Хто аб чым бядуе" менавіта такія вершы.

Пра арыенціры… Кожнае дзяцінства — па-свойму цікавае, своеасаблівае і непаўторнае. Прыгадваю сваё дзяцінства, маіх дзяцей і ўнукаў. Там заўсёды сонечна. І першы раздзел кнігі мае назву "Свеціць сонейка для ўсіх, альбо Што дзіцяці трэба". Дзяцінства заўсёды па-свойму шчаслівае, у якой бы краіне ні жыў: дзеці з бацькамі растуць, пра іх бацькі клапоцяцца, каб у іх было ўсё неабходнае. Другі раздзел "Як зрабіць вясёлым дзень, альбо Побач мама — родны свет" змяшчае вершы на гэту тэму. Дзіцячая паэзія ўсіх без выключэння краін ухваляе працу, залатыя рукі руплівых людзей. Пра гэта трэці раздзел "Усё для ўсіх, альбо Хто заўсёды ў клопаце?" Для дзіцячай паэзіі кожнага народа ўласціва наяўнасць вершаў, прысвечаных сваёй зямлі. Павінна быць дарагой сэрцу з маленства гэта родная зямля, што асабліва адчуваецца ў паэзіі сярэднеазіяцкіх і прыбалтыйскіх краін. Свая зямля — самая прыгожая, якая б яна ні была (пустыня, горы). Яны на ёй жывуць, і яны шчаслівыя. Усе, хто піша для дзяцей, імкнуцца перадаць яе харэство. Вершы гэтай тэматыкі аб'яднаны ў раздзеле "Жывы буквар, альбо Хто памог прыйсці вясне".

Жадаем беларускім чытачам цікавага падарожжа па старонках новага зборніка. У ім — больш як сотня вершаў, у кожным з якіх, нібыта ў кроплі вады, адбілася сонечнае свята Краіны дзяцінства.

## Старинная пословица без повода не молвится

Пословицы, скороговорки, способствующие развитию речи, загадки, стихотворения, развивающие не только память, но и артистические способности ребёнка, а также интересные факты, которые помогут обогатить знания дошкольников о человеке и окружающем мире, вошли в сборник "Детям о человеке и рукотворном мире".

Составителями книжки, которой несомненно обрадуются в первую очередь педагоги детских дошкольных учреждений, стали Ольга Скребцова и Галина Трафимова, соавтор полюбившейся читателям серии "Рассказы Деда Природоведа". И поскольку поработали над изданием педагоги-практики, акцент сделан на нужной тематике, о чём свидетельствуют разделы: "Беларусь — наша Родина", "Город. Улица. Транспорт", "В мире профессий", "Библиотека", "Школа", "Семья" и т.д. Обо всём, что окружает ребёнка, — любимых игрушках и играх, непослушных шнурках, бьющихся тарелках — найдутся коротенькие забавные стихи.




В качестве варианта использования тематического материала составители приводят примерный план работы на неделю по теме "Мебель" в старшей группе детского сада.

А папам и мамам, дедушкам и бабушкам будет легко научить детей декламировать:

*Мама мне читает книжку*
*Про зайчишку и лисёнка…*
*Я б послушал про войнушку,*
*Только мама ведь — девчонка.*

С удовольствием выучат дети и стишок про "Сапоги с характером", где один сапог спал себе спокойно, а второй…

*…урчал и шевелился,*
*метался и крутился.*
*Устал, мяукнул тонко*
*И выпустил… котёнка!*

Сборник "Детям о человеке и рукотворном мире" выпущен в этом году издательством "Народная асвета".

Ольга ПОЛОМЦЕВА

Ольга НОРИНА

# Как научиться видеть чудо

**Книга Елены Михаленко "Добрые сказки" в прошлом году выдержала уже второе издание. Выпустила сборник для детей дошкольного и младшего школьного возраста Белорусская Православная Церковь.**

На страницах этой книжки вас ожидают самые разные герои.

Поросёнок в одной из них — невероятный чистюля. Но его соседи этого не видят, и во дворе целый день звучит: "Не лезьте в лужу, а то будете грязными, как поросёнок!" Страдает красавица бабочка от того, что не умеет делать никакой работы и не приносит пользы. Боится лезть в холодную воду маленький утёнок. Скучает в одиночестве запасливый ёжик — у него нет друзей. И разве не горько, что так мало живут на свете жёлтые одуванчики и так быстро уносит ветер их белый пух?..

Но потому сказки и добрые, что в каждой из них случится маленькое чудо. В раю Ева объяснит бабочке, что её красота создана, чтобы радовать мир, это и есть её главная работа. Спасут цыплёнка от коршуна жёлтые одуванчики и порадуются — их жизнь не напрасна. Ёжик придёт на помощь старушке белке и многодетной зайчихе, поможет и сороке с перебитым крылом. И поймёт, что




добро делать приятно, а когда заботишься только о себе, это не приносит радости. И жизнь его изменится — ведь теперь у него столько друзей, которые для него придумают интересную историю и забавную игру, приготовят вкусный обед. Вытащит из воды тонущего воробышка несмелый утёнок — и окажется, что он прекрасно умеет плавать. Поселится во дворе корова и свежим взглядом отметит, что поросёнок-то умница. И обитатели двора станут ставить его детишкам в пример. Даже в самой плохой ситуации обнаружится что-то хорошее: кузнечик со сломанной лапкой, которого согласилась отвезти домой на спине черепаха, заметит, как красиво вокруг, если не особенно торопиться.

Полюбят читатели книжки и слонёнка из тропического леса, который не постеснялся участвовать в конкурсе танцоров, хотя и слыл толстым и неуклюжим, и зайчонка Ушастика, с которым подружился солнечный зайчик. Порадуются за львёнка Цезаря, к которому на день рождения придут гости. Вздохнут с облегчением, когда прекрасную розу выручит от чуть было не срезавших её мальчишек та самая надоедливая оса, от которой цветок раньше только отмахивался.

Думаю, по нраву придутся эти сказки и взрослым, которые будут читать их своим детям и внукам: здесь нет морали ради морали. Легко, в увлекательной форме, строятся диалоги и даются ответы на серьёзные вопросы. Бельчонок Скок спрашивает у взрослых, отуда взялось всё вокруг. Взрослые почему-то об этом не задумываются. И наконец догадывается: "Понимаете, всё берётся откуда-то. Домик построил папа. Пирог испекла мама. Сказку придумала бабушка. Не может быть, чтобы всё появилось само. Я думаю, есть Кто-то, Кто подарил нам всё.

— Может, ты и прав, бельчонок, — задумчиво покачал головой дедушка. Но тогда этот Кто-то очень мудрый…"

# Навінкі кнігавыдання



## Чытальная зала

### «Песня, прапетая сэрцам бацькоў»

Зборнік вершаў Уладзіміра Жылко "Пасля нас зацвіце тое зноў…" убачыў свет у мінулым годзе ў Нясвіжскай узбуйненай друкарні імя С. Буднага. Вершы У. Жылко пачаў пісаць у старшых класах школы. Працаваў юрыстам. І быў моцна здзіўлены першымі публікацыямі ў газетах "Мінская праўда" і "Чырвоны сцяг": выпадкова яго вершы трапілі да вядомых паэтаў, і тыя аддалі іх у друк. Але толькі ў 2009 годзе паэт рызыкнуў сам выйсці да чытачоў. Яго трапныя гумарыстычныя і пранікнёна-лірычныя творы падабаліся землякам, былі цёпла прыняты ў абласным народным клубе "Жывіца". І вось — кніжка з філасофскай назвай "Пасля нас зацвіце тое зноў…"

Параім чытачу для добрага настрою пачаць знаёмства з ёю з раздзела "Гумар", у якім аўтар выкрывае хібы нашага жыцця. Тых, хто вельмі ўпадабаў гарэлку, папярэджвае, што *"жыццё ўсё марна пройдзе: / кінуць жонка і сябры, / Малады ці ты стары. / І не дзіва. Мусяць кінуць — не сям'і ж з ім разам гінуць!"* І застанецца *"толькі пах мо перагару, / ўспамянуць мо як пачвару… / Так і згіне недарэка — / Чаркай / змыла / чалавека!"*

У распаволеным вершы аўтар разважае, якімі словамі назваць тое, што кожны вечар бачыць прыхільнік баўлення часу перад тэлеэкранам ("Эратычны баявік").

Зразумеюць чытачы і клопаты героя верша "Непрацоўныя даходы", які ў дзевяностыя гады не ведаў, чым карміць свіней: *"Хоць давай ты свінням грошы, / Хай што хочуць, то ядуць! / Тады будзеш ты харошы, / Яны ж у краму хай бягуць, / Там што хочуць, то купляюць, / Хоць цукеркі, хоць віно… / — Ды нічога не прыдбаюць / Бедалагі ўсё адно"*.

У 2010 г. У. Жылко стаў лаўрэатам раённага конкурсу "Старонкі той далёкай вайны". У кнігу ўвайшлі пейзажныя замалёўкі, "Месяцаслоў", патрыятычныя творы (раздзел "Вайна"), роздумы аўтара і яго пераклады вершаў Станіславы Вятр-Партыкі.

**Вольга ПАЛОМЦАВА**

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**АГУЛЬНЫ РАЗДЗЕЛ. НАВУКА І ВЕДЫ. ІНФАРМАЦЫЯ. ДАКУМЕНТАЦЫЯ. БІБЛІЯТЭЧНАЯ СПРАВА. АРГАНІЗАЦЫІ. ПУБЛІКАЦЫІ Ў ЦЭЛЫМ**

**Навука і веды ў цэлым. Арганізацыя разумовай працы**

**Каталог высокотехнологичных товаров Республики Беларусь** = Catalogue of high-tech products of the Republic of Belarus / Государственный комитет по науке и технологиям Республики Беларусь. — Минск: Белорусский институт системного анализа и информационного обеспечения научно-технической сферы, 2007–

Вып. 4 / [составители: А. Е. Черныш и др.; под редакцией И. В. Войтова]. — 2012. — 231 с. — Обложка и текст параллельно на русском и английском языках. — 65 экз. — ISBN 978-985-6874-24-9.

**Самая нужная книга для самого нужного места**: 1000 невероятных фактов, которых вы не знали. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-18-0737-2.

**Дакументацыя. Друк у цэлым. Аўтарства**

**Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: гісторыя і сучаснасць**: зборнік навуковых прац / Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў; [складальнікі: Л. І. Доўнар, Т. А. Самайлюк; рэдкалегія: Б. У. Святлоў (гал. рэд.) і інш.]. — Мінск: БДУ культуры і мастацтваў, 2011. — 346 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-522-044-3.

**Казлоўскі, М. М.** Да кніжных скарбаў дакрануся...: нататкі бібліяфіла / Міхась Казлоўскі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 376 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-6994-77-0 (у пер.).

**Інфармацыйныя тэхналогіі. Апрацоўка данных**

**Голиков, В. Ф.** Методологические основы информационной безопасности: учебно-методическое пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования по 2-й ступени высшего образования по специальности 1-40 80 01 «Методы системы защиты информации, информационная безопасность» / В. Ф. Голиков, И. И. Черная, О. Б. Зельманский; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники. — Минск: БГУИР, 2012. — 72 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-488-614-5.

**Информатика**: весь школьный курс в таблицах / [составитель Копыл Виталий Ильич]. — 2-е изд. — Минск: Букмастер: Кузьма, 2011. — 224 с. — 10050 экз. — ISBN 978-985-549-150-8 (Букмастер). — ISBN 978-985-453-512-8 (Кузьма).

**Информационные системы и технологии. Web-программирование на JavaScript**: практикум к лабораторным занятиям для студентов специальности 1-26 03 01 «Управление информационными ресурсами» / Белкоопсоюз, Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации, Кафедра информационно-вычислительных систем; [автор-составитель В. В. Бондарева]. — Гомель: БТЭУПК, 2011. — 104 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-461-890-6.

**Кобайло, А. С.** Введение в XML: учебно-методическое пособие для студентов учреждений высшего образования по направлению специальности «Информационные системы и технологии (издательско-полиграфический комплекс)» / А. С. Кобайло, Н. А. Жиляк; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2011. — 320 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-530-101-2 (в пер.).

**Компьютерные информационные технологии**: учебно-методический комплекс для студентов аграрных вузов, слушателей повышения квалификации и переподготовки кадров агропромышленного комплекса Республики Беларусь / Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет, Кафедра экономической информатики; [составители: О. Л. Сапун и др.]. — Минск: БГАТУ, 2012. — 158 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-519-484-3.

**Криштопова, Е. А.** Основы защиты информации: методическое пособие для студентов специальностей 1-36 04 02 «Промышленная электроника», 1-39 02 01 «Моделирование и компьютерное проектирование радиоэлектронных средств», 1-40 02 01 «Вычислительные машины, системы и сети», 1-45 01 02 «Системы радиосвязи, радиовещания и телевидения», 1-53 01 07 «Информационные технологии и управление в технических системах» заочной и вечерней форм обучения / Е. А. Криштопова; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники, Институт информационных технологий, Кафедра информационных систем и технологий. — Минск: БГУИР, 2012. — 176 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-488-674-9.

**Лащенко, А. П.** Проектирование баз данных и СУБД Access 2007: лабораторный практикум для студентов учреждений высшего образования по специальностям 1-25 01 07 «Экономика и управление на предприятии», 1-25 01 08 «Бухгалтерский учет», 1-26 02 02 «Менеджмент», 1-26 02 03 «Маркетинг» по дисциплине «Компьютерные информационные технологии» / А. П. Лащенко, Т. В. Кишкурно; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2011. — 119 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-530-116-6.

**Левкович, В. Н.** Микропроцессорные устройства. Лабораторный практикум: учебно-методическое пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования по специальностям 1-39 01 01 «Радиотехника», 1-39 01 02 «Радиоэлектронные системы», 1-39 01 03 «Радиоинформатика», 1-39 01 04 «Радиоэлектронная защита информации» / В. Н. Левкович, Е. Н. Каленкович, А. А. Казека; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники. — Минск: БГУИР, 2012. — 91 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-488-713-5.

**Лыньков, Л. М.** Активные средства защиты электронно-вычислительных машин: методическое пособие по дисциплине «Технические средства обнаружения и подавления каналов утечки информации» для студентов специальности 1-98 01 02 «Защита информации в телекоммуникациях» дневной формы обучения / Л. М. Лыньков, Л. Л. Утин; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники, Кафедра защиты информации. — Минск: БГУИР, 2012. — 50 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-488-756-2.

**Плетнев, А. Э.** Реальная виртуальность / А. Э. Плетнев, А. Г. Сугакевич. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2012. — 63 с. — 32300 экз. — ISBN 978-985-6821-98-4.

**Садыхов, Р. Х.** Нейросетевые технологии принятия решений: методическое пособие для студентов специальности 1-98 80 03 «Аппаратное программно-техническое обеспечение информационной безопасности» / Р. Х. Садыхов, Е. В. Пушкин, А. О. Шадура; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники, Кафедра электронных вычислительных машин. — Минск: БГУИР, 2012. — 41 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-488-635-0.

**Снарская, Т. Р.** Стань мастером в Adobe Photoshop: учебное пособие / Т. Р. Снарская. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2011. — 157 с. — 4300 экз. — ISBN 978-985-6821-97-7 (в пер.).

**Кіраванне. Менеджмент**

**Гуменников, А. П.** Информационные технологии и системы в логистике: курс лекций для студентов специальности 1-26 02 05 «Логистика»: в 2 ч. / А. П. Гуменников; Белкоопсоюз, Белорусский торгово-экономический факультет потребительской кооперации. — Гомель: БТЭУПК, 2011–

Ч. 1: Информационные потоки и технологии в логистике. — 2011. — 68 с. — 125 экз. — ISBN 978-985-461-903-3.

**Курочкин, Д. В.** Логистика: практикум / Д. В. Курочкин. — Минск: ФУАинформ, 2012. — 199 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6868-59-0.

**Менеджмент качества**: практикум для студентов специальности 1-26 02 02 «Менеджмент» / Белкоопсоюз, Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации, Кафедра менеджмента; [авторы-составители: А. А. Титович, М. Н. Михалко]. — Гомель: БТЭУПК, 2012. — 120 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-461-911-8.

**Николайчик, И. А.** Основы менеджмента и делопроизводства: учебно-методическое пособие для студентов специальности 1-74 03 01 «Зоотехния» / [И. А. Николайчик, М. В. Базылев]; Витебская государственная академия ветеринарной медицины, Кафедра экономики и организации сельскохозяйственного производства. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 94 с. — 760 экз. — ISBN 978-985-512-510-6.

**Руденков, В. М.** Ведение переговоров: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по экономическим специальностям / В. М. Руденков, Н. П. Беляцкий, И. К. Рудак. — Минск: Амалфея: Мисанта, 2012. — 183 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-441-970-1 (Амалфея). — ISBN 978-985-6989-04-2 (Мисанта).

**Руденков, В. М.** Менеджмент в общественных организациях: учебное пособие: [для студентов] / В. М. Руденков. — Минск: Мисанта, 2012. — 447 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6989-25-7 (в пер.).

**Стандарты. Тэхнічныя патрабаванні**

**Гуревич, В. Л.** Основы стандартизации: методическое пособие для студентов специальностей 1-54 01 01-02 «Метрология, стандартизация и сертификация (радиоэлектроника, информатика и связь)», 1-54 01 04 «Метрологическое обеспечение информационных систем и сетей»: в 2 ч. / В. Л. Гуревич, Ю. А. Гусынина; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники, Кафедра метрологии и стандартизации. — Минск: БГУИР, 2009–2012. — ISBN 978-985-488-444-8.

Ч. 2. — 2012. — 100 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-488-629-9.

**Подача уведомлений о веществах в Реестр классификации и маркировки**: практическое руководство: регламент (ЕС) № 1272/2008 по классификации, маркировке и упаковке веществ и смесей / Государственный комитет по стандартизации Республики Беларусь, Научно-производственное республиканское унитарное предприятие «Белорусский государственный институт стандартизации и сертификации» (БелГИСС). — Минск: БелГИСС, 2011. — 19 с. — 25 экз.

**Электромагнитная совместимость**: рекомендации по применению Директивы 2004/108/ЕС / Государственный комитет по стандартизации Республики Беларусь, Научно-производственное республиканское унитарное предприятие «Белорусский государственный институт стандартизации и сертификации»; [подготовлены в составе Гуревича В. Л. и др.]. — Минск: БелГИСС, 2011. — VI, 41 с. — 20 экз.

**Цывілізацыя. Культура. Прагрэс**

**Культурная спадчына беларускага народа: праблемы захавання і развіцця**: XXXVI навуковая канферэнцыя студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (28–29 красавіка 2011 г.): зборнік навуковых артыкулаў / Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў; [рэдакцыйны савет: М. А. Мажэйка (старшыня) і інш.]. — Мінск: БДУ культуры і мастацтваў, 2011. — 158 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-522-047-4.

**Бібліяграфія і бібліяграфіі. Каталогі**

**Бабина, М. П.** Автобиографический очерк доктора ветеринарных наук, профессора Бабиной Марии Павловны: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2010. — 16 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-447-7. — ISBN 978-985-512-445-7 (ошибоч.).

**Веремей, Э. И.** Автобиографический очерк доктора ветеринарных наук, профессора Веремея Эдуарда Иосифовича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2010. — 28 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-448-2.

**Герасимчик, В. А.** Автобиографический очерк доктора ветеринарных наук, доцента Герасимчика Владимира Александровича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2010. — 18 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-449-9.

**Горячев, И. И.** Автобиографический очерк доктора сельскохозяйственных наук, профессора Горячева Ивана Ивановича : (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2010. — 13 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-450-5. — ISBN 978-985-512-455-5 (ошибоч.).

**Гусаков, В. К.** Автобиографический очерк доктора биологических наук, профессора, члена-корреспондента Российской Академии аграрного образования Гусакова Валентина Кузьмича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2010 (2011). — 13 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-451-2.

**Карпуть, И. М.** Автобиографический очерк доктора ветеринарных наук, профессора, члена-корреспондента ААН и НАН Беларуси Карпутя Ивана Матвеевича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2010 (2011). — 57 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-452-9.

**Корнилов, Ю. Д.** Автобиографический очерк доктора экономических наук, профессора Корнилова Юрия Дмитриевича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 31 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-453-6.

**Кузьмініч, Т. В.** Бібліяграфазнаўства. Тэорыя : вучэбны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльнасці 1-23 01 11 Бібліятэказнаўства і бібліяграфія (па напрамках) / Т. В. Кузьмініч; Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. — Мінск: БДУ культуры і мастацтваў, 2011. — 203 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-522-037-5.

**Лазовский, А. А.** Автобиографический очерк доктора сельскохозяйственных наук, профессора Лазовского Анатолия Александровича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 23 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-455-0.

**Лемеш, В. М.** Автобиографический очерк доктора ветеринарных наук, профессора, члена-корреспондента НАН Беларуси Лемеша Валерия Митрофановича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 29 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-457-4.

**Летапіс аўтарэфератаў дысертацый** = Chronicle of thesis abstracts: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1999– Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах.

2011 / [складальнікі: Н. А. Брашко, Т. В. Сырамаха; адказны рэдактар С. М. Цяльнова]. — 2012. — 76 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 40 экз.

**Летапіс выяўленчых выданняў** = Chronicle of graphic editions: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1955– Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах.

2011 / [складальнік Л. І. Бажэнкова; адказны рэдактар І. У. Яскульская]. — 2012. — 72 с. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 30 экз.

**Летапіс картаграфічных выданняў** = Chronicle of cartographic editions: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1994– Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах.

2011 / [складальнік Т. В. Сырамаха; адказны рэдактар С. М. Цяльнова]. — 2012. — 60 с. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 30 экз.

**Летапіс нотных выданняў** = Chronicle of printed music: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1924– Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах.

2011 / [складальнік І. Г. Бабарыка; адказны рэдактар І. У. Яскульская]. — 2012. — 31 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 30 экз.

**Лукашевич, Н. П.** Автобиографический очерк доктора сельскохозяйственных наук, профессора Лукашевич Нины Петровны: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 22 с. — 22 экз. — ISBN 978-985-512-458-1.

**Медведев, А. П.** Автобиографический очерк доктора ветеринарных наук, профессора Медведева Александра Петровича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 18 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-460-4.

**Медведский, В. А.** Автобиографический очерк доктора сельскохозяйственных наук, профессора Медведского Владимира Александровича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 29 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-461-1.

**Солоненко, А. А.** Автобиографический очерк доктора ветеринарных наук, профессора Солоненко Альберта Андреевича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 13 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-466-6.

**"ТетраСистемс», издательство (Минск).** Каталог, 2012: учебная, справочная, юридическая, экономическая литература / Издательство «ТетраСистемс». — Минск: ТетраСистемс, 2012. — 205 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз.

**Холод, В. М.** Автобиографический очерк доктора биологических наук, профессора Холода Валерия Михайловича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 18 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-467-3.

**Шляхтунов, В. И.** Автобиографический очерк доктора сельскохозяйственных наук, профессора Шляхтунова Владимира Иосифовича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 18 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-468-0.

**Яцко, Н. А.** Автобиографический очерк доктора сельскохозяйственных наук, профессора Яцко Николая Антоновича: (к 85-летию образования УО ВГАВМ) / Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 31 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-512-469-7.

### Бібліятэчная справа

**Беларускія пісьменнікі-юбіляры 2012 года**: біябібліяграфічны паказальнік: 1-е паўгоддзе / ДУ «Мінская абласная бібліятэка ім. А. С. Пушкіна», Аддзел бібліятэказнаўства; [складальнікі: Дзітлава В. А., Закрэўская С. І.]. — Мінск: Мінская абласная бібліятэка, 2012. — 54 с. — 40 экз.

**Бібліятэчны веснік**: зборнік артыкулаў / Нацыянальная бібліятэка Беларусі. — Мінск: НБ Беларусі, 2010–

Вып. 3 / [складальнікі: Л. Г. Кірухіна, М. Г. Пшыбытка; рэдактары: Л. Г. Кірухіна (галоўны рэдактар), В. А. Сабалеўская, Ж. К. Зяневіч]. — 2011. — 234 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мове. — Частка тэксту на рускай мове. — 150 экз. — ISBN 978-985-6879-65-7.

**Вандроўкі Апошняга Жураўля**: сцэнарый літаратурнай вечарыны да 65-годдзя з дня нараджэння А. Жука / ДУ «Мінская абласная бібліятэка ім. А. С. Пушкіна», Аддзел бібліятэказнаўства; [складальнік Дзітлава В. А.]. — Мінск: Мінская абласная бібліятэка, 2011. — 19 с. — 30 экз.

**Гимн биологическому разнообразию**: [сценарии / редактор-составитель Л. В. Нестерович]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 175 с. — 1700 экз. — ISBN 978-985-405-651-7.

**Демешко, Л. А.** Библиотечная реклама: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений по специальности 1-23 01 11 Библиотековедение и библиография (по направлениям) / Л. А. Демешко; Министерство культуры Республики Беларусь, Белорусский государственный университет культуры и искусств. — Минск: БГУ культуры и искусств, 2011. — 182 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-522-050-4.

**Организация работы научно-технических библиотек и библиотечно-информационных служб предприятий и организаций**: методические рекомендации / Государственный комитет по науке и технологиям Республики Беларусь, Республиканская научно-техническая библиотека. — Минск, 2011–

Вып. 1: Документы, регламентирующие деятельность библиотек. — 2011. — 212 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз.

### Даведачныя выданні агульнага тыпу

**Хомич, Е. О.** Большой подарок настоящему мужчине / Хомич Елена Олеговна. — Минск: Харвест, 2012. — 255 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9885-7 (в пер.).

### Арганізацыі і іншыя тыпы аб'яднанняў

**Смолянко, О.** Общественные советы в Беларуси: правовое регулирование и практика: материалы комплексного политико-правового исследования / [Ольга Смолянко, Юрий Чаусов]; Центр правовой трансформации. — Минск: Медисонт, 2011. — 63 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6982-39-5.

### Выданні змешанага зместу. Зборнікі

**Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна.** Вучоныя запіскі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна: зборнік навуковых прац / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт ім. А. С. Пушкіна; [галоўны рэдактар М. Э. Часноўскі]. — Брэст: БрДУ, 2005–

Вып. 7, ч. 2: Прыродазнаўчыя навукі. — 2011. — 142 с. — Тытульны л. і частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 100 экз. — ISBN 978-985-473-772-0. — ISBN 978-985-473-810-9 (ч. 2).

**Витебский государственный университет имени П. М. Машерова.** Ученые записки УО «ВГУ им. П. М. Машерова»: сборник научных трудов / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова. — Витебск: ВГУ, 2002–

Т. 12 / [редколлегия: А. П. Солодков (главный редактор) и др.]. — 2011. — 223 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз.

**Военная академия Республики Беларусь (Минск).** Сборник научных статей Военной академии Республики Беларусь / Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2004– ISSN 2224-1132.

№ 21 / [редколлегия: В. М. Булойчик (главный редактор) и др.]. — 2011. — 133 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 100 экз.

**Минский государственный лингвистический университет. Научная конференция преподавателей и аспирантов (2011).** Материалы ежегодной научной конференции преподавателей и аспирантов университета, 27–28 апреля 2011 г.: в 5 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет; [редколлегия: Н. П. Баранова (ответственный редактор) и др.]. — Минск: МГЛУ, 2011. — ISBN 978-985-460-453-4.

Ч. 5. — 2011. — 247 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-467-1.

**Студенты – науке и практике АПК**: материалы 96-й международной научно-практической конференции (г. Витебск, 25–26 мая 2011 г.) / под общей редакцией А. И. Ятусевича. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 348 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-512-513-7.

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Атлас мира для малышей**: с наклейками: животные: [для дошкольного и младшего школьного возраста / рисунки В. Ю. Глотова; текст Л. Н. Образцова]. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Сова, 2011. — 18 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-985-18-0508-8 (Харвест).

**Бадак, А. М.** Насякомыя: заалагічныя эцюды / Алесь Бадак; [фотаздымкі А. М. Бадака і інш.]. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 87 с. — Фотаздымкі таксама: Бышнёў І. І., Вінчэўскі Д. Я., Гулеўскі Г. В., Дубіловіч В. М., Зуёнак С. В., Казулін А. В., Лукшыц В. У., Пінчук П. У., Шаблюк Г. А., Якубовіч Д. В. — 1600 экз. — ISBN 978-985-6994-75-6 (у пер.).

**Бахметева, А. Н.** Изложение Нового Завета для детей / А. Н. Бахметева; [художник В. И. Волынец]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 511 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-985-511-421-6 (в пер.).

**Бернацкий, А. С.** Великий и таинственный океан / А. С. Бернацкий. — Минск: Народная асвета, 2012. — 189 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1711-7.

**Большая детская энциклопедия**: чудеса мира, самые красивые места мира, сокровища мира, военные тайны, военная техника, чудеса природы, животные, динозавры / [над книгой работали: Л. Бурмистрова и др.; иллюстрации А. Шепса]. — Минск: Современный литератор, 2011. — 351 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-985-14-1385-6 (в пер.).

**Большая детская энциклопедия для девочек**: [книга для чтения взрослыми детям ]. — Минск: Современный литератор, 2011. — 239 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-985-14-1613-0 (в пер.).

**Большая детская энциклопедия для мальчиков**. — Минск: Современный литератор, 2011. — 239 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10100 экз. — ISBN 978-985-14-1356-6 (в пер.).

**Гусев, И. Е.** Человек. Что? Зачем? Почему?: [для среднего школьного возраста / Гусев Игорь Евгеньевич]. — Минск: Харвест, 2012. — 255 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-18-0461-6 (в пер.).

**Ермакович, Д. И.** Первая книга маленькой принцессы / [Дарья Ивановна Ермакович]. — Минск: Харвест, 2011. — 159 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9671-6 (в пер.).

**Кважды ква. Каникулы**: [тесты, ребусы, викторины, анекдоты и приколы / редактор-составитель: А. А. Уголькова]. — Минск: Типография Макарова и К, 2011. — 18 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6818-64-9.

**Красная книга Беларуси для детей. Млекопитающие** / [Л. Д. Бурко и др.; под общей редакцией Л. Д. Бурко]. — 2-е изд. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2012. — 175 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-11-0605-5 (в пер.).

**Мерников, А. Г.** Супертачки: 3D: ты увидишь все в объеме и цвете: [для младшего и среднего школьного возраста / Мерников Андрей Геннадьевич]. — Минск: Харвест, 2012. — 15 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-16-9358-6.

**Могилевская, С. А.** Девочки, книга для вас: [энциклопедия для девочек: для младшего школьного возраста] / Софья Могилевская. — Минск: Харвест, 2011. — 223 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-16-0453-7 (в пер.).

**Могилевская, С. А.** Девочки, книга для вас: [энциклопедия для девочек: для младшего школьного возраста] / Софья Могилевская. — Минск: Харвест, 2012. — 240 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-16-8823-0 (в пер.).

**Преподобный Макарий Александрийский** / [пересказали для детей: Велько Александр Владимирович, Денисов Леонид Иванович; иллюстрации А. В. Велько, Г. Л. Ивановой]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 16 с. — Издано при участии ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-464-3.

**Святая великомученица Анастасия Узорешительница** / [пересказал для детей Велько Александр Владимирович; иллюстрации А. В. Велько, Г. Л. Ивановой]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 20 с. — Издано при участии ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-453-7.

**Святая великомученица Параскева Пятница** / [пересказал для детей Велько Александр Владимирович; рисунки А. В. Велько, Ф. С. Кряжева, Г. Л. Ивановой]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 16 с. — Издано при участии ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-454-4.

**Святитель Павлин Милостивый** / [пересказал для детей Велько Александр Владимирович ; иллюстрации А. В. Велько, Г. Л. Ивановой]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 16 с. — Издано при участии ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-458-2.

**Трафимова, Г. В.** В мире зеленых чудес: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — Минск: Народная асвета, 2012. — 56 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1712-4.

**Трифелдт, Л.** Растения и животные: самые интересные факты / Лори Трифелдт; [перевод с английского: Е. А. Минакова]. — Москва: АСТ: Астрель, 2011. — 96 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-07-4743-6 (АСТ). — ISBN 978-5-271-36446-4 (Астрель). — ISBN 978- 985-18-0375-6 (Харвест) (в пер.).

**Чайка, Е. С.** Моя первая энциклопедия / [Чайка Елена Степановна]. — Минск: Харвест, 2012. — 239 с. — 3000 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-16-7034-1 (ошибоч.).

**Что? Где? Когда?**: вопросы и ответы: уникальная книга-игра для юных эрудитов: [ для среднего и старшего школьного возраста / составители: В. Скурат, М. Гальперович, О. Захарова]. — Минск: Современная школа, 2011. — 95 с. — Издано при участии ООО «ЮниверсПресс» и ООО «Букмастер» (Минск). — 5050 экз. — ISBN 978-985-539-325-3 (в пер.).

**Шереметьева, Т. Л.** 1001 вопрос обо всем на свете: [для среднего и старшего школьного возраста / Шереметьева Татьяна Леонидовна]. — Минск: Харвест, 2012. — 159 с. — 7000 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-16-7668-8 (ошибоч.).

**Энциклопедия эрудита** / [Алан Дайер и др.; перевод с английского М. И. Антипина и др.]. — Москва: Астрель, 2011. — 64 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-39-314-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0760-0 (Харвест) (в пер.).

**Я – гражданин Республики Беларусь** = Я – грамадзянін Рэспублікі Беларусь / [Г. А. Василевич и др.; редакционный совет: В. В. Якжик (председатель) и др.; автор стихов Н. Я. Гальперович; фотоматериалы П. В. Костромы и др.]. — 5-е изд., переработанное и дополненное. — Минск: Пачатковая школа, 2011. — 219 с. + 2 электронно-оптических диска (CD-ROM). — Часть текста параллельно на белорусском, русском и английском языках. — Часть текста на белорусском языке. — 45300 экз. — ISBN 978-985-6857-69-1. — ISBN 978-985-6857-70-7 (отд. кн.) (в пер.). — ISBN 978-985-6988-15-1 (CD 1). — ISBN 978-985-6988-16-8 (CD 2).

## ФІЛАСОФІЯ. ПСІХАЛОГІЯ

### Філасофія

**Анапреенко, Я. Г.** Эклектика: [в 10 т.] / Яков Григорьевич Анапреенко. — Минск, 2003–2007. — 90 экз.

Т. 1: Публицистика. — 2003. — 285 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках.

Т. 2: Акцентуации. — 2003. — 307 с. — Часть текста на белорусском языке.

Т. 3: Трактаты. — 2003. — 290 с.

Т. 4: Соавторство. — 2003. — 319 с. — Часть текста на белорусском языке.

Т. 5: Составления. — 2003. — 349 с. — Часть текста на белорусском языке.

Т. 6: Хроники. — 2004. — 317 с.

Т. 7: Депутатство. — 2004. — 315 с. — Часть текста на белорусском языке.

Т. 8: Диагностика. — 2005. — 314 с.

Т. 9: Грушнае: гісторыка-этнаграфічнае эсэ. — 2006. — 271 с. — На беларускай мове. — Частка тэксту і пераплёт на рускай мове.

Т. 10: Пролагі: гісторыка-біяграфічны раман. — 2007. — 463 с. — На беларускай мове. — Пераплёт на рускай мове.

**Викула, А.** Тайны смерти и загробной жизни в шаманских практиках / Андрей Викула. — Минск: ФУАинформ, 2011. — 351 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6868-46-0 (ошибоч.).

**Ермолович, Д. В.** История материалистической диалектики: (в конспективном изложении): методическое пособие для студентов, магистрантов и аспирантов всех специальностей и форм обучения БГУИР / Д. В. Ермолович; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники, Кафедра философии. — Минск: БГУИР, 2012. — 58 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-488-829-3.

**Маго, Г. К.** Я всегда. Я есмь. Я есть: опыт прохождения по ступеням правды для проснувшегося стремящегося / Маго Г. К. — Минск: Лазурак, 2012. — 371 с. — 270 экз. — ISBN 978-985-6260-52-0.

**Мамыкин, И. П.** Философия: материалы для самостоятельной работы: [для студентов вузов] / И. П. Мамыкин. — 6-е изд., переработанное и дополненное. — Минск: Экоперспектива, 2011. — 64 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-469-403-0.

**Ницше, Ф.** Так говорил Заратустра: книга для всех и ни для кого: [перевод с немецкого] / Фридрих Ницше. — Москва: Астрель, 2011. — 314 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-40200-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0769-3 (Харвест) (в пер.).

**Рудзитис, Р. Я.** Симфония качеств: мысли в пустыне души / Рихард Рудзитис; [перевод с латышского Л. Цесюлевича; иллюстрации Дарьи Нероновой]. — Минск: Звезды Гор, 2012. — 142 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6780-78-6 (в пер.).

**Рудзитис, Р. Я.** Сознание Красоты спасет / Рихард Рудзитис. — Минск: Звезды Гор, 2011. — 115 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6780-74-8 (в пер.).

**Философия:** учебное пособие для студентов высших учебных заведений / [В. К. Лукашевич и др.]; под редакцией В. К. Лукашевича. — Минск: БГЭУ, 2012. — 461 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-484-775-7 (в пер.).

### Псіхалогія

**Актуальные проблемы психологии общения**: сборник научных статей / Гродненский государственный университет им. Я. Купалы; [редколлегия: Л. М. Даукша (гл. ред.) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2011. — 158 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-515-487-8.

**Мэрфи, Д.** Как найти душевную гармонию и счастье / Джозеф Мэрфи; [перевод с английского Л. А. Бабук]. — Минск: Попурри, 2012. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-985-15-1381-5.

**Самусь, В. Н.** Основы военной психологии и педагогики: учебно-методическое пособие / В. Н. Самусь, Т. Н. Саевич, Н. М. Селивончик; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Военно-технический факультет. — Минск: БНТУ, 2012. — 81 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-525-821-7.

**Сильва, Х.** Метод Сильвы. Управление реальностью: [перевод с английского] / Хосе Сильва, Берт Голдман. — Минск: Попурри, 2011. — 269 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-985-15-1512-3.

### Этыка. Практычная філасофія

**Аристотель.** Этика / Аристотель; [перевод Н. В. Брагинской, Т. А. Миллер]. — Москва: Астрель, 2011. — 492 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-40147-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0788-4 (Харвест) (в пер.).

**Мудрость великих людей** / [автор-составитель Николай Владимирович Белов]. — Минск: Харвест, 2011. — 287 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9963-2 (в пер.).




## Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Зміцер Сасноўскі. Гісторыя беларускай музычнай культуры XIX — XX стст. — Мінск: Харвест, 2012.

2. Першая беларуская гаспадарча-кулінарная энцыклапедыя: Літоўская гаспадыня (Gospodyni Litewska). — Мінск: Беларусь, 2012.

*Выданне ўтрымлівае шмат надзвычай цікавых і карысных парад і рэкамендацый: як захоўваць, сушыць, саліць, марынаваць гародніну і садавіну, варыць варэнне, улічваць даходы і расходы ў гаспадарцы, як засцерагчыся ад пажару, як заставацца прывабнай… "Літоўская гаспадыня" першы раз убачыла свет у 1848 годзе, на беларускай мове — у 1858-м.*

3. Дзяніс Лісейчыкаў. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720 — 1839 гг. — Мінск: Медысонт, 2011.

4. Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы (1957 — 1972). Незавершанае. — Гародня — Wroclaw, 2012.

5. Наталья Батракова. Миг бесконечности. — Минск: Регистр, 2012.

6. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2012.

7. Минск. Старый и новый. — Минск: Харвест, 2010.

8. Алесь Бадак. Насякомыя. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.

9. Витовт Чаропко. Великие князья Великого Княжества Литовского. — Минск: Беларусь, 2012.

10. Леанід Дайнека. Назаві сына Канстанцінам. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.

## Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Пола Маклейн. Парижская жена. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.

2. Екатерина Вильмонт. Девочка с перчиками. — Москва: Астрель; АСТ, 2012.

3. Габриэль Гарсиа Маркес. Любовь во время чумы. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.

4. Пауло Коэльо. Мактуб. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.

5. Дмитрий Правдин. Записки из арабской тюрьмы. — Москва: Астрель, 2012.

6. Терри Гудкайнд. Закон девяток. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.

7. Алан Брэдли. Сорняк, обвивший сумку палача. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.

8. Полина Дашкова. Золотой песок. — Москва: Астрель: АСТ, 2011.

9. Людмила Петрушевская. Котёнок Господа Бога: Рождественские истории. — Москва: Астрель, 2012.

10. Николай Носов. Большая книга Незнайки. — Москва: Махаон, 2011.

**Сучасную брытанскую літаратуру немагчыма ўявіць без Кадзуа Ісігура, пісьменніка японскага паходжання, лаўрэата Букераўскай і шэрагу іншых прэстыжных прэмій. Ён нарадзіўся 8 лістапада 1954 г. у Нагасакі; у 1960 г. разам з бацькамі пераехаў у англійскі горад Гілфард, графства Суррэй. К. Ісігура атрымаў ступень бакалаўра ва Універсітэце Кента (спецыялізацыя — англійская літаратура) і ступень магістра ў галіне пісьменніцкага майстэрства ва Універсітэце Усходняй Англіі. Дэбютаваў у 1981 г. трыма апавяданнямі, адно з якіх — "Адчужанасць і часам смутак" (A Strange and Sometimes Sadness) — праз год было перапрацавана ў раман "Там, дзе ў смузе ўзгоркі" (A Pale View of Hills). Сапраўдны поспех Ісігура прынёс яго трэці раман "Рэштка дня" ("The Remains of the Day", 1989), за які ён атрымаў Букераўскую прэмію, самую прэстыжную літаратурную прэмію Вялікабрытаніі.**

**Раман "Не адпускай мяне" (Never Let Me Go, 2005) таксама быў намінаваны на Букераўскую прэмію, апроч гэтага ён увайшоў у спіс "Сто лепшых раманаў на англійскай мове з 1923 па 2005" паводле версіі часопіса "Time".**

**Гэты раман — апісанне жыцця 31-гадовай Кэці Н., асноўны акцэнт у ім зроблены на дзяцінстве гераіні ў незвычайнай школе Хэйлшэм, вучні якой — клоны.**

**Іх гадуюць з мэтай выкарыстання іх органаў для трансплантацыі хворым людзям.**

**Дзеянне адбываецца ў Англіі ў канцы XX стагоддзя. Як вядома, у 1996 годзе была кланаваная авечка Долі, якая памерла ў лютым 2003-га.**

**Факт яе нараджэння выклікаў рэзкую крытыку і перасцярогі, што ў хуткім часе можа быць праведзена кланаванне чалавека.**

**У пэўным сэнсе, як паказвае аўтар, вучні Хэйлшэма нічым не адрозніваюцца ад авечак: іх гадуюць у сельскай мясцовасці, у ізаляцыі ад грамадства, заахвочваючы да здаровага ладу жыцця, а потым карыстаюцца імі як бяздушнымі істотамі.**

**Закранаючы праблему этычнасці навуковага прагрэсу, аўтар акцэнтуе ўвагу на ўмоўнасці мяжы паміж чалавекам і "не-чалавекам" і разам з чытачом разважае над пытаннем: што робіць нас людзьмі, асобамі?**

**Вучні ў Хэйлшэме паводзяць сябе як звычайныя дзеці: сябруюць і крыўдзяць адно аднаго, уступаюць у бойкі, гуляюць у футбол, дзеляцца сакрэтамі.**

**Маюць яны і свае юнацкія мары пра прафесійнае жыццё — стаць прадаўцом, кіроўцам, клеркам, акцёрам. Адзінае, што іх адрозніваё ад звычайных людзей, — гэта адсутнасць будучыні, якую, па горкай іроніі, у іх адымаем мы, людзі.**

**Вікторыя МІНІНА**

# Не адпускай мяне

**Кадзуа ІСІГУРА**

## Глава сёмая

Я хачу перайсці да нашых апошніх год у Хэйлшэме, гэта перыяд, калі нам было ад трынаццаці да шаснаццаці, калі трэба было пакідаць школу. У маіх успамінах жыццё ў Хэйлшэме распадаецца на дзве розныя часткі: апошнія гады і тое, што здарылася раней. Ранейшыя гады — тыя, пра якія я толькі што распавядала, — зліваюцца адно з адным, як нейкі залаты час, і нават калі я і думаю пра іх, хоць там здараліся і не такія ўжо і цудоўныя рэчы, я не магу не адчуваць нейкую цеплыню. А вось апошнія гады ўспрымаюцца паіншаму. Не тое што яны былі нешчаслівымі — мне дарагія многія ўспаміны з тых часоў, — але яны былі больш сур'ёзнымі і ў чымсьці больш цёмнымі. Можа, я і перабольшваю, думаючы пра іх, але ж у мяне такое ўражанне, што ўсё вакол змянялася так хутка, як хутка дзень пераходзіць у ноч.

Тая размова з Томі каля сажалкі: яна здаецца мне чымсьці накшталт падзелу паміж дзвюма эрамі. Не таму, што адразу пасля гэтага пачало адбывацца нешта важнае; але ж, прынамсі, для мяне тая размова стала паваротным момантам. Я, напэўна, пачала па-іншаму глядзець на ўсё. Там, дзе раней я проста адвярнулася б ад нязручнасцей, цяпер я, наадварот, пачала задаваць пытанні, нават калі і не ўголас, дык самой сабе.

Менавіта тая размова прымусіла мяне глядзець на Міс Люсі ў новым святле. Я уважліва назірала за ёю, калі толькі мела магчымасць, не з-за цікавасці, а таму, што цяпер я ўспрымала яе як крыніцу важных разгадак. І адбывалася так, што калі ў наступныя год ці два я пачала заўважаць розныя дзіўныя нязначныя рэчы, якія яна казала альбо рабіла, то мае сябры не звярталі на іх аніякае ўвагі.

Так здарылася, напрыклад, аднойчы, праз некалькі дзён пасля размовы ля сажалкі, калі Міс Люсі павяла нас на ўрок англійскай мовы. Мы аналізавалі паэтычны твор, але нейкім чынам размова зайшла пра салдат, якія ў Другую сусветную вайну трапілі ў канцлагеры. Адзін з хлопцаў пацікавіўся, ці былў падключаны да электрычнасці дрот вакол лагераў, і тады нехта сказаў, што, мабыць, было дзіўна жыць у такім месцы, дзе можна было ў любы час здзейсніць самагубства простым дотыкам да дроту. Пытанне задавалася сур'ёзна, але нам яно падалося смешным. Мы усе смяяліся і гаварылі разам, а потым Лора — у звычайнай для яе манеры — залезла на сваё крэсла і істэрычна паказала, як нехта дацягваецца і гіне ад электрычнага разраду. На нейкі момант запанаваў вэрхал, усе крычалі і імітавалі дотык да дроту пад электрычным напружаннем.

Увесь гэты час я назірала за Міс Люсі і пабачыла, як на кароткі момант яе твар набыў нейкі незразумелы выраз, калі яна глядзела на клас перад ёй. Потым — я працягвала сачыць за ёю — яна авалодала сабой, усміхнулася і сказала: "Вакол Хэйлшэма агароджы не падключаны да электрычнасці. Часам здараюцца жахлівыя выпадкі."

Яна прамовіла гэта даволі ціха, і ад таго, што людзі яшчэ крычалі, яе словы амаль патанулі. Але я пачула яе досыць ясна: "Часам здараюцца жахлівыя выпадкі". Якія выпадкі? Дзе? Але ніхто не запытаўся ў яе, і мы працягвалі абмяркоўваць верш.

Здараліся і іншыя нязначныя выпадкі, і хутка я пачала разумець, што Міс Люсі была не падобная да іншых выхавальнікаў. Магчыма нават, што менавіта тады я пачала разумець сутнасць яе заклапочанасці і расчаравання. Але можа, я перабольшваю; магчыма, у той час я заўважала гэтыя рэчы, зусім не ведаючы, як іх разумець. І калі цяпер гэтыя выпадкі падаюцца такімі значнымі і складаюцца ў нешта адзінае, мусіць, таму, што я гляджу на іх у святле больш позніх падзей — асабліва таго, што здарылася каля павільёна, дзе мы хаваліся ад моцнага дажджу.

* * *

Тады нам ужо было па пятнаццаць, і гэта быў наш апошні год у Хэйлшэме. Мы сядзелі ў павільёне і рыхтаваліся да гульні ў лапту. Хлопчыкі рабілі выгляд, што ім падабаецца гуляць у лапту, каб пафліртаваць з намі. Нас было каля трыццаці. Дождж пачаўся, калі мы пераапраналіся, і мы апынуліся на верандзе, якая размяшчалася пад дахам павільёна, і чакалі, калі ён скончыцца. Але дождж працягваўся, і калі прыйшоў апошні з нас, на верандзе стала даволі цесна, тым больш, што ніхто не стаяў на месцы. Памятаю, Лора паказвала мне, як трэба сморкацца, каб адвадзіць ад сябе хлопца.

З выхавальнікаў толькі Міс Люсі была з намі. Яна нахілілася цераз парэнчы ў пярэдняй частцы веранды, угледаючыся ў дождж, нібыта хацела пабачыць нешта на іншым баку спартыўнай пляцоўкі. Як заўсёды ў тыя дні, я ўважліва сачыла за ёй, і нават калі смяялася з Лоры, ўпотай пазірала на спіну Міс Люсі. Памятаю, мне падалася дзіўнай яе пастава, — нізка нахіленая галава надавала ёй падабенства з жывёлінай, якая збіраецца кінуцца на кагосьці. І тое, як яна нахілялася цераз парэнчы, так, што каплі дажджу з жолаба падалі амаль на яе — але Міс Люсі, здаецца, гэта зусім не турбавала. Памятаю, як я пераканала сябе, што ва ўсім гэтым не было нічога незвычайнага, што яна проста чакала, калі скончыцца дождж — і зноў звярнула ўвагу на тое, што казала Лора. Потым, праз некалькі хвілін, калі я ўжо забылася на Міс Люсі і рагатала з чагосьці, я нечакана зразумела, што вакол нас стала ціха і што Міс Люсі нешта гаварыла.

Яна стаяла на тым жа месцы. Але павярнулася да нас, спіною да парэнчаў, а за ёй было хмарнае неба.

"Не, не, прабачце, але я вымушана перапыніць вашу размову", — казала яна, і я ўбачыла, што яна размаўляе з двума хлопцамі, якія сядзелі на лавах якраз насупраць яе. Голас выхавальніцы быў не тое што дзіўны, але яна размаўляла вельмі гучна, голасам, якім звычайна яна рабіла нейкую аб'яву, і таму мы ўсе замоўклі. "Не, Пітэр, я вымушана спыніць цябе. Я не магу больш слухаць тое, што ты кажаш, і маўчаць". Потым яна ўзняла вочы, акінула позіркам усіх нас і глыбока ўздыхнула: "Ну добра, слухайце, гэта датычыць усіх вас. Ужо трэба некаму сказаць гэта".

Мы чакалі, а яна працягвала глядзець на нас. Пазней некаторыя казалі, што ім падалося, нібыта яна збіралася даць нам вялікі наганяй, іншыя лічылі, што Міс Люсі аб'явіць новыя правілы гульні ў лапту. Але да таго, як яна сказала нешта яшчэ, я ўжо ведала, што гэта будзе штосьці іншае.

"Хлопчыкі, прабачце, што я слухала вашу размову. Але ж вы былі якраз ззаду, таму я не магла не пачуць. Пітэр, чаму б табе не сказаць іншым тое, што ты толькі што казаў Гордану?"

Пітэр Дж. выглядаў разгубленым, і я бачыла, што ён збіраецца зрабіць пакрыўджаную і невінаватую міну. Але Міс Люсі загаварыла зноў, на гэты раз больш мякка.

"Пітэр, працягвай. Калі ласка, скажы іншым тое, што ты толькі што казаў."



*Фота з інтэрнэт-сайта www.timeout.ru*

Пітэр пацісн уў плячыма: "Мы проста размаўлялі, што будзе, калі мы станем акцёрамі. Якім будзе жыццё".

"Так," — сказала Міс Люсі, — і ты казаў Гордану, што табе давядзецца паехаць у Амерыку, каб мець лепшы шанц".

Пітэр Дж. зноў пацісн уў плячыма і прамармытаў ціха: "Так, Міс Люсі".

Але гэтым разам Міс Люсі абвяла вачыма ўсіх нас. "Ведаю, што вы не маеце на ўвазе нічога дрэннага. Але ж у вас зашмат такіх размоў. Я ўвесь час гэта чую, вам гэта дазваляецца, а гэта няправільна". Мне было відно, як некалькі кропель з жолаба ўпалі ёй на плячо, але, здаецца, Міс Люсі гэтага не заўважыла. "Калі ніхто гэтага вам не збіраецца казаць, — працягвала яна, — тады я скажу. Праблема, як я бачу, у тым, што вам і казалі, і не казалі. Вам казалі, але ніхто з вас па-сапраўднаму не зразумеў, і, насмелюся сказаць, нехта нават быў бы рады, каб усё так і заставалася. Толькі не я. Калі вы хочаце жыць дастойна, вы павінны ведаць, і ведаць добра. Ніхто з вас не паедзе ў Амерыку, ніхто з вас не будзе кіназоркай. І ніхто з вас не будзе працаваць у супермаркеце, што, як я чула не так даўно, плануюць некаторыя. Вашы жыцці ўжо спланаваныя. Вы вырасцеце, потым, да таго як пастарэеце, да таго як дасягнеце сярэдняга ўзросту, вы пачнеце ахвяраваць вашы жыццёва важныя органы. Вось для чаго быў створаны кожны з вас. Вы не такія, як тыя акцёры, якіх бачыце на відэа, вы нават не такія, як я. Вас стварылі з дакладнай мэтай, і ваша будучыня, будучыня ўсіх вас, была вырашана. Таму не трэба больш весці такія размовы. Хутка вы пакінеце Хэйлшэм, і ужо недалёка той дзень, калі вы пачнеце рыхтавацца да першых ахвяр. Вам трэба памятаць пра гэта. Калі хочаце прыстойнага жыцця, вы павінны ведаць, хто вы такія і што чакае вас, кожнага з вас".

Потым яна замаўчала, але ў мяне было ўражанне, што выхавальніца працягвала прагаворваць нешта ў сваёй галаве, таму што час ад часу яе позірк блукаў па нашых тварах, нібыта яна ўсё яшчэ звярталася да нас. Мы адчулі палёгку, калі яна адвярнулася, каб зноў агледзець пляцоўку для гульняў.

"Не так ужо і дрэнна цяпер, — вымавіла міс Люсі, хоць дождж па-ранейшаму быў моцны. — Давайце пойдзем. Можа, і сонца таксама выгляне".

Здаецца, гэта было ўсё, што яна сказала. Калі ж я абмяркоўвала гэта з Рут некалькі год таму ў цэнтры ў Дуўры, тая сцвярджала, што Міс Люсі сказала нашмат больш: патлумачыла, што перад тым, як стаць донарамі, мы ўсе нейкі час будзем працаваць сядзелкамі, расказала пра тое, як звычайна адбываецца донарства, пра рэабілітацыйныя цэнтры і гэтак далей — але ж я ўпэўнена, што яна гэтага не казала. Ну, можа, яна і збіралася, калі пачала гаварыць. Але думаю, што калі яна пабачыла перад сабою нашыя ўстрывожаныя твары, то адчула: немагчыма скончыць тое, што пачала.

Цяжка дакладна сказаць, якое ўздзеянне меў гэты выбух Міс Люсі ў павільёне. Вестка разышлася даволі хутка, але ў асноўным размовы круціліся хутчэй вакол самой Міс Люсі, чым вакол таго, што яна намагалася сказаць нам. Некаторыя вучні лічылі, што ў нейкі момант яна паводзіла сябе недарэчна; іншыя — што гэта Міс Эмілі і іншыя выхавальнікі папрасілі яе сказаць тое, што яна сказала; нават сярод прысутных там былі тыя, хто лічыў, што нібыта такім чынам Міс Люсі проста рабіла нам вымову за тое, што мы шумна паводзілі сябе на верандзе. Але, як я ўжо казала, было на дзіва мала гутарак пра тое, што яна сказала. Нават калі размова і заходзіла пра гэта, то звычайна казалі: "Ну і што? Мы ўжо ўсе гэта ведалі".

Але ж якраз гэта і было галоўным для Міс Люсі. Як сказала яна, нам "і казалі, і не казалі". Некалькі год таму, калі мы з Томі зноў загаварылі пра гэта, і я нагадала яму словы "і казалі, і не казалі", ён прапанаваў тэорыю.

Томі меркаваў, што, магчыма, усе выхавальнікі Хэйлшэма вельмі старанна і мэтанакіравана планавалі ўсе, што мусяць сказаць нам, так каб мы былі занадта малымі, каб належным чынам разумець сутнасць. Канечне, калісьці яно дойдзе да нас на нейкім узроўні, але да таго часу ўсё ўжо будзе сядзець у нашых галовах без належнага ўсведамлення.

Мне гэта надта нагадвае тэорыю змовы — я не лічу, што нашы выхавальнікі былі такімі вынаходлівымі — але ж, магчыма, у гэтым нешта ёсць. Канечне, здаецца, я заўседы цьмяна ведала пра ахвяраванне, нават калі мне было шэсць ці сем год. І дзіўна, што калі мы падраслі і выхавальнікі вялі з намі такія размовы, гэта ўжо не падавалася нам поўнай нечаканасцю. Здавалася, што ўсе мы дзесьці гэта ўжо чулі.

**Пераклад з англійскай Вольгі Судлянковай**

*Мастак і кніга*

# Мастацтва каліграфіі патрабуе засяроджанасці

**Гэта вельмі падобна да рытуальнага танца: рука мастака рухаецца настолькі хутка, што ледзь паспяваеш сачыць, як пэндзаль кранаецца паперы і гэтыя дотыкі пакідаюць лініі і кропкі, запаўняюць ліст узорам. І раптам адбываецца цуд: гледачы пазнаюць літары і складаюць з іх знаёмыя словы. Падаецца, мастацтва каліграфіі — вельмі лёгкая справа. Насамрэч, як кажа Генадзь Мацур, яго можна параўнаць з балетам: застаецца толькі здагадвацца, колькі гадзін напружаных практыкаванняў даюць у выніку незямную лёгкасць зладжаных рухаў артыста.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



Г. Мацур "Лацінка. Кірыліца".

Перш за ўсё пры словах “мастацтва каліграфіі” мы ўяўляем Японію ды Кітай і з кінафільмаў ведаем: майстэрству вучацца гадамі і ўдасканальваюць яго пастаянна, дзеля выканання шэдэўраў патрэбны асаблівы настрой. Старажытнаславянскія кнігі — таксама сведчанне гэтага мастацтва. “На Усходзе гэтым займаюцца шмат тысячагоддзяў. Але і наша пісьмовая сістэма ведае выдатныя ўзоры каліграфіі, — сціплы ўсмешлівы Генадзь чымсьці нагадвае старажытных летапісцаў-манахаў, што старанна выводзілі адмысловыя літары, упрыгожваючы свяшчэнныя тэксты, — а дакладней фармулёўкі мастацтва каліграфіі, відаць, не існуе”.

З дзяцінства яму падабаліся літары, шрыфты кніг. “Хараство, унутраная прыгажосць былі вельмі даспадобы”. Шрыфтамі пачаў займацца ў вучылішчы. Набываў літаратуру на гэту тэму. “Школы ў нас фармальнай няма, гэтаму не вучаць, але ў мастацкім вучылішчы быў прадмет “Шрыфты”, які мне вельмі падабаўся. Так былі закладзены асновы. Потым больш дасканала займаўся імі ў інстытуце пад кіраўніцтвам заснавальніка сучаснай плыні каліграфіі ў Беларусі Паўла Семчанкі. (У інстытут можна было паступіць адразу без абавязковай двухгадовай адпрацоўкі, калі давалі накіраванне. Яго давалі тым, хто добра вучыўся. Я такое накіраванне атрымаў.)



Г. Мацур “Дзяды”.

У вучылішчы заняткі — чатыры гадзіны малюнка, чатыры жывапісу, літаратура (праграма агульнай адукацыі) і г.д. — з ранку і амаль да вечара. Сёння ўжо такога б не вытрымаў”.

На пытанне, ці клапоціцца спецыяльна пра падтрымку фізічнай формы, Генадзь адказвае: “Паверце, гэта ўжо і ёсць трэніроўка — праца над кожнай літарай. А вось асаблівы стан душы неабходны. Не даю інтэрв'ю ў той дзень, калі збіраюся працаваць, не прызначаю іншых мерапрыемстваў. Нельга на хаду зрабіць што-небудзь, а пасля ляцець па справах. Мастацтва каліграфіі патрабуе засяроджанасці”.

Пра студэнцкія гады ўспамінае: “Каліграфіяй займацца складана. Тут нельга падмануць выкладчыка. З жывапісам можна — растушаваў (крыху напусціў туману) ці яшчэ штось, а тут бачна, дзе не туды павяла рука. Рухі даводзяцца да аўтаматызму. Не ведаючы асноў, такое зрабіць немагчыма. Калі ты задумваешся, у цябе ўжо нічога не атрымліваецца. Гэта як з хадой: не думаеш, як трэба ўзняць нагу, сагнуць яе, куды паставіць — проста ідзеш, дзесьці можаш пабегчы, дзесьці запаволіць крокі. А пачнеш разважаць, як ты робіш кожны крок, — ісці не зможаш. Калі ідзе перыяд вучнёўства, тады яшчэ можаш падумаць, а падчас працы ідзе імправізацыя, ты танчыш. Задумаць можна нейкую кампазіцыю, вобраз, але трэнінгам ужо закладзены алгарытм гэтага руху. І ты не можаш зрабіць горш, чым умееш”.

Генадзь прыгадвае выстаўку эстонскай школы каліграфіі ў Вільні, на якую патрапіў у студэнцкія гады: “У нас нічога падобнага не праводзілася”. Экспазіцыя сведчыла: сімвалы дастойна выконвалі ролю самастойных мастацкіх твораў. “Вазьміце кнігі без малюнкаў. Скажаце: “Паглядзіце, якая прыгожая кніжка!” А што ў ёй прыгожага, здавалася б? А менавіта шрыфт, набор, вытрыманыя прапорцыі, зададзеныя палі — кампазіцыя, архітэктоніка пабудовы кнігі.

Кожная літара валодае пэўным кодам. Там столькі закладзена — інфармацыі, энергіі. Мы не задумваемся, чым валодаем. Насамрэч толькі калі ў працэсе эвалюцыі чалавек навучыўся пісаць, ён стаў чалавекам.

Вытокі каліграфіі — імкненне не проста перадаць інфармацыю, а зрабіць усё прыгожа. Наша пісьмо праходзіла таксама стадыі станаўлення — ад манументальнага ўстаўнога да скорапісу. Параўноўваючы розныя па часе стварэння рукапісныя помнікі, можна прасачыць, як паступова з'яўляецца хуткасць — паўустаў. Больш руху, больш энергетыкі, праяўляюцца індывідуальныя рысы мастака-перапісчыка. Мастацтва каліграфіі ў нас спынілася — засталося на тым узроўні. Усходу больш пашанцавала. Таму поруч з традыцыйнай існуюць розныя школы. Пастаянна праходзяць выстаўкі — іншым часам абсалютна мадэрновыя, відавочны ўнёсак еўрапейскай культуры. Але прасочваецца свой шлях. Наша проста рэфармаванае Пятром І пісьмо не стала лацінкай, але і не засталося сапраўднай кірыліцай. Калі б кірыліца развівалася паступова (эвалюцыйна), яна б сёння была іншай. Таму што рэфармаванае напісанне стваралі ўсё ж такі носьбіты заходняй лацінскай культуры.

Як можна ацаніць каліграфічны твор? Генадзь Мацур упэўнены: “З космасу кожны адбірае сваю кропачку. І калі гэта дасканала, то падабаецца ўсім астатнім”.

Яшчэ студэнтам пачаў браць заказы ў выдавецтвах. Першая аздобленая ім кніжка выйшла ў “Навуцы і тэхніцы”. “Я яе дасюль захоўваю. Тэма — словаўтварэнне, словазлучэнне. Чыста шрыфтавая вокладка. Як доўга я яе рабіў! Простая вокладка. Прафесіянал хуценька зрабіў бы і забыўся, а мне ўсё хацелася нешта яшчэ ўдасканаліць. Паставіўся вельмі ўважліва.

Потым супрацоўнічаў з выдавецтвам “Беларусь”, займаўся плакатам. Рабіў у асноўным шрыфтавыя плакаты: напрыклад, з выявай Свята-Духавай царквы, што ў Верхнім горадзе ў Мінску і адным словам “Адновім”. Сабор быў адноўлены. Ці ўгадаў я дэталі рэстаўрацыі, трэба спытаць у прафесіяналаў”.

Да камп'ютара ставіцца станоўча: “Камп'ютар — насамрэч інструмент. Усё роўна камп'ютарныя шрыфты зроблены на аснове рукатворнага. І ў тым, як ты іх скампануеш, прачытваецца светапогляд.

Па аўтографе чалавека можна зразумець, хто ён такі. Чалавек пакідае росчырк, ствараецца вобраз, можа быць, зусім не такі, якім ён сябе ўяўляе. Не ведаю законаў графалогіі, разважаю на эмацыянальным узроўні, але ўпэўнены: жанчына, калі мяняе прозвішча ў шлюбе, мяняе лёс. Некалі чалавек, які ішоў у манахі, павінен быў атрымаць новае імя. Мяняеш імя — і становішся іншым чалавекам. Не ведаю, наколькі, але іншым”.

Мы размаўлялі напярэдадні адкрыцця выстаўкі Генадзя Мацура. Учора ў Брэсце жыхары і госці горада-героя ўжо змаглі ацаніць яго лаканічныя творы, насычаныя шматграннымі сэнсавымі пластамі.

**Візітка:**

*Дызайнер кнігі, каліграф Генадзь Мацур нарадзіўся ў 1960 годзе ў Чашніках Віцебскай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава ў 1979-м, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут у 1984-м. Лаўрэат беларускіх і міжнародных конкурсаў мастацтва кнігі.*

*У мастацкіх выстаўках удзельнічае з 1980 года. Адзін з арганізатараў творчай суполкі і выставачнага праекта “Літарт”. Удзельнік праекта “Міжнародная выстаўка каліграфіі” (www.calligraphy.mvk.ru) у Санкт-Пецярбургу, Маскве, Вялікім Ноўгарадзе. Запрошаны сябра Расійскага нацыянальнага саюза каліграфаў.*

*Пад вокладкай*

Юзэфа ВОЎК




**Лукша, В. А. Дзень-залацень / Валянцін Лукша; маст. Святлана Рыжыкава. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 128 с.**

Хто не ведае твораў Валянціна Лукшы, да прыкладу, яго знакамітую кнігу “Як ліса вучылася лётаць”? Думаю, толькі адзінкі. І вось — новая кніга слыннага майстра слова, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Казкі і вершы для дзяцей малодшага школьнага ўзросту, як і прынята ў літаратуры такога кшталту, вучаць маленькіх чытачоў дабрыні, павазе да старэйшых, любові да Бацькаўшчыны. Больш за тое, лірычны герой паэта вызначаецца пільнай назіральнасцю і тонкім гумарам, а самі творы напісаны прыгожай сакавітай мовай.




**Іоў, А. В. Старажытнае паселішча на Ясельдзе / А. В. Іоў, В. С. Вяргей. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 175 с.**

На Прыпяцкім Палессі — сотні археалагічных помнікаў розных эпох. Гэта шматлікія стаянкі, паселішчы, магільнікі, па іх можна вывучаць гісторыю насельніцтва рэгіёна ад палеаліту да позняга Сярэдневечча. Дадзеная манаграфія прысвечана гістарычнай інтэрпрэтацыі археалагічных матэрыялаў, атрыманых падчас шматгадовых раскопак паселішча ў в. Гарадзішча Пінскага раёна. Кніга істотна дапаўняе крыніцазнаўчую базу для вывучэння гісторыі Беларусі. Так, у рабоце прасочаны этапы яго засялення ад эпохі палеаліту да Новага часу. Адметна, што найбольшага росквіту паселішча дасягнула ў IX — пачатку XI ст., калі яно становіцца значным гандлёвым і рамесніцкім цэнтрам на Палессі.



**Салук, Н. В. Николай Мочанский: “Взлёт разрешаю!” / Наталья Салук. — Минск: Пачатковая школа, 2012. — 344 с.**

“Людзі, чыя прафесія звязана з небам, па праву ганарацца сваім пакліканнем. У ліку адданых авіяцыі энтузіястаў — лётчык Мікалай Мачанскі”, — піша ў прадмове да кнігі Андрэй Кабякоў, надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. Менавіта Мікалаю Мачанскаму, яго жыццю і дзейнасці прысвечана гэтая дакументальная аповесць. Кніга дае магчымасць акунуцца ў яркі і насычаны падзеямі і сустрэчамі свет героя, знаёміць з адметнымі асобамі, разам з якімі яму давялося жыць і працаваць.




**Ремарк, Э. М. Триумфальная арка / Эрих Мария Ремарк. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 526 с.**

Яго называюць самым прыгожым, геніяльным і самым сумным еўрапейскім раманам XX стагоддзя, будуюць розныя тэорыі наконт прататыпаў герояў (дарэчы, паводле адной з версій знакамітая актрыса і спявачка Марлен Дзітрых стала правобразам галоўнай гераіні). Але яго лепш проста чытаць. “Трыумфальная арка” — раман пра адзіноту, страсць, нянавісць, страх і безнадзейнасць, трагедыю, вайну і смерць… Як і ўсе аўтары “страчанага пакалення”, Рэмарк не шкадуе чытача. Але ў гэтым і вартасць твора.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**



Ірына Масляніцына

# Дзьмухаўцовы рай

## *Апавяданне*

Тое, што чарапаха ўжо нежывая, было зразумела з першага погляду: абвіслыя лапы, пацямнелая скура, але самае галоўнае — вочы. Яшчэ ўчора яны пуката вытыркаліся з-пад павек жывёліны, а сёння раптам запалі, уваліліся некуды ў глыбіню чэрапа, пакінуўшы на сваім месцы толькі чорныя ўпадзіны, абцягнутыя танюткай плёнкай. Гэтая надта непрывабная маска чарапашынай смерці не давала ніякіх спадзяванняў. Але Іван усё роўна працягваў трэсці няшчасную істоту і, шэптам лаючыся, каб не пабудзіць Волечку, ліхаманкава думаць, што яшчэ б можна было зрабіць дзеля рэанімацыі. Іван ужо спрабаваў цёплую ваду з фурацалінам у тазіку — аднойчы, калі чарапаха прастудзілася, гэта дапамагло.

Тое, што смерць Марты (гэтае імя чарапасе дала сама Волечка) можна неяк утаіць ад дзіцяці, падмяніўшы няшчасную іншай паўзунняй, яшчэ абнадзейвала Івана. Трэба толькі дзейнічаць хутка і без залішніх эмоцый. Калі ўдасца звесці Волечку ў садок гэтак, каб яна не пабачыла сваю жывёліну, усё можа атрымацца. Ён заедзе на працу, напіша заяву пра адзін дзень за свой кошт па сямейных (і сапраўды, атрымоўваецца, па сямейных) справах. Пасля — хуценька на Ждановіцкі рынак. Летам там было так шмат гэтых чарапах. І ў тунэльных пераходах гандляры стаялі, трымалі ў руках, і на прылаўках паміж акварыумаў з залатымі рыбкамі іх пускалі поўзаць. А адна сямейная пара нават выносіла вялікія драўляныя скрынкі, якія ставіліся проста на зямлю. У гэтых скрынках вяла варушыліся на санцапёку некалькі дзясяткаў чарапашак усіх магчымых адценняў — ад светлажоўтага і аліўкавага да шаравата-бурага. Іх было так шмат, што здавалася, палова абавязкова станецца перадушанымі ў канцы дня. Волечка, калі даводзілася ездзіць з бацькам на рынак па прадукты, заўжды шкадавала чарапашак. Яна ўжо ведала збольшага, як належыць правільна ўтрымліваць чарапаху, каб не мучыць яе.

Марта жыла ў прасторным тэрарыуме. З абагрэвам, падсветкай, мяккімі стружачкамі. Чарапаха закопвалася ў гэтыя стружачкі з галавой штовечар, каб раніцай, яшчэ да таго часу, як прачнуцца Іван з Волечкай, лянотна падставіць панцыр пад першыя сонечныя праменьчыкі. Праменьчыкі гэтыя паўзуння адчувала даволі добра, бо яе шкляное з усіх бакоў жытло стаяла ля самага акна. І ніколі не здаралася гэтак, каб Волечка ішла ў садок, не павітаўшыся з Мартай і не пагладзіўшы яе па шурпатым балотнага колеру панцыры. Чарапаха хутка зручнела і нават ужо не зацягвала галавы і лапак. Спакойна рэагавала на дотык, ахвотна прымала з дзіцячых рук кавалачак яблыка ці капусны лісточак і раз-пораз задаволена пазяхала, адкрываючы пяшчотна-ружовае нёба і язык.

Каб падмануць Волечку і не даць ёй падысці гэтым ранкам да тэрарыума, Іван зрабіў выгляд, нібыта ў яго не спрацаваў будзільнік. Гэта было лёгка, бо ролю будзільніка ў доме выконваў мабільны тэлефон. А ў мабільнікаў, як усім вядома, сярод ночы і сапраўды можа сесці батарэйка.

Дабіцца ад начальніка дазволу на вольны дзень аказалася не так ужо і лёгка. Іван час ад часу звяртаўся з падобнымі просьбамі, і хаця ўсе разумелі, што мужыку, які выхоўвае дзіця без жонкі, і сапраўды трэба, асаблівага энтузіязму пры падпісанні Іванавых заяў кіраўніцтва не праяўляла. Сёння ж і наогул Пятровіч выцягнуў вусны ў вузкую незадаволеную грымасу.

— Слухай, Буцько, во дзе ўжо ў мяне твае “па сямейных справах” сядзяць, — начальнік красамоўна правёў рубам далоні па шыі. — Якая там у цябе сям’я? Чатыры гады халасцякуеш пасля разводу. З дзіцем не спраўляешся ці што там? Ну, дык трэба было думаць, калі адсуджваў малую ў роднай маці.

— Я не адсуджваў, Пятровіч. Яна сама ад дзіцяці адмовілася, вы ж ведаеце, — адказаў Іван.

— Ведаем, але колькі ж можна злоўжываць спагадлівасцю калег? Ты гуляеш “па сямейных”, праца твайго аддзела стаіць, у канцы кожнага квартала — аўрал, дакументацыя з памылкамі і выпраўленнямі, пасля — усялякія камісіі на нашую галаву. Не, як ты там хочаш, а больш трымаць мы цябе не станем. Дачцэ тваёй ужо пяць гадоў споўнілася, па законе маем права звальняць. Ва ўсялякім выпадку, кантракт з табой на наступны год, і не спадзявайся, не падоўжым. Шукай новую працу — у цябе яшчэ тры месяцы наперадзе. А лепш, мая табе парада, — шукай новую жонку!

— Добра, — суха вымавіў Іван, — але сёння ўсё ж такі падпішыце заяву.

Ён проста не мог цяпер думаць ні пра што іншае, акрамя пакупкі гэтай самай клятай чарапахі.

Дзень, які пачаўся гэтак дрэнна, працягваўся таксама не лепшым чынам. На рынку Івану не сустрэўся ніводны “чарапашыст”.

— А што ты хочаш, дзядзька? — адказаў яму вясёлы юнак з папугаямі. — Канец лістапада, чарапахі, якія яшчэ не прададзеныя, спяць!

І чаму ён не падумаў пра гэта! Марта ж таксама засынала ў мінулым годзе. Спала, праўда, нестабільна. Час ад часу выбіралася з-пад стружкі і соннымі вочкамі зазірала гаспадарам у твар — прасіла есці. Во, мядзведзіца-шатуння, — думаў Іван, наразаючы для жывёліны танюткімі кружочкамі магазінныя моркву і агуркі. Калі чарапаха стала цяжкай і маларухомай ў гэтым годзе, бацька з дачкой вырашылі, што яна зноў рыхтуецца да спячкі. А яна, аказваецца, памірала.

— Можа, па заамагазінах паездзі, — прапанаваў тым часам спагадлівы ўладальнік папугаяў. — Здаецца, на Кунцаўшчыне сядзела за шклом нейкая тарціла.

Іван пабываў і на Кунцаўшчыне, і ў “Глоба” на Уманскай. Рвануў да метро і пад’ехаў ў магазін каля парка Чалюскінцаў. Там няшчаснага шукальніка чарапах пашкадавалі, выдаўшы спіс усіх мінскіх кропак, дзе прадаюцца жывёлы. І пасля, засеўшы на паштамце, Іван з адчаем абзваньваў сталічныя заамагазіны. Чарапахі аказаліся толькі ў двух з іх. Ды і то гэта былі не сухапутныя “азіяткі”, як Марта, а водныя краснавухія. Апошнім спадзяваннем заставаліся прыватныя аб’явы. На дзве тоўстыя газеты пра чарапаху знайшлося адно паведамленне. Гаспадыня, па голасе падобна, бабуля, назвала адрас у Сцяпянцы. Зрэшты, ехаць у такую далячынь Івану і не спатрэбілася. Бабуля раптам паведаміла, што аддае чарапашку танна, бо ўжо надта яна малая, панцыр — два з паловай сантыметры ў дыяметры. Пяцігадовая Марта мела сем сантыметраў ад краю да краю панцыра…

Набліжаўся абедзенны час, настрой быў горш не прыдумаць. Іван пасунуўся ў “Макдональдс”. Фірменны бутэрброд “Біг-Мак” падаўся да немагчымасці брыдкім. Мо таму, што ўвесь дзень перад вачыма стаяла счарнелая нерухомая чарапаха. Адсунуўшы ежу ўбок, Іван прыцягнуў да сябе кубачак з чаем і — задумаўся. Ён сапраўды не ведаў, што цяпер рабіць. Яму патрэбна была дапамога ці хаця б парада. Але чалавека, да якога ён, забыўшы пра ўзрост і мужчынскі статус, бег па добрыя словы і суцяшэнне, ужо не было побач. Маці Івана, Вольга Канстанцінаўна, памерла амаль два гады таму. Яна цяжка перажывала сынавы развод. І не столькі само растанне яго з жонкай, колькі ўсю тую брыдоту, якой давялося наслухацца падчас судовых разборак. Больш за ўсё крыўдных слоў з вуснаў нявесткі Таццяны гучала менавіта ў адрас свякрухі. А то ж! Хто без папярэдняга паведамлення прыехаў з вёскі ў Мінск? Хто, нават не націснуўшы на званок, уласным ключом (Іван сам даў маці трэці экземпляр ад кватэры) адчыніў дзверы? І навошта старой было адразу ж ашалела бегчы ў спальню? Можа, яна ведала загадзя, што знойдзе нявестку з каханкам?

Як бы там ні было, але маці, безумоўна, не стала замоўчваць Таццянінай віны. І гучная сцэна паміж сынам і нявесткай скончылася не менш гучным шлюбаразводным працэсам. Гадавалае дзіця маці літаральна “ўкінула” ў рукі Вользе Канстанцінаўне. Прылюдна заявіла, што не зможа любіць дзяўчынку, названую ў гонар свякрухі. Аднак пры гэтым усім Таццяна цвяроза разважыла, што мае права (і абавязкова скарыстаецца ім) на падзел усёй сумесна нажытай маёмасці. Каб захаваць сыну і ўнучцы іх сталічную двухпакаёўку, Вольга Канстанцінаўна прадала свой ладны домік у вёсцы і разлічылася з былой нявесткай.

Каб жа толькі гарадскія ведалі, якая сапраўды гэта пакута для чалавека, што звыкся за доўгія гады з вясковым самадастатковым гаспадарскім руплівым жыццём, пазбавіцца раптам стуку касога летняга дажджу ў драўляныя аканіцы! І спелых залацістых яблыкаў, якія падаюць у тваім садзе з дрэва проста пад ногі! І добрага позірку вачэй такой любімай, выгадаванай з новانароджанай цёлачкі, Буронкі! Маці ў горадзе засумавала, злягла ды так і не ўстала… Цяпер пра яе нагадвае толькі вялікі фотаздымак на сцяне ў просценькай рамачцы. Белай, як святочныя маміны хустачкі…

Вольга Канстанцінаўна ледзь здолела дагадаваць Волечку да садочка. Дзіця, якое ведала ўласную маці толькі па рэдкіх кароткачасовых тэлефонных званках, было ўражана і траўміравана пахаваннем бабулі і горкімі бацькавымі слязьмі. Але Іван зразумеў гэта толькі тады, калі аднойчы яго выклікала з працы Волеччына выхавальніца. Карціна, якую ён пабачыў, скаланула яго. Дачка сядзела пасярод спальні на табурэце зусім голенькая і дрыжэла ці то ад холаду, ці то ад страху. Выхавальніца знаходзілася ў “гульнёвым” пакоі, з іншымі дзецьмі.

— Трэба папярэджваць, што ў вашага дзіцёнка нетрыманне мачы, — неласкава звярнулася яна да Івана. — Яна сапсавала нам увесь спальны камплект. І пераапрануць яе таксама няма ўва што, вы ж нічога не прынеслі дзеля гэтага. Наогул, дзеткам з энурэзам трэба купляць памперсы!

Іван не стаў даслухоўваць. Захутаўшы, нягледзячы на гучныя пратэсты выхавальніцы, Волечку ў першую ж коўдру, якая патрапіла яму пад рукі, бацька панёс яе, сцішэлую, запалоханую, дамоў. Нібыта параненае птушанё, маленькае і бязважкае, Волечка нават не была здольная як след абняць Івана. І ад гэтага ў сэрцы яго ўздымаўся, клакатаў пратэст супраць тых, хто змучыў гэтак яго дзіця.

Але што ён мог? Змяніць дзіцячы садок аказалася праблематычна — месцаў, сказалі, у іх раёне нідзе больш няма. Паскардзіцца як след на выхавальніцу жанчыны з Іванавай працы не раілі. Яе не прагоняць з садка, бо хто ж на такую мізэрную зарплату пойдзе? А вось яна можа потым дзіця затэрарызаваць. Іван узяў адпачынак за свой кошт і павёў Волечку па ўрачах.

Нечаканую хваробу перамагалі цяжка. І сапраўды давялося пэўны час з памперсамі ў садок хадзіць і насмешкі іншых дзяцей трываць. Дапамог урэшце псіхолаг: “Купіце дзяўчынцы нейкую жывёлку. Ёй не хапае сяброўвачкі ці сябрука. Такога, каб не смяяўся з яе бяды і гатовы быў заўжды пагуляцца”. Іван скептычна паставіўся да парады. Аднак хутка пасля таго, як ў іх кватэры з’явілася Марта, Волечка пайшла на папраўку. Выпадкаў энурэзу амаль ужо не было. Дзіця стала вясёлым, гаваркім. Іван радаваўся.

Што ж цяпер? Што ён скажа малой? І чым можна заглушыць, сцішыць дзіцячае гора? У галаве па-здрадніцку ўсплыў тэлефонны нумар, які ён колькі разоў ужо кляўся забыць. Набіраючы яго на сваім старэнькім мабільніку, Іван амаль ненавідзеў сябе.

Таццяна адказала яму не адразу, нібыта раздумвала, ці варта размаўляць з такой мізэрнасцю, як былы муж. Але ўсё ж такі адказала.

— Алё-ё, — данеслася да Івана далёкае і ўжо амаль незнаёмае.

— Таня! Не націскай на “адбой”. Нам патрэбна твая дапамога.

— Нам — гэта каму? — паважна працягнула Таццяна. — Гэта табе і тваёй мамачцы?

— Мама памерла ў пазамінулым годзе…

— І ты, падумаўшы як след, вырашыў, што цяпер можаш мяне вярнуць? — перарвала Таццяна.

— Паслухай, — узвысіў голас Іван. — Я не маю намеру лаяцца з табой. Я б ніколі не патэлефанаваў, але Волечка…

— Не спекулюй дзіцем! — амаль тэатральна адказалі яму. — Ты не вернеш мяне, і не старайся. Я шчаслівая з ім. І мы смяёмся з тваіх няўдач.

— Таццяна! Ты здольная хаця б выслухаць? З Волечкай бяда… Дакладней, бяда ў Волечкі…

— Во, як заблытаўся! І што ж у Волечкі здарылася?

— У малой памерла чарапаха, — вымавіў Іван, ужо разумеючы, як дзіка і ненатуральна выглядае яго размова з гэтай, зусім ужо чужой яму жанчынай.

— Чарапаха? Што за лухту ты нясеш? Іван, ты п’яны? Адкуль чарапаха?

— Чарапаха Марта… Мы купілі яе ў суседзяў. Псіхолаг параіў…

— Здохла чарапаха! — раптам істэрычна зарагатала Таццяна. — Нават прыдумаць нічога больш пераканаўчага не здолеў! Ты не п’яны, Іван, я зразумела. Ты блазан і заўжды быў блазанам. Ты…

Праклінаючы сябе за слабасць, ён адключыў тэлефон.

Іван забраў Волечку з групы на цэлую гадзіну раней. У яго кейсе былі цукеркі і прыгожа апранутая лялька.

— Ты толькі не плач, — сказаў ён, — наша Марта памерла. Яна была харошая чарапашка і даставіла нам многа радасці. Нам будзе сумна без яе. Але мы не станем плакаць, таму што цяпер Марта — у добрым і цудоўным месце. Там заўжды лета і паўсюль растуць жоўтыя дзьмухаўцы. Памятаеш, гэта была яе любімая ежа. Марта ходзіць паміж дзьмухаўцовых лісткоў, частуецца кветкамі і грэецца на сонейцы. Ёй так хораша, што яна ўжо нават забылася пра нас. А мы пра Марту не забудземся, толькі плакаць не станем…

Волечка прыняла лялькў з татавых рук, пакруціла яе ў руках, паклала ў рот цукерку. Прашаптала: “Смачная”… Дамоў ішлі ціха. Пачаўся дробны мярзотны снег.

— Татуля, — раптам спыталася малое, — Марта там, дзе анёлы? Мая Марта ў раі?

— Марта ў раі, — упэўнена вымавіў бацька. — Толькі анёлаў там няма. Бо гэта — чарапашы рай. Ён зусім не на небе. Ён проста далёка-далёка адсюль, так далёка, каб людзі ніколі не змаглі дабрацца.

— А чаму людзям нельга там быць? — не сунімалася Волечка. — Татачка, чаму?

Іван доўга маўчаў. Нешта горкае і пякучае перахапіла яму горла.

— Там, дзе людзі, раю няма, дачушка, — вымавіў ён урэшце. — Там, дзе людзі, раю не бывае!

* * *

Чарапаха ў Волечкі з’явілася роўна праз месяц. Пад самы Новы год сонную тарцілу, захутаную ў некалькі слаёў тоўстай фланэлі, прынёс Івану проста на кватэру новы муж Таццяны.

— Не крыўдуй, мужык, — сказаў ён, крыху патаптаўся і — выйшаў.

# Нясвіж, атулены музыкай

**Музы знайшлі сваю сталіцу і цяпер штогод ладзяць у ёй свята мастацтваў. Яно не проста ўпрыгожвае жыццё, а нясе ў сабе ўнікальны духоўна-эстэтычны сэнс. Нясе праз усю краіну, бо, з'явіўшыся амаль дваццаць гадоў таму на культурным абсягу Міншчыны, "Музы Нясвіжа" запачаткавалі фестывальна-асветніцкі рух, што ахапіў гістарычныя мястэчкі ды невялікія старажытныя гарады ў розных абласцях Беларусі.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**



*Унутраны двор замка з новай вежай.*

**Няўрымслівыя "Музы Нясвіжа"** гэтым разам і прычыніліся да рэспубліканскай грамадска-культурнай акцыі "Беларусь у маім сэрцы", і ўпрыгожылі чараду мастацкіх падзей, што ладзяцца ў падтрымку сёлетняга статусу горада як культурнай сталіцы краіны. Зрэшты, нават без абвяшчэння такога пачэснага статусу наша гістарычная "некаранаваная сталіца" спрадвек вызначалася самавітым становішчам на скрыжаваннях цывілізацый і культур, духам творчасці, далучанасцю да мастацкага кантэксту Еўропы. Менавіта "на каранях" былых традыцый і паўстаў сучасны фестываль, які музыканты Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з маэстра Міхаілам Фінбергам, пры зацікаўленай падтрымцы Мінскага аблвыканкама і кіраўніцтва Нясвіжскага раёна, правялі ўжо сямнаццаты раз.

Тры дні — і незлічоныя ўражанні: спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, навуковая канферэнцыя, разнажанравыя канцэрты, мастацкія выстаўкі; напоўненыя свежасцю абноўленай прыроды рамантычныя і велічныя краявіды з архітэктурна-ландшафтнымі помнікамі легендарнай рэзідэнцыі князёў Радзівілаў...

**"Форумам вучоных муз"** сталася навуковая канферэнцыя з удзелам даследчыкаў старадаўняй музыкі, архітэктуры, выяўленчага мастацтва. Падчас яе адбылася прысвечаная Году кнігі прэзентацыя новага выдання "Нясвіж — мастацкая сталіца Беларусі". Укладальнік — доктар мастацтвазнаўства, навуковы кіраўнік фестывальных праграм, іх заўсёдная вядучая, прафесар Вольга Дадзіёмава — сабрала пад адной вокладкай матэрыялы сёлетняй канферэнцыі. У іх ліку, напрыклад, — унікальныя даклады пра касцюміраваныя забавы магнатаў ВКЛ (А. Скеп'ян), пра творчы лёс нясвіжскага жывапісца Юліяна Фалата (Н. Усава), пра сцэнаграфію княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл (В. Бажэнава), пра дзейнасць захавальніка музычна-літургічных традыцый у Беларусі Эдварда Гірдо (С. Шэйпа).

**Знаўцаў выяўленчага мастацтва** "Музы Нясвіжа" парадавалі двума вернісажамі. Творчасці легендарнага жывапісца і графіка Міхася Сеўрука прысвячалася выстаўка "Адлюстраванне душы" (дарэчы, як паведаміў нам старшыня Нясвіжскага райвыканкама Іван Крупко, плануецца выпуск маляўнічага альбомнага выдання, прысвечанага гэтаму выбітнаму нясвіжскаму мастаку). А побач разгарнулася экспазіцыя новых работ выхаванцаў дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва Палаца культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода. Як заўсёды, выстаўку таленавітых мазыран прывезла на фестываль іх настаўніца, кіраўнік студыі Святлана Купрыянава.

**Нясвіж спрадвек атуляла музыка**. І нічога дзіўнага ў тым, што ў дні традыцыйнага вясновага фэсту менавіта яна становіцца паўнаўладнаю гаспадыняй сталіцы муз. "Музыка беларускіх сядзіб", "На музычных скрыжаваннях: Беларусь — Расія", "Выдатныя постаці айчыннага мастацтва. Міхал Клеафас Агінскі", "Шансон у Нясвіжы"... Самыя розныя канцэртныя праграмы ладзіліся ў зале Нясвіжскага цэнтра культуры і адпачынку, у цэнтральнай раённай бібліятэцы, у гарадской ратушы.

І сёлета ўпершыню музыканты Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі выступілі ў "сэрцы замка" — светлай, высакародна і лака-



*Удзельніцы струннага квартэта.*



*Заслужанаму артысту Беларусі Генадзю Забару (злева) у дзень канцэрта споўнілася 60 гадоў.*

нічна афармленай тэатральнай зале Палацавага ансамбля горада Нясвіжа.

У палацы яшчэ працягваецца працэс музеефікацыі, падбор для інтэр'ераў адпаведнай мэблі, карцін. Набыць сёння сапраўдныя прадметы абстаноўкі, што належалі Радзівілам і знаходзіліся ў іх нясвіжскай рэзідэнцыі, практычна немагчыма. Задача ў тым, каб усемагчымымі шляхамі, у тым ліку праз аўкцыёны, адшукаць аналагічныя антыкварныя рэчы і размясціць іх у адноўленых сценах. Няпроста вярнуць сюды і старадаўнія творы выяўленчага мастацтва, частка якіх, дарэчы, захоўваецца ў зборах айчынных музеяў. Магчыма, некаторыя палотны будуць перададзеныя Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку "Нясвіж" на дэпазіт (кшталту арэнды), магчыма, яны паступяць сюды ў выглядзе высакаякасных копій, выкананых на аснове найноўшых лічбавых тэхналогій; у пакоях палаца могуць з'явіцца і новыя арыгінальныя карціны. Аднак да нашых дзён удалося захаваць і некаторыя рарытэты княжацкага дома. Сапраўдная аўтэнтыка — вялікая карціна на плафоне парадной лесвіцы (як вядома, гэты жывапісны твор, шчасліва перажыўшы не адну вайну, пацярпеў у выніку тушэння пажару падчас рэстаўрацыйных работ на даху палаца, але ўжо адноўлены); адмысловы радзівілаўскі більярд (адрэстаўраваны мінскімі майстрамі, ён захоўваўся ў музейнай экспазіцыі нясвіжскай ратушы і цяпер вярнуўся "дадому"); унікальнае чорна-белае плітачнае пакрыццё, выяўленае ў адным з памяшканняў, а дакладней — вызваленае з-пад дашчанай падлогі...

Дык вось, у адноўленых сценах вялікага княжацкага дома гучала так або інакш звязаная з жыццём дынастыі яго слынных уладальнікаў ды з адпаведным часам творчасць Вацлава з Шамотул, Яна Карловіча, Яна Голанда, Міхала Казіміра Агінскага, прадстаўнікоў роду Радзівілаў: Мацея, Антонія ды Соф'і... Праграма "Шляхі мецэнацтва. Да 500-годдзя дынастыі Радзівілаў" аб'ядноўвала музыку розных часоў, стыляў і жанраў, якая набыла новае жыццё ў аранжыроўках для камерных ансамбляў вялікага калектыву: кларнетыстаў, салістаў на драўляных духавых інструментах, выканаўцаў на флейтах, трубачоў, харавой групы, струннага аркестра і квартэта, які сёлета выступаў у новым складзе. Вытанчанае і віртуознае майстэрства, чысціня інтанацыі і густ выканаўцаў выклікалі захапленне. Калі ж іграў аркестр, артысты якога размясціліся не толькі на невялікай сцэне-подыуме, але і зусім побач з гледачамі, узнікаў узрушальны эфект знаходжання ўнутры жывой музыкі, паглыблення ў дзівосную і непаўторную рэальнасць гукавой гармоніі... Авацыяй ганаравала публіка вядомыя калектывы ды іх кіраўнікоў: Генадзя Забару, Івана Брычыкава, Уладзіміра Скараходава, Мікалая Волкава, Наталлю Міхайлаву, Валерыя Сароку, Таццяну Вайлапаву.

**Праграма аркестра** "Шансон у Нясвіжы", якую правёў маэстра Міхаіл Фінберг, прадставіла праз творчасць музыкантаў і салістаў-спевакоў самыя душэўныя, змястоўныя і шчырыя песні розных часоў і розных народаў. Гэта быў апафеоз "Муз Нясвіжа", але... Але ўжо сёння арганізатары фэсту працуюць над планам новай сустрэчы ў старадаўнім горадзе.



*Вакальны ансамбль пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай.*

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА, фота аўтара**

Творчымі візітамі абмяняліся Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр і Смаленскі дзяржаўны драматычны тэатр імя А. С. Грыбаедава. З 29 па 31 мая госці паказалі на сцэне БДАМТ тры спектаклі: камедыі "Боінг-боінг" французскага драматурга М. Камалеці ў пастаноўцы смаляніна Алега Кузьмічова, "Занадта жанаты таксіст" брытанца Р. Куні ў сцэнічным увасабленні заслужанага артыста Беларусі Віктара Чэпелева ды "амаль смешную гісторыю" нашай суайчынніцы А. Паповай "Шукаю сапраўднага мужчыну" ў рэжысуры заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Віталя Баркоўскага. Беларускія артысты ўключылі ў свой гастрольны рэпертуар аперэту І. Кальмана "Сільва", музычную камедыю Я. Пцічкіна "Бабскі бунт" і балет Г. Гладкова "12 крэслаў". Кароткія абменныя гастролі паміж гэтымі тэатрамі ўжо традыцыя.

Нястомны творца, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, жывапісец-ветэран Барыс Аракчэеў днямі стаў героем новага сталічнага вернісажа: выстаўка яго работ адкрылася ў гасціннай і ўтульнай зале Пасольства Чэшскай Рэспублікі ў нашай краіне.

Цэнтр сучаснага мастацтва польскага горада Торунь зладзіў III міжнародны фестываль плаката і тыпаграфікі "Plaster", прысвяціўшы яго пошуку агульных рыс і адрозненняў у польскім ды беларускім графічным дызайне. Арганізатары (у іх ліку і Беларускі саюз дызайнераў, Польскі інстытут у Мінску, Беларускі



*Юрый Тарэеў "Ірэна".*

саюз мастакоў) уключылі ў праграму правядзенне міжнароднай канферэнцыі, экспазіцыю творчасці выдатнага беларускага каліграфа, лаўрэата прэміі "За духоўнае адраджэнне" Паўла Семчанкі ды яго майстар-клас, а таксама выстаўку работ удзельнікаў надзвычай мінскага праекта "Літарт": Ю. Тарэева. С. Саркісава, Г. Мацура, Д. Сурскага ды інш.

Выбітнымі канцэртамі завяршыўся май у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У аўторак тут выступіў Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. Дырыжыраваў наш госць і даўні сябра мінскай публікі, славуты маэстра з Літвы Юозас Домаркас. Гучалі "Прэлюды" Ф. Ліста, Другая сімфонія Я. Брамса, Вялікая фантазія до мажор для фартэпіяна з аркестрам ("Вандроўнік") Ф. Шуберта — Ф. Ліста, дзе салiравала заслужаная артыстка Беларусі Ірына Шуміліна. Сапраўдным падарункам для аматараў класікі стаўся ўчарашні філармонічны канцэрт нашых расійскіх гасцей — Вялікага сімфанічнага аркестра імя П. Чайкоўскага пад кіраўніцтвам славутага маэстра Уладзіміра Федасеева. Выконваліся творы А. Барадзіна, М. Мусаргскага, В. Кікты, П. Чайкоўскага.

# Магія Лялькі



Сцэна са спектакля “Дзікае паляванне караля Стаха”.

**Сёмы Беларускі міжнародны фестываль тэатраў лялек стварыў сапраўднае свята для мінскіх гледачоў. У яго праграме былі прадстаўленыя акрамя тэатраў Беларусі спектаклі лялечнікаў з Германіі, Грэцыі , Літвы, Малдовы, Украіны і іншых краін. Фестывальная афіша, надзвычай прадуманая і насычаная, прываблівала як маленькага, так і дарослага гледача. Прапанаваныя спектаклі выклікалі цікавасць не толькі сваёй драматургіяй, але і нечаканай пабудовай сцэнічнай пляцоўкі, існаваннем акцёраў у кантэксце відовішча. Побач з нечаканымі эксперыментамі захоўваюць прыцягальнасць і традыцыйныя спектаклі, у якіх галоўнай застаецца чароўная і жывая Лялька…**

**Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

Школу майстэрства лялечнага тэатра прадэманстраваў на фестывалі тэатр з Санкт-Пецярбурга пад назвай “Лялечны фармат”, паказаўшы ў Мінску спектакль **“Вершнік Cuprum”**, які з’яўляецца лаўрэатам Расійскай нацыянальнай прэміі і фестывалю “Залатая маска”. Маладыя расійскія акцёры І. Зіміна, А. Смірноў, Я. Сарафаннікава, В. Бялоніна, П. Васільеў, Р. Ушакоў і В. Фёдарава высокапрафесійна валодаюць лялькамі-марыянеткамі, пры гэтым ствараючы на сцэне жывыя вобразы, тонка і кранальна распавядаюць гісторыю кахання цара Пятра і дзяўчыны Невы. Паводле легенды, прапанаванай тэатрам, менавіта дзякуючы гэтаму прыгожаму і тужліваму каханню быў створаны поўны паэзіі і рамантызму горад Пецярбург. Каханне ў спектаклі “Лялечнага фармату” рыфмуецца з радкамі Белага і Мяражкоўскага, сугучнае вобразам Бітава і Дастаеўскага — і ўрэшце складаецца ў адзін паэтычны аповед. Рэжысёр і мастак пастаноўкі Г. Віктарава выкарыстоўвае на сцэне сапраўдны басейн, у якім плаваюць цацачныя караблі з празрыстымі белымі ветразямі.

Да захавання традыцый класічнага лялечнага тэатра імкнецца і беларуская “Лялька” з Віцебска. Гэты добра вядомы і па-за межамі нашай краіны тэатр паказаў **“Прынцэсу і свінапаса”** Х. К. Андэрсена ў пастаноўцы В. Клімчука. У “жывы” план у спектаклі выведзеныя апавядальнікі, прыдворныя і слугі, якія дапамагаюць распавядаць зусім няпростую гісторыю кахання Прынца, вымушанага ператварыцца ў свінапаса, каб быць побач з Прынцэсай, якая не прыняла яго кахання і падарункаў: сапраўднай Ружы і Салаўя, самых дарагіх для юнака. Пры гэтым акцёры нічым не перашкаджаюць лялечнай сцэне, пабудаванай мастаком А. Сідаравым, якая нагадвае і прыгожую паштоўку-віньетку, і казачную карэту, дзе і разгортваецца падзел спектакля. Віцебскія акцёры па-майстэрску валодаюць лялькамі-марыянеткамі, якія сапраўды ажываюць у іх руках. Рэжысура спектакля чыстая, графічная і выверaная, кожная мізансцэна дакладна распрацавана і пададзена гледачу буйным планам. Перад вачамі разгортваецца маляўнічыя карціны, якія складаюцца ў незвычайную захапляльную гісторыю з прывабнымі казачнымі персанажамі.

Адным з самых цікавых на фестывалі быў спектакль Гродзенскага абласнога тэатра лялек **“Пікавая дама”** па матывах аповесці А. Пушкіна і оперы П. Чайкоўскага ў пастаноўцы А. Жугжды. Тут таленавіта спалучаюцца і драматычнае выкананне акцёрамі-лялечнікамі сваіх роляў, і існаванне персанажаў — лялек-марыянетак. Сцэна гэтага спектакля выглядае ўтульнай, прыцягальнай і эфектнай. У сярэдзіне “чорнага кабінета” мастак М. Сташулёнак змясціў стол для гульні, пакрыты зялёным сукном. Гэты стол на працягу сцэнічнага дзеяння выконвае і свае звычайныя функцыі, і адначасова служыць сцэнай для лялечнага спектакля, на якой з’яўляюцца персанажы, архітэктурныя збудаванні, выкананыя з бязважкіх матэрыялаў. У гродзенскай “Пікавай даме” ёсць атмасфера загадкавасці, трывогі і пастаяннага чакання незвычайных падзей. Акцёры Д. Гендаль, А. Янджэўскі, В. Лявонаў і Л. Мікуліч дэманструюць сваё вытанчанае майстэрства і надаюць спектаклю непаўторнае дыханне. Яны дасканала валодаюць прафесіяй і ператвараюць вядомы твор на ўласнае мастакоўскае адкрыццё. Асабліва ж вылучаецца майстэрствам і віртуознасцю выканання актрыса Ларыса Мікуліч. Яе гераіня апранута ў элегантную доўгую чорную сукенку, галаўны ўбор упрыгожвае доўгае пяро, якое ледзь кранае яе вытанчаны твар. Спачатку яна паўстае шляхетнай, чароўнай, эфектнай і недасягальнай Надзеяй Філарэтаўнай фон Мэк ды тут жа вокамгненна пераўвасабляецца ў сарамлівую і спакойную Лізавету Іванаўну, з такой жа лёгкасцю паўстае перад гледачом састарэлай графіняй Ганнай Фядотаўнай. Адбываецца чарадзейная містыфікацыя — праз высокае майстэрства і абаяльнасць непаўторная Л. Мікуліч на вачах у гледача ператвараецца з бездакорнай свецкай жанчыны ў амаль бездапаможную старую з невыносным зласлівым характарам.



Сцэна са спектакля “Пікавая дама”.

Трапяткім і запамінальным атрымалася і знаёмства са спектаклем Магілёўскага тэатра лялек **“Дзікае паляванне караля Стаха”** паводле У. Караткевіча. Літаратурна-сцэнічную версію і пастаноўку ажыццявіў рэжысёр В. Корнеў. Безумоўна, тэатр не прэтэндуе на ўсеабдымнае ўвасабленне твора. Галоўнае тут — гісторыя з удзелам галоўных герояў, пачуцці, якія ўзнікаюць паміж маладымі людзьмі ды іх імкненне змяніць абставіны і нават наканаваны лёс Надзеі Яноўскай. Яркім мастацкім вобразам спектакля становіцца таямнічы замак, які застаецца ў цэнтры ўвагі гледача на працягу ўсяго дзеяння (мастак Г. Ігнацьева). Ён здатны мяняць свае абрысы, нечакана трансфармавацца і ўвесь час раскрываць свае новыя магчымасці: у ім удала ўманцыраваныя асветленыя дзверы і вокны, у якіх з’яўляюцца галоўныя дзейныя асобы — лялькі. Збудаванне можа ператварацца ў залу для гасцей, калі адкідваецца адна з яго сцен, у лабірынт пакояў, у якіх хаваюцца загадкавыя прывіды і цені. Мастаком ствараецца атмасфера недаверлівай цемры і страху перад невядомым, у якой знаходзяцца героі спектакля. Трывогу персанажаў падкрэслівае і музычнае афармленне А. Дамахоўскай. У спектаклі выкарыстаныя фрагменты твораў беларускіх кампазітараў А. Літвіноўскага, Д. Смольскага, К. Цесакова і А. Соніна. Само ж дзікае паляванне караля Стаха нечакана з’яўляецца, наплывае і ў музычным вобразе, і ўзнікае на праекцыйна ажыўленай дэкарацыі. Акцёры Магілёўскага тэатра — М. Сцешыц, М. Кошалеў, Н. Бачкарова — іграюць тут па некалькі складаных роляў, але пры гэтым захоўваюць індывідуальнасць вобразаў Дубатоўка і Бергмана, Вароны і Паляўнічага, Ахмістрыні і Старой. Незвычайна шчырымі паўстаюць перад гледачом Яноўская — Т. Зэлікава — і Беларэцкі — С. Сяргеенка.



Сцэна са спектакля “Сабачае сэрца”.

Брэсцкі тэатр лялек паказаў **“Караля Ліра”** паводле У. Шэкспіра ў пастаноўцы А. Устаўшчыкова. Работа сталася нечаканай для тэатр, эксперыментальнай, як і ў галіне драматургіі, так і ў існаванні акцёра ў спектаклі — лялькі ж тут наўмысна маленькія, пальчатковыя і існуюць яны адасоблена ад таго ці іншага персанажа: з імі, хутчэй, гуляюць у тэатр. Яны тут неажыўленыя, проста лялькі, прызначаныя для маніпуляцый. Мне падалося, што іх функцыя ў спектаклі вельмі абмежаваная, хаця, магчыма, задума пастаноўшчыкаў была зусім іншая. Пры гэтым зазначу, што эксперымент тэатра цікавы — прынамсі, работа над прасторай, у якой існуюць героі. Дэкарацыя ўвесь час рухаецца і змяняецца на вачах у гледача, сцэнічная прастора пашыраецца і выходзіць далёка за межы лялечнай шырмы, насычаецца цікавымі прадметамі і рэчамі. Спектакль Брэсцкага тэатра адметны колеравай гамай, светлавым афармленнем, касцюмамі. І ўсё ж галоўнае, што хацелася б бачыць у спектаклі, — магутнасць і выключнасць шэкспіраўскіх вобразаў, самога галоўнага героя. Мне ж было цікава сачыць толькі за тым, як разгортваюцца ўзаемаадносіны Блазна ў выкананні Д. Нуянзіна з іншымі персанажамі.

Дарэчы, хацелася б адзначыць даволі прыкметную апошнім часам тэндэнцыю сучаснага лялечнага тэатра, якая выявілася і на фестывалі — не заўсёды апраўданы выхад у драматычных ролях акцёраў лялечнага тэатра. Гэта можна сказаць і наконт **“Сабачага сэрца”** М. Булгакава паводле Гомельскага лялечнага тэатра, і нават пра знакамітае “Вянчанне” В. Гамбровіча Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек, спектаклі якіх заслужана адзначаны шэрагам узнагарод на прэстыжных тэатральных імпрэзах. І тым не менш герой акцёра Ц. Муратава, які знаходзіўся ў цэнтры ўвагі “Вянчання”, на фестывальным паказе быў аднастайным на працягу ўсяго сцэнічнага дзеяння. Вобраз, створаны ім, на маю думку, спрошчаны і пазбаўлены тонкасці. Выканаўца не змог прыўзняцца над сабой і вынесці свой тэкст на ўзровень інтэлектуальнага тэатра. І толькі паводле асобных фрагментаў тэксту можна было зразумець філасофскую глыбіню твора В. Гамбровіча.

Фестываль зноў падкрэсліў тое, што лялечнаму тэатру, гісторыя якога сягае ў глыбіні стагоддзяў, падуладныя самыя складаныя метамарфозы. Таму сёння ён прэтэндуе на тое, каб быць самым непрадказальным, вынаходлівым і сучасным.

# Па-беларуску? З усмешкай!

**У беларускіх аўтааматараў нядаўна з'явілася магчымасць вывучаць правілы дарожнага руху на дзяржаўнай беларускай мове. Супольная праца паяднала намаганні Дзяржаўтаінспекцыі, Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі ды Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, якое ўзяло на сябе кіраўніцтва адпаведным праектам. Падрыхтаваныя таксама тэкставыя заданні і канспект па правілах. Справа за адпаведным указам, а пакуль вучні і выкладчыкі аўташкол станоўча сустрэлі навіну і імкнуцца скарыстацца нагодай ды падвучыць не толькі ПДД, але і родную мову. Алена Анісім, філолаг, навуковец, першы намеснік старшыні ТБМ, падзялілася з "ЛіМам" развагамі пра сённяшнія шляхі распаўсюджвання беларускай мовы.**

**Таццяна СІВЕЦ**

— Такога роду праца па ўкараненні мовы ў тыя сферы, дзе яна раней мала прысутнічала, вымагае іншага погляду. Мы ж прызвычаіліся, што беларуская мова — гэта найперш вершы, апавяданні, песні, казкі і г.д., але мова можа забяспечыць абсалютна ўсе патрэбы, а значыць, можа быць і больш складаная, і гучаць крышку не так, як бы нам хацелася. Час ідзе наперад. Жыццё змяняецца, а з ім змяняецца і мысленне людзей. Калі мова не будзе адпавядаць мысленню, яна не будзе жывой!

**— Але часам можна пачуць думку, што беларуская мова ўсё яшчэ не сфарміравалася да канца — яна працягвае развівацца?**

— Калі гавораць пра тое, што мова знаходзіцца ў зародкавым стане, то я катэгарычна не згодная. Мова на сённяшні дзень такая, што можа забяспечыць усе сферы ўжывання. Пытанне толькі ў людзях: ці дасягнулі яны адпаведнага развіцця, каб карыстацца мовай паўсюль. Нарэшце, фарміраванне мовы адпавядае ўзроўню развіцця самога грамадства.

**— Вы імкнецеся гэтыя сферы ўплыву пашыраць. Здаецца, нават сярод моладзі сёння існуе пэўная "мода на мову"...**

— Ведаеце, ёсць. Ёсць людзі, якія дасягнулі пэўнага прафесійнага ўзроўню і цяпер імкнуцца дапамагчы пашырэнню моўнай прасторы вакол сябе. Да прыкладу, хутка беларуская мова стане інструментам для працы на рынку Forex. Ёсць звычайныя маладыя людзі, якія беларусізавалі свой сайт…

**— Значыць, сучаснае становішча мовы перадусім залежыць ад канкрэтнай працы канкрэтных людзей?**

— Так, праграмісты, напрыклад, садзейнічаюць пранікненню беларускай мовы ў інтэрнэт.




Каб зразумець беларускае слова, можна не карыстацца працай перакладчыкаў і не гартаць слоўнікі — варта толькі выйсці ў сеціва.

**— Сапраўды, інтэрнэт дапамагае: вялікі пласт сучаснай айчыннай літаратуры знаходзіцца менавіта там, там жыве мова, нават ствараецца сучасны беларускі слэнг. Ці не таму вы, імкнучыся адпавядаць запатрабаванням часу, абнавілі і свой сайт *http://tbm-mova.by*?**

— Так, яго нават можна назваць парталам, бо там змяшчаецца шмат рознай інфармацыі, ён увесь час змяняецца і пашыраецца. Наогул, сёння нельга жыць адарвана ад інтэрнэту. Гэта ўжо не інструмент — гэта твая прысутнасць і пазіцыянаванасць у свеце. Калі ты ёсць у сеціве, значыць, ты — ёсць! Ёсць не толькі для тых, хто жыве ў Беларусі, але і для замежнікаў. Так што можна засведчыць, што Таварыства беларускай мовы — ёсць!

**— І мову на вашым партале таксама можна падвучыць?**

— Для гэтага ў нас ёсць самыя розныя задумкі. Да прыкладу, выкласці там англа-беларускі / беларуска-англійскі размоўнік, які мы выдалі ў 2010 годзе ў межах праекта "Дыялог". Гэты размоўнік уключае набор слоў і фраз для самых розных сітуацый. Напачатку моладзь наша зрабіла яго для сябе, пасля пераклалі на англійскую… Цікавасць выдання яшчэ ў тым, што яго ўкладальнік — супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі Уладзімір Кошчанка — зрабіў універсальную транскрыпцыю для замежнікаў, каб ім было прасцей вывучаць нашу мову.

**— Не толькі замежнікам патрэбна беларуская мова. На канале АНТ вы праводзіце свае ўрокі роднай мовы. Як на іх адгукаюцца гледачы?**

— Гэта была ідэя моладзі з АНТ. Ім захацелася зрабіць праграму, якая б выгадна адрознівалася ад таго, што робіцца на іншых каналах. Не сакрэт, што многія сучасныя праекты на тэлебачанні капіруюцца з замежных, але копія рэдка бывае лепшай за арыгінал. І калі тры гады таму ў Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы звярнуліся маладыя людзі, наша дырэкцыя вырашыла дапамагчы. Такім чынам, я рыхтую кароткае апісанне паходжання пэўнага слова альбо гіпотэзу яго ўзнікнення, паралелі з іншымі славянскімі мовамі, распавядаю пра індаеўрапейскія карані, адлюстроўваю адметнасці рэгіянальнага ўжывання. І вынік ёсць! А зусім нядаўна адзін з членаў здымачнай групы прызнаўся, што адчуў, што мы патрэбную справу робім, калі красуня з дарагой машыны памахала яму рукой са словамі: "Прывітанне, белмова!"

**— Ці актыўна далучаецца сёння моладзь да вывучэння і прапаганды беларускай мовы?**

— Моладзь — гэта такая група, якая, ухапіўшыся за нейкую ідэю, імкнецца тэрмінова яе рэалізаваць. Многія займаюцца прасоўваннем мовы ў этнагрупах, у гістарычных пошуках. Нядаўна праводзілі Фэст экскурсаводаў: па ўсёй краіне знайшліся маладыя людзі, якія цікавяцца гісторыяй, ведаюць фальклор, свае родныя мясціны, імкнуцца даследаваць іх. Не сакрэт, што Беларусь — гэта перліна, пакрытая пылам. Але сёння многае робіцца нашымі тэлеканаламі, Міністэрствам культуры, якое аб'явіла праграму "Беларусь — краіна замкаў". Мы былі ў Лагойску і бачылі, як захапіліся людзі ідэяй аднаўлення іх мясцовай каштоўнасці — палаца Тышкевічаў. Так узнікае гонар за сваю зямлю і яе гісторыю.

**— Будзем шчырымі: для многіх беларусаў родная мова пачалася з нашай літаратуры, з твораў Караткевіча, Купалы, Быкава... А для вас асабіста?**

— Яна пачалася з майго бацькі, маіх аднавяскоўцаў — я нарадзілася на Стаўпеччыне, па-нашаму кажучы, — у Стаўбцоўскім раёне. Бацька мне дарыў кнігі: "Сымон-музыка" Якуба Коласа, зборнік Янкі Купалы. І, напэўна, якраз пасля паэмы "Бандароўна" пачалося ў мяне свядомае ўспрыняцце сябе беларускай. У 12 гадоў паэму гэтую я ведала на памяць і нават пісала па ёй экзаменацыйнае сачыненне ў восьмым класе. У "Бандароўне" закладзена вельмі шмат для фарміравання дзяўчыны. Напрыклад, радкі: "За мной праўда і народ мой, за табой жа — грошы" — гэта, я лічу, асновы маральнасці, актуальныя і сёння.

**— Вы спрычыніліся да такой важнай справы, як стварэнне "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі". У чым яна заключаецца?**

— Мова павінна прысутнічаць у сям'і, у СМІ і ў прафесійнай дзейнасці. На побытавым узроўні чалавек вырашае сам, якой мовай карыстацца, але, каб мець магчымасць вывучаць беларускую, павінна існаваць адпаведная сістэма адукацыі. Вельмі важным вынікам нашай працы стала супрацоўніцтва з маладымі бацькамі, з установамі адукацыі і выхавання, акрамя таго, у нас працуе анамастычная камісія.

**— Што б вы параілі людзям, якія не гавораць па-беларуску, баючыся памылак?**

— Я параіла б не саромецца і размаўляць па-беларуску добразычліва і з усмешкай. Усе мы людзі, усе мы можам памыліцца. Але сёння вы зробіце адну памылку, а заўтра — ніводнай! Галоўнае — нашае стаўленне адно да аднаго. Варта заўжды паважаць меркаванне тых, хто побач, незалежна ад мовы, якой яны карыстаюцца.

*Нашы выданні*

## Пра ўсё і трохі пра штрафы

Рэдкі гараджанін цяпер не імкнецца на прыроду, на зарослыя дзьмухаўцом соткі і лецішчы. Вокладка майскага нумара "Вожыка" акурат і складаецца з серыі малюнкаў на дачную тэму.

"Актуальныя карыкатуры Аляксандра Каршакевіча" — рубрыка ў пэўнай меры тэндэнцыйная, паколькі ў ёй сабраны малюнкі не з тых, што прыйшлі паштовым самацёкам, а якія абумоўлены пазіцыяй рэдакцыі. Мастакоўскае вока тут пільна падгледзела і востра сатырычныя, і камічныя моманты нашай рэчаіснасці.




Публіцыстыка нумара прадстаўлена фельетонам Антося Гарчыцы пра сутнасць модных на цяперашні час гандлёвых акцый у розных гіпер- і супермаркетах, мэта якіх — хутчэй не патрэбы пакупніка, а спецыфічныя інтарэсы гандляроў.

Байка ў прозе Паўла Саковіча высмейвае безагляднае крытыканства, якое, даведзенае да абсалюту, прымушае пеўня, героя твора, патрапіць у суп. Вершаваныя іранізмы Міхася Пазнякова лаканічныя, але змястоўныя і разнатэмныя — тут і "Пра дурняў", і "Пра каханне", і "Пра сучасных дзяўчат". Яшчэ літаратура прадстаўлена гумарэскамі Міхася Слівы і вясковымі былямі Міколы Маскевіча, гумарыстычным вершам Міколы Чарняўскага і гумарэскай Міколы Падабеда "Шампанскае для міліцыянера", публікацыяй якой рэдакцыя віншуе аўтара з 75-годдзем.

Традыцыйныя рубрыка "Іголкатэрапія" паведамляе пра факты з матэрыялаў праверак Камітэта дзяржаўнага кантролю, вартыя не столькі ўвагі следчых органаў, колькі вострага пяра сатырыка. Чаго варта адно толькі выпісванне штрафаў абсалютна выпадковым, ні ў чым не вінаватым грамадзянам дзеля выканання спушчанага зверху "штрафнога" плана ў Старобінскім і Любанскім лясгасах!

Рубрыка "Вожык у асобах" прадстаўляе творы Генадзя Кляўко, якому ў гэтым месяцы споўнілася б 80 гадоў.

"Вернісаж" змяшчае карыкатуры Аляксандра Шмідта, удзельніка шматлікіх міжнародных конкурсаў карыкатуры, дарэчы, нашага земляка, які жыве ў Падмаскоўі, але з вялікай ахвотай супрацоўнічае з "Вожыкам".

Ёсць ў майскім нумары і дэбютная старонка. Жарты-гумарэскі з Міёр Алены Басікірскай маленькія, але, як кажуць, удаленькія. Прадстаўлены і такія рубрыкі, як "Студэнцкая гумарына", "Калючык", "Вясёлая пошта", "Каб і хацеў — не прыдумаеш"; змяшчаецца традыцыйная падборка "найсвяжэйшых" і даўно забытых анекдотаў, што, па сутнасці, адно і тое ж.

**Алесь НАВАРЫЧ**

*Сябры «ЛіМа»*

# Самае цікавае — у часопісе «Маладосць»!

**Святлана ДЗЯНІСАВА,**
**галоўны рэдактар часопіса "Маладосць"**

Чытачы літаратурных часопісаў, заўсёдныя і выпадковыя, не-не ды і падумаюць пра тое, што чытаюць іх — літаратурныя часопісы — збольшага або "прафесійныя пісьменнікі", або тыя, хто ў памкненні далучыцца да гэтага кола ці ўжо аднёс, набраўшыся смеласці, свае, як кажуць, "опусы" ці ўсё яшчэ нясе (і даняся абавязкова). Зрабіць так, каб літаратурны часопіс быў папулярным сярод людзей, якія не маюць прафесійнага дачынення да пісьменніцтва? А чаму б і не? Тым больш што рэцэпт не надта складаны. Галоўнае — высокая якасць інгрэдыентаў.

Узяць "глабалісцкую" фантазію Юрася Нератка пад назвай "Тэрапія" (ці гаварыць вам пра тое, што галоўны герой яе — небезвядомы адронны калайдар?), дадаць камічную "Біяхімію шчасця" Алены Беланожкі (лёгкае чытанне беларускай літаратуры не нашкодзіць, ці не так?) або фантастычную "Апошнюю надзею" Сяргея Беляра (вось над чым можна разважаць і на ўроку літаратуры, і на лавачцы), узважыць сюды "Праклён мітрапаліта Феафіла" (і сказаць дзякуй Уладзіміру Мажылоўскаму!), "Караля Капайлу і яго атачэнне" (павіншаваўшы з добрым творам Міхася Зізюка), перасыпаць гэта ўсё апавяданнямі вядомых ужо Лаўрэна Юрагі і Генадзя Аўласенкі, Кацярыны Фядотавай ці Наталлі Ярмольчык, прыправіць крымінальнымі замалёўкамі ў духу Рамана Бортніка, містыкай Ніны Ракіцінай і згадкамі Адама Глобуса… Выдатна тут будуць чытацца вершы: Алесь Дуброўскі і Рагнед Малахоўскі, Аксана Дашкевіч і Анатоль Брусевіч, Уладзімір Бубнаў і Наста Кудасава, Вольга Чайкоўская і Дзмітрый Пятровіч, Наталля Навіцкая, Наталля Цвірко, Фелікс Баторын…

Трэба ўзяць асабістую веру ў поспех, далучыць да яе незнішчальную думку пра тое, што пісаць павінны тыя, хто не можа не пісаць (і прымацаваць да тарца кабінетнай шафы паведамленне рашучага зместу наступнага кшталту: "Матэрыялы ў блокі "Крытыка" і "Публіцыстыка" прымаць у выпадку выключнай цікавасці, а таксама пры ўмове арыгінальнай формы падачы — праз аўтарскае бачанне, з прыкметамі творчых пошукаў, без моўных "штампаў", навуковай сухасці і папулярызатарскага прымітывізму"). Што яшчэ? Гуляць з ідэямі і вольна абыходзіцца з тэмамі. Напісаць пра тое, чым геній адрозніваецца ад вулічнага ліхтара? Няма праблем. Прад'явіць свету фотаздымкі Максіма Лужаніна, Алеся Дудара і Якуба Коласа, абнародаваць ліставанне Янкі Купалы і нават гісторыю яго стасункаў з Аляксандрам Вазнясенскім? Ды мы проста абавязаны гэта зрабіць! Гэтаксама як і прысвяціць некалькі праектаў 60-годдзю часопіса (да красавіка 2013-га застаецца не так шмат часу). І не забыцца пра зорку Венеру, якая зусім хутка, 6 чэрвеня, апошні раз у дваццаць першым стагоддзі пройдзецца па дыску Сонца (напісаць пра гэта ў новай рубрыцы "Акадэмія навук"!). Толькі б хапіла часу…

Зрабіць так, каб літаратурны часопіс быў папулярным сярод тых, хто не мае да літаратуры аніякага дачынення ў прафесійным сэнсе? Не так гэта і проста. Але ж рэцэпт нескладаны. Папершае, трэба падпісацца…

**Кацярыну Хадасевіч-Лісавую многія ведаюць як аўтара дзіцячых твораў, але піша яна і для дарослай чытацкай аўдыторыі. Творы пісьменніцы друкаваліся ў часопісах "Маладосць", "Нёман", "Белая вежа", "Бярозка", "Вясёлка", у газетах "Літаратура і мастацтва", "Мінская праўда" і інш. Апавяданні былі прадстаўлены ў калектыўных зборніках, што выдаваліся ў "Мастацкай літаратуры": "Вальс пад журлівымі таполямі" (2008), "У храме зямнога кахання" (2009), "Самая чароўная кветка" (2010). Казкі і апавяданні для падлеткаў выходзілі ў калектыўных зборніках "Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў", "Блакітная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў" (2009). Першая кніга для дзяцей "Падарожжы ў Чароўны лес" пабачыла свет у 2008 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Дарэчы, зусім нядаўна пісьменніца парадавала юных чатачоў сваёй новай кнігай "Касмічная адысея хлопчыка Стасіка" (2012), што выйшла ў РВУ "Літаратура і мастацтва". Цудоўныя ілюстрацыі да абедзвюх кніг зрабіў мастак Віталь Дударэнка.**

Дар'я ШОЦІК

# Твор — гэта мора

### Пра дзіцячую літаратуру і жыццё літаратара

— Пісаць для дзяцей — значыць вучыць дабру, шчырасці, міласэрнасці, паказваць важныя чалавечыя якасці, вучыць павазе. Менавіта праз казку дзіця спасцігае свет, у яго закладваецца падмурак жыццёвых каштоўнасцей. Юным і зусім маленькім чытачам неабходна тлумачыць, што добра, а што не. Ад пісьменніка залежыць, наколькі цікава ён гэта зробіць. Пісаць для дзяцей трэба проста, але не прымітыўна. Каб зацікавіць чытача, аўтар павінен ствараць нешта новае і арыгінальнае.

Чытаць дзецям проста неабходна. Паводле даследаванняў псіхолагаў, тыя дзеці, каму бацькі рэгулярна чыталі казкі, лепш вучацца, яны больш камунікабельныя, творчыя. І, канечне ж, валодаюць большым слоўнікавым запасам. Задача пісьменніка — зацікавіць добрай кнігай. Твор пры сумесным прачытанні дзіцяці з бацькамі павінен быць цікавым, незвычайным і для маленькага, і для дарослага чытача. (Мне падабаецца меркаванне, што твор падобны да мора. Нехта чытае і быццам толькі прагульваецца па вадзе па шчыкалатку ці па калена, а хтосьці заплыве далёка-далёка і нырне ў самую глыбіню.)

Колеры і ілюстрацыі — адны з галоўных кампанентаў дзіцячай кнігі. Я перакана, што кніга — гэта вынік агульнай працы пісьменніка і мастака. І тут вельмі цяжка ацаніць, хто больш зрабіў. Пісьменнік, які стварыў сюжэт, прыдумаў герояў, надаў ім характары, або мастак, які здолеў усё гэта ўвасобіць. Калі ў кнізе спалучаецца цікавы тэкст з выдатнымі ілюстрацыямі, яна абавязкова спадабаецца дзецям і будзе запатрабаваная.

Жыццё літаратара цікавае, незвычайнае, неспакойнае, неверагоднае, загадкавае. Дзеці — гэта самыя непасрэдныя і шчырыя людзі, якія вучаць любіць жыццё і заўважаць кожную дробязь. Іх навакольны свет і вобразы чыстыя, светлыя, таму і сюжэты для дзіцячых твораў атрымліваюцца дзівосныя і казачныя. Мне здаецца, што літаратар — гэта своеасаблівы прыёмнік, які заўважае сюжэты, вобразы, герояў, якія знаходзяцца побач з намі. Ён прапускае ўсё гэта праз сябе, а потым на паперы атрымліваецца новы твор.

### Пра сюжэт і герояў

— Бывае так, што сюжэт, героі для твора знаходзяцца лёгка, часам выпадкова. Калі ўзгадаць маю першую кнігу "Падарожжы ў Чароўны лес", то гэта звычайныя жыхары лесу: мядзведзікі, вужык, зайчаняты, казуля ды іншыя звяры, што жывуць у лясах Беларусі. Старонкі выдання запрашаюць у дзівосныя вандроўкі па Чароўным лесе. А там цікавыя героі, характары, сітуацыі, прыгоды…

На напісанне другой кнігі "Касмічная адысея хлопчыка Стасіка" натхніў мой сынок Стасік, які і стаў прататыпам галоўнага героя, у якога ёсць незвычайны пакой. Кожную ноч малы пераносіцца ў дзівосную Краіну Сноў, дзе жыве казачны хлопчык Зорнічак, і



разам яны здзяйсняюць незвычайныя падарожжы…

Спадзяюся, чытачам прыгоды галоўных герояў спадабаюцца. Буду рада, калі мае казкі на працягу некалькіх вечароў паяднаюць дзяцей і бацькоў за такім простым, але такім важным і патрэбным заняткам — сумесным чытаннем.

### Пра папулярнасць твораў

— Лічу, калі такая выстаўка-кірмаш, як "Книжки в штанишках", якая прайшла ў снежні мінулага года, стане традыцыйнай, гэта толькі павялічыць папулярнасць кніг у дзяцей і бацькоў. Цудоўная ідэя, якую трэба падтрымліваць і развіваць.

Але ўсё ж такі пачатак ідзе ад бацькоў, якія павінны закласці аснову, развіваць у дзяцей добры літаратурны густ, адкрыць для іх чароўны свет кнігі. Потым ужо настаўнікі і бібліятэкары будуць падтрымліваць цікавасць, дапамагаць выбіраць добрую кнігу.

Згодна з апытаннем на партале TUT.BY, 43 % чытаюць дзецям старыя савецкія кнігі; 19,5 % зазначылі, што цяжка знайсці добрыя кніжкі; 15 % нічога не чытаюць; 13,6 % купляюць расійскія кнігі; і толькі 8 % набываюць беларускія. Гэта сведчыць пра тое, што купляюць бацькі старыя, правераныя кнігі, не рызыкуючы ўзяць невядомага аўтара. А варта было б пазнаёміцца з сучаснымі пісьменнікамі і адкрыць для сябе, колькі новага і цікавага яны пішуць.

Было б цудоўна, каб героі, якіх ствараюць пісьменнікі, станавіліся больш папулярнымі і нават выходзілі са старонак кніг — бліжэй да дзяцей. Можна ажывіць іх у мульціках, адправіць разам з дзецьмі ў школу, намаляваўшы іх на школьных сумках, сшытках, пеналах, увасобіць у мяккіх цацках... Тады нашы героі зоймуць належнае месца і дзеці даведаюцца, што і ў нас ёсць цудоўныя персанажы. Чаму б не прачытаць пра іх цікавую кніжку?

Напярэдадні мяне чакае яшчэ шмат сустрэч з юнымі чытачамі. Ім я прадстаўляюся казачнай феяй, якая піша казкі і працуе ў школе настаўніцай. І па зацікаўленых вачах дзяцей бачу, што яны шчыра вераць у гэта. Пасля такіх сустрэч я заўсёды напаўняюся дадатковай энергіяй і пераконваюся ў тым, што і сама веру ў казкі.

## *Фестывалі*

# Фабрыка талентаў

**Напярэдадні Міжнароднага дня абароны дзяцей, 30 мая, у горадзе Клімавічы адбыўся Міжнародны фестываль дзіцячай творчасці "Залатая пчолка". Сёлетні фэст сабраў больш як 800 удзельнікаў з дзевяці дзяржаў.**

З 1996 па 2001 год фестываль "Залатая пчолка" быў рэгіянальным, у 2001-м атрымаў статус міжнароднага. За гэты час у ім узялі ўдзел дзіцячыя калектывы з 22 краін. Традыцыйна прыязджаюць прадстаўнікі Кыргызстана, Казахстана, Малдовы, Расіі, Украіны, Польшчы і краін Балтыі. Геаграфія фэсту пашыраецца, расце і колькасць яго ўдзельнікаў.

"Залатая пчолка" стала сапраўднай "фабрыкай" юных талентаў. Фэст запаліў шмат юных зорачак і адкрыў ім дарогу ў творчую будучыню. Лаўрэатамі "Залатой пчолкі" ў розны час былі Ксенія Сітнік, Андрэй Кунец, Лідзія Заблоцкая…

Для ўдзелу ў сёлетнім фестывалі было пададзена каля 600 заявак, з іх 200 атрымалі "дабро". Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых катэгорыях: малодшая (9 — 12 гадоў) і старэйшая (13 — 16). Адметная асаблівасць фэсту — жанравая разнастайнасць.

— Праграма фестывалю з году ў год становіцца ўсё цікавейшай, а сёлета яна вельмі яркая, — распавёў дырэктар Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы Алег Хмялькоў. — Яго ўдзельнікі дэманструюць таленты і майстэрства, знаёмяць гледачоў, журы і гасцей з культурай сваіх краін і народаў. Выступленні і творчыя дасягненні канкурсантаў ацэньвае аўтарытэтнае міжнароднае журы, якое ўзначальвае заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага цэнтра музычных мастацтваў імя У. Мулявіна Святлана Стацэнка.

Апрач асноўнай праграмы жыхароў Клімавіч і гасцей горада чакалі разнастайныя конкурсы, канцэрты, творчыя прэзентацыі краін-удзельніц фэсту. Арыгінальнымі выступленнямі з выкарыстаннем мясцовых народных традыцый пацешылі фалькорныя падворкі ўстаноў культуры Клімавіцкага, Крычаўскага, Краснапольскага, Чэрыкаўскага, Хоцімскага раёнаў і Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці.

Міра ІЎКОВІЧ

## *Для адпачынку*

# «Fun House» для ўсіх

Трэці раз прымала сталіца фестываль моладзевых эксперыментальных артпраектаў "Fun House".

Ладзіўся ён у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Тэма сёлетняй імпрэзы — "Дом. Быт. Сямейныя каштоўнасці" — нагадала пра неабходнасць фарміравання каштоўнасцей новага пакалення, вяртання да традыцый і асноў сямейнага жыцця.

У праекце бралі ўдзел маладыя мастакі і калектывы ад 18 да 33 гадоў. Умовай удзелу ў фестывалі быў адыход ад рэпартажнага бытапісання. Адметнасцю сёлетняй падзеі сталася з'яўленне абсалютна новых творчых асоб, якія раней да праекта "Fun House" не далучаліся. Гэта адпавядае мэтам яго правядзення: з аднаго боку — магчымасць убачыць новыя таленты (для арганізатараў), а з другога — рэпрэзентаваць сябе і сваё ўласнае бачанне свету і мастацтва (для таленавітай моладзі). Зацікавіла і само адкрыццё фестывалю: былі прадстаўлены жывапіс, фатаграфія, дызайн, інсталяцыі, а паказ бодзі-арту ў вокнах музея прывабліваў мінакоў.

Запамінальнымі мерапрыемствамі былі тры майстар-класы па роспісе вінілавай цацкі, вырабу ружы з атласнай стужкі і вырабу пышнай кветкі з фетру. Гледачы не толькі назіралі за працэсам стварэння хараства, але і мелі магчымасць далучацца да творчай працы, адкрываючы ў сабе не вядомыя да гэтага здольнасці.

Пазітыўны настрой і творчая атмасфера фестывалю стварылі для ўсіх сапраўднае свята, якое надоўга застанецца ў памяці.

Алена ГЮНТАР

# Гледачоў гадуем самі!

Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача распачаў сёлета серыю творчых сустрэч з публікай. Не толькі гледачы хочуць бліжэй ведаць тэатр, але і ў тэатры хочуць ведаць сваіх гледачоў — вось і адбываецца гэта ў межах праекта "Тэатр юнага гледача — дзецям Беларусі". Публіка мае выключную магчымасць пазнаёміцца з адзіным у краіне сцэнічным калектывам для дзяцей і моладзі, які прапагандуе нацыянальную літаратуру (драматургію) і працуе на беларускай мове. Пазнаёміцца бліжэй і нават паўдзельнічаць у творчым працэсе, спрычыніўшыся, напрыклад, да стварэння сцэнічнага вобраза.

З мінулай восені адпаведная праграма творчых сустрэч для малодшых школьнікаў паспяхова выконваецца ў тэатры. Яна доўжыцца "школьныя" сорак пяць хвілін, але ж вельмі адрозніваецца ад звычайнага ўрока.

Як ствараецца спектакль? Хто такі сцэнічны герой? Што такое вобраз? Няпростыя пытанні. Адказаць на іх уцямна можна... паказваючы. На сустрэчах з гледачамі акцёры Аляксей Кірмуць, Андрэй Каламіец, Кацярына Крылова пераўвасабляюцца ў свае сцэнічныя вобразы са спектакля "Брык і Шуся шукаюць лета". Аляксей Кірмуць, выканаўца галоўнай ролі Брыка, расказвае, як з'явілася задума спектакля і як адбывалася праца над ім. Андрэй Каламіец размаўляе з дзятвой, дэманструючы вобраз Пацука, Кацярына Крылова — прывабнай Вароны. Выступленні тюгаўцаў парадавалі ўжо навучэнцаў і педагогаў больш як у сарака мінскіх гімназіях і школах. Вучні атрымалі магчымасць выпрабаваць сябе ў якасці рэжысёра, драматурга, мастака і нават правесці рэпетыцыю!

Старэйшым гледачам (школьнікам 9 — 11-х класаў, навучэнцам каледжаў і ВНУ) ТЮГ прапануе інфармацыйныя ўводзіны ў спектакль "Майго юнацтва крылы…" паводле паэмы А. Куляшова "Хамуціус". Спектакль распавядае пра гістарычную асобу Кастуся Каліноўскага і вымагае пэўнай падрыхтоўкі гледача, бо практыка даводзіць: падлеткі ды юнакі часам зусім не гатовыя разумець сцэнічнае дзеянне і ўспрымаць вобразы выбітных асоб нацыянальнай гісторыі. Але, думаю, пасля "тэатральных уводзін" нашага Кастуся Каліноўскага яны запомняць. На творчых сустрэчах з нагоды спектакля "Майго юнацтва крылы…" працуюць выканаўцы галоўных роляў — Генадзь Гаранскі (Кастусь) і Юлія Смірнова (Марыся Ямант). Яны заўважаюць: у дыялогу паміж тэатрам і будучымі гледачамі маладыя людзі бяруць вельмі актыўны ўдзел, выяўляюць шчырую цікавасць, нават дыскутуюць пра асобу Каліноўскага і яго ролю ў гісторыі дзяржавы, дзеляцца ведамі пра беларускую літаратуру і не стварыльваюць.

Кіруюць такімі імпрэзамі ды працуюць нароўні з акцёрамі педагогі-арганізатары тэатра Вольга Гаяева і Вольга Марозава. Яны робяць свае высновы: "На творчых сустрэчах будучы глядач можа пазнаёміцца з рэпертуарам тэатра, выбраць сабе штосьці да душы. А наша мэта на перспектыву — зацікавіць, выхаваць і дапамагчы зразумець складаны свет тэатра. Мы мусім выхоўваць сваіх гледачоў. Гэта наша праца. Такія адносіны паміж тэатрам і гледачамі не могуць не радаваць. Але іх няпроста наладзіць. Сам час вымагае быць з гледачом у цесным кантакце, каб новае пакаленне палюбіла тэатр, адчула ў ім духоўную патрэбу. Такія сустрэчы і скіраваны на тое, каб ператтварыць пазнанне тэатральнага свету ў займальную размову, зацікавіць і развіць у дзяцей і падлеткаў цягу да тэатральнага мастацтва і культуры".

Між іншым, сустрэчы з педагогамі і акцёрамі ТЮГа можна арганізаваць і нават замовіць. Так што — звяртайцеся! І вас да тэатра прыахвоцім.

**Вольга ПРАШКОВІЧ,**
**рэдактар літаратурна-драматургічнай часткі тэатра**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Слова краязнаўцы



**Віталіна Сайфутдзінава, старшы навуковы супрацоўнік аб'яднанага краязнаўчага музея аддзела культуры Мазырскага райвыканкама, распавядае пра праект "Шляхамі А.К.Сержпутоўскага":**

Адным з аспектаў працы мясцовых краязнаўцаў з'яўляецца вывучэнне Мазыршчыны. Хацелася б звярнуць увагу на адзін з напрамкаў, які падаецца найбольш істотным. Яшчэ ў 2002 годзе мы распрацавалі праект этнакультурнага вывучэння Мазыршчыны "Шляхамі А. К. Сержпутоўскага". Назва невыпадковая: як вядома, знакаміты беларускі этнограф настаўнічаў у Мазырскім павеце, даследаваў Палессе, якое апісаў у нарысе "Беларусы-палешукі". Нездарма адной з інфармацыйных крыніц стварэння музея народнай культуры Мазыршчыны "Палеская веда" стала кніга Сержпутоўскага "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў", у якой знайшла адлюстраванне традыцыйная культура палешукоў, іх светаўспрыманне, стаўленне да жыцця, міфалогія. Узнікла ідэя пабываць у тых мясцінах, дзе быў Сержпутоўскі, сабраць матэрыял, які захаваўся, а таксама працягнуць справу даследчыка.

Перыядычна мы разам з супрацоўнікамі Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі і Універсітэта культуры і мастацтваў арганізоўваем этнаграфічныя экспедыцыі ў розныя куткі Мазыршчыны. За гэты перыяд пабывалі ў вёсках Жыткавіцкага, Лельчыцкага, Мазырскага і Петрыкаўскага раёнаў. Пасля кожнай экспедыцыі ў музеі "Палеская веда" праходзіць справаздачная выстаўка.

Апошнім часам усё большае значэнне ў нашай працы пачынае набываць пытанне: як захаваць нематэрыяльную спадчыну? Згадзіцеся, прадметы матэрыяльнай культуры ў значнай ступені сабраныя, іх можна ўбачыць, узяць у рукі. А вось тыя ж самыя абрады, песні, танцы, рамествы могуць адысці ў нябыт разам са сваімі нешматлікімі носьбітамі. Таму цяпер асаблівая ўвага надаецца працы па вывучэнні нематэрыяльнай культурнай спадчыны, сродкаў захавання і перадачы наступным пакаленням культурнага вопыту нашых продкаў.

## Акцыя памяці

У Гомельскай вобласці прайшла акцыя памяці і смутку "Дарогамі спаленых вёсак", якая ахапіла Петрыкаўскі, Жыткавіцкі, Лельчыцкі і Ельскі раёны. На працягу двух дзён яе ўдзельнікі — прадстаўнікі ўлады і грамадскасці, ветэраны і моладзь — наведалі месцы, дзе ў гады Вялікай Айчыннай вайны нямецкія акупанты знішчылі цэлыя вёскі і дзе загінулі сотні нявінных мірных жыхароў. Тут прайшлі мітынгі і ўскладанне вянкоў да помнікаў і мемарыялаў ахвярам фашызму, сустрэчы з відавочцамі тых страшных падзей. А ў раённых цэнтрах адбыліся ўрокі міру і мужнасці, тэматычныя канцэрты. Падобная акцыя на Гомельшчыне праводзілася ўпершыню. Яе ініцыятарам выступіла Гомельскае абласное аддзяленне Беларускага фонду міру.

**Бажэна СТРОК**

## Музейны ўнікат

**Выстаўка са збору Нацыянальнага музея Літвы "Палац вялікіх князёў літоўскіх" упершыню прадстаўлена ў Мінску ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Яна арганізавана дзякуючы фінансавай падтрымцы кампаніі "Джапан Тобакко Интернэшнл ЭсЭндДи".**



*Палац вялікіх князёў літоўскіх (макет).*

# Дух готыкі, рэнесансу і барока

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Экспазіцыя, прысвечаная гісторыі палаца, жыццю і дзейнасці вялікіх князёў літоўскіх, складаецца з прадметаў інтэр'ера, археалогіі, аўтэнтычных вырабаў з металу, керамікі і знаёміць з унікальнымі ўзорамі мэблі, прадметамі побыту і хатняга ўжытку, габеленамі XVI — XVII стст., вырабамі керамічнага промыслу XIV — XIX стст., рэдкімі ўзорамі даспехаў, зброі, картаграфіі і атрыбутыкі часоў існавання Вялікага Княства Літоўскага. Дарэчы, калекцыя кафлі, якая маецца ў палацы, — самая вялікая ў свеце.



*Кафля з гербам Радзівілаў і ініцыяламі Януша Радзівіла (XVII ст.).*

Сваю дзейнасць музей "Палац вялікіх князёў літоўскіх" распачаў у 2009 годзе — у год урачыстага святкавання тысячагоддзя першай пісьмовай згадкі назвы Літва. У яго адкрыцці ўзялі ўдзел кіраўнікі і вышэйшыя асобы 15 дзяржаў, у тым ліку і міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка. Адноўлены палац павінен стаць сімвалам шматвяковай традыцыі літоўскай дзяржаўнасці, значным аб'ектам гістарычнай памяці не толькі для літоўцаў, але і для іншых нацый рэгіёна — пераемнікаў спадчыны Вялікага Княства Літоўскага: беларусаў, украінцаў, палякаў, латышоў, рускіх і інш.

— У сталіцы Вялікага Княства Літоўскага Вільні вялікія князі мелі свае рэзідэнцыі як у Ніжнім, так і ў Верхнім замках, — распавёў дырэктар Палаца вялікіх князёў літоўскіх Відас Далінскас. — Да канца XV — пачатку XVI ст. галоўная рэзідэнцыя знаходзілася ў Верхнім замку, дзе дагэтуль захаваліся муры гатычнага палаца.

Вялікі князь Вітаўт (гады кіравання 1392 — 1430) перабудаваў і пашырыў віленскія замкі, каб правесці ў іх урачыстасці з нагоды сваёй каранацыі. Яны павінны былі падкрэсліць выключны статус гаспадара і веліч яго дзяржавы, якая раскінулася ад Балтыйскага да Чорнага мора. Відаць, ужо Аляксандр Ягелончык (1492 — 1506) перанёс сваю галоўную рэзідэнцыю з Верхняга замка ў Ніжні. Будуючы там палац у познеготычным стылі, мусіў адпавядаць рэпрэзентатыўным традыцыям і патрэбам гаспадарскага двара таго часу. Рэнесансавая рэканструкцыя палаца, распачатая вялікім князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам Старым (1506 — 1548), была завершана да пажару 1530 года. Значны ўплыў на далейшае развіццё рэзідэнцыі аказала жонка гаспадара Бона Сфорца, якая імкнуласяператварыць віленскі палац у сучасную прадстаўнічую рэзідэнцыю дынастыі Гедымінавічаў-Ягелонаў.

Гаспадар Літвы і Польшчы, апошні прадстаўнік літоўскай дынастыі Ягелонаў Жыгімонт Аўгуст (1548 — 1572), які фактычна пачаў кіраваць Літвой у 1544 г., пашырыў палац за кошт прыбудовы так званага Новага палаца. Будаўнічымі работамі кіравалі італьянскі архітэктар і скульптар Джавані Чыні. Вялікія князі Жыгімонт (1587 — 1632) і Уладзіслаў (1632 — 1648) таксама шмат увагі надавалі віленскай рэзідэнцыі. Пасля пажару 1610 года яе адбудавалі ў стылі паўночнаеўрапейскага маньерызму. У 20-я гады XVII ст. палац ізноў закранула рэканструкцыя, ён набыў рысы ранняга італьянскага барока.

XVI — першая палова XVII ст. — гэта перыяд росквіту віленскай рэзідэнцыі вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх. У палацы праходзілі афіцыйныя прыёмы паслоў Папы Рымскага, Святой Рымскай імперыі, Масковіі, Венгрыі, Турэччыны, Персіі, Францыі і іншых замежных краін. У ім праходзілі прысягі курляндскіх герцагаў, ажыццяўлялася дынастычная палітыка апошніх Ягелонаў і Вазаў, выдаваліся прывілеі, збіраліся Рады, Соймы і суды, рэдагаваўся Літоўскі Статут, захоўвалася Літоўская Метрыка і скарб, чаканіліся манеты. Ужо Жыгімонт Аўгуст назапасіў у палацы вялікую бібліятэку, найбагацейшыя зборы габеленаў, зброі, даспехаў, карцін, паляўнічых трафеяў. Багаццем скарбаў, што захоўваліся тут, быў уражаны нават папскі легат Бернардына Буанджавані. Шыкоўная рэзідэнцыя, якую акаляў велічны парк, стала цэнтрам распаўсюджвання культуры і мастацтва эпохі Рэнесансу і ранняга Барока не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але і ва ўсёй Паўночнай і Цэнтральна-ўсходняй Еўропе. З Палацам звязаная рамантычная і разам з тым трагічная гісторыя кахання Жыгімонта Аўгуста і яго другой жонкі Барбары Радзівіл.

Росквіт віленскага палаца скончыўся ў 1655 г., калі сталіцу Літвы заняло маскоўскае войска. Чарговы раз ён пацярпеў праз шэсць гадоў пры спробе выгнаць ворага. Гаротны стан без таго спустошанай дзяржаўнай скарбніцы не дазваляў узяцца за аднаўленне зруйнаванага будынка, хоць такія планы і былі. Палац працягваў існаваць у творах пісьменнікаў і мастакоў-рамантыкаў.

Грунтоўныя археалагічныя даследаванні тэрыторыі вялікакняжацкага палаца распачаліся толькі ў 1987 г. У выніку назапасілі больш як 300 тысяч розных артэфактаў. У 2000 г. было прынята рашэнне аднавіць Палац вялікіх князёў літоўскіх, а ў 2002-м распачаліся работы. Сёння гэта музей тыпу гістарычнай рэзідэнцыі. У ім прадугледжана функцыянаванне пастаянных экспазіцый з частковым аднаўленнем гістарычных інтэр'ераў, ажыццяўленне актыўнай грамадска-адукацыйнай дзейнасці, правядзенне выставак, канцэртаў, канферэнцый, а таксама дзяржаўных мерапрыемстваў на вышэйшым узроўні.

Выстаўка ў Нацыянальным гістарычным — чарговая спроба аб'яднаць гістарычную памяць дзяржаўнашчадкаў спадчыны Вялікага Княства Літоўскага.

## Цікава ведаць

# Не схіліўся пад ударамі лёсу

**Сцяпан Іванавіч Ліхадзіеўскі (1911 — 1979) — паэт, літаратуразнаўца і перакладчык. Нарадзіўся ў вёсцы Барак Слуцкага павета ў сялянскай сям'і. Скончыў педагагічны тэхнікум у Мінску (1930), вучыўся ў Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце (1930 — 1933), але дыплом атрымаць не паспеў — у жніўні 1933 года быў беспадстаўна асуджаны і высланы на тры гады ў Казахстан. Выкладаў у п. Сарыагач, непадалёк ад Ташкента.**

**Валерый ЯРМОЛЕНКА**

Пасля заканчэння Томскага педагагічнага інстытута (1939) працаваў да 1963 года выкладчыкам Ташкенцкага педагагічнага інстытута, а потым загадваў кафедрай замежнай літаратуры Рэспубліканскага педагагічнага інстытута рускай мовы і літаратуры ў Ташкенце, выязджаў са студэнтамі на будаўніцтва Паўночна-Ташкенцкага канала, уваходзіў у склад рэдкалегіі часопіса "Звезда Востока". У 1961 і 1967 гадах наведваў Мінск, сустракаўся з беларускімі паэтамі.

Як паэт Ліхадзіеўскі пачаў друкавацца ў 1925 годзе і да нешчаслівага 1933-га паспеў выдаць чатыры паэтычныя зборнікі (усе ў Мінску), у тым ліку "Мы — маладая гвардыя" (1932), а яго нарысы пачатку 30-х гадоў былі прасякнутыя запалам сацыялістычнага будаўніцтва. Ліхадзіеўскі — аўтар кнігі "Анатоль Франс: Нарыс творчасці" (Ташкент, 1962). Пасмяротна ў Мінску былі выдадзеныя яго "Чырвоныя макі" (1981). Распрацоўваў праблемы крытычнага рэалізму ў французскай літаратуры, даследаваў сувязі беларускай і ўзбекскай літаратур, перакладаў на беларускую мову еўрапейскіх паэтаў (Бадлера, Верлена, Гацье, Гейнэ, Гётэ, Гюго, Арагона, Элюара), некаторых узбекскіх аўтараў.

Жыццёвы шлях Ліхадзіеўскага сведчыць: беларус не схіліўся пад ударамі лёсу. Ён не ўзлаваўся пасля 1933 года і не страціў прагі да жыцця. Апантана і цярпліва вучыў мясцовых дзяцей і, пражыўшы шмат год у Ташкенце, з задавальненнем наведваў помнікі гісторыі і культуры ў гарадах Сярэдняй Азіі, падарожнічаў па гарах Цянь-Шаня. Вынік яго жыццялюбства і мэтанакіраванасці — кнігі "Пошукі сердаліка" (Ташкент, 1973) і "Радасць сустрэч: зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў" (Ташкент, 1977), доктарская дысертацыя, якую абараніў у Інстытуце сусветнай літаратуры імя М. Горкага Акадэміі навук СССР (1965), і навуковая ступень доктара філалагічных навук (1967), прафесарскае званне (1968).

Памёр Сцяпан Ліхадзіеўскі ў Ташкенце, там жа пахаваны. Незадоўга да смерці ён з іроніяй адзначыў: "Я пережитое просеял — был вывод сделан мной тогда: жизнь моя — землетрясение, растянутое на года". Па іроніі лёсу ён быў адзначаны медалём "За доблесную працу" ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння У. І. Леніна.

*Міжнародны форум*

**Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Традыцыйная культура: ахова, захаванне, актуалізацыя” была галоўнай часткай міжнароднага форуму па народнай спадчыне, які ўпершыню прайшоў у Магілёве. Падчас “круглага стала”, які падвёў своеасаблівую рысу пад развагамі выступоўцаў, яго ўдзельнікі абмяняліся цікавымі меркаваннямі і прынялі выніковую рэзалюцыю. Менавіта даследчыкам традыцыйнай культуры, кіраўнікам і супрацоўнікам адпаведных устаноў, “апантаным” людзям належыць сёння, паводле рэктара Інстытута культуры Беларусі Івана Крука, функцыя пераемнасці і трансляцыі традыцыйнай культуры.**

**Вольга СЕМЧАНКА,**
**Раіса МАРЧУК,**
**фота Вольгі Семчанкі**

# Непарушная спадчына



*Прадстаўніца Арменіі Арусяк Саакян знайшла агульную мову з “мсціслаўскім гаспадаром”.*

Пра захады, якія прадпрымаюцца дзяржавай і мясцовымі ўладамі для падтрымкі народных традыцый, промыслаў і рамёстваў, распавёў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі, прывёўшы ў якасці прыкладу намаганні па аднаўленні вытворчасці славутых слуцкіх паясоў. Ён зазначыў, што Магілёўшчына за апошнія гады зрабіла значныя крокі ў накірунку захавання і адраджэння традыцыйнай культуры. Напрыклад, у вобласці заўважна павялічылася колькасць народных майстроў.

— Традыцыйная культура робіць нацыянальнае адметным, непадобным, — упэўнены намеснік міністра культуры. — У Беларусі захаваўся значны пласт традыцыйнай культуры, але менавіта ад нас залежыць, як яна будзе перададзена наступным пакаленням. Створана цэласная сістэма ўстаноў, якія забяспечваюць захаванне і пераемнасць народнай спадчыны: метадычныя цэнтры, Цэнтры і Дамы рамёстваў, Акадэмія навук, Інстытут культуры Беларусі. Што ж датычыць форуму, то ён мусіць стаць традыцыйным і больш шырокім.

Выступленні ўдзельнікаў канферэнцыі датычылі як тэарэтычных, так і практычных аспектаў традыцыйнай культуры. Рэктар Інстытута культуры Беларусі Іван Крук распавёў пра праблемы захавання і рэтрансляцыі гэтай спадчыны. Да прыкладу, абрад беларускага вяселля амаль страчаны, бо цяпер у ім пануе эклектыка, а традыцыі продкаў занядбаны. Хаця ў нашай краіне ёсць заканадаўчая база, якая спрыяе захаванню і пераемнасці народнай культуры, гэтае пытанне застаецца адкрытым. Прынамсі, неабходна больш актыўна ўключаць у гэты працэс сістэму адукацыі, лічыць вядомы даследчык.

“Час і традыцыі” — з такой тэмай выступіла кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута археалогіі і этнаграфіі НАН Рэспублікі Арменія Арусяк Саакян. Даследчыца лічыць, што традыцыйная культура з’яўляецца найлепшай мадэллю суадносін традыцыі і часу, і разглядае яе як спецыфічную сістэму мыслення. На думку даследчыцы, у традыцыйнай культуры катэгорыя часу захоўваецца як непарушная спадчына і асэнсоўваецца нават не розумам, а хутчэй нейкім неспасцігальным пачуццём, на генетычным узроўні. Кожнае пакаленне ўспрымае запавет продкаў як веды і лічыць гэтую спадчыну сваёй “уласнасцю”.

Спецыяліст Інстытута культуры Беларусі Аляксандр Шамак размяжоўвае паняцці “традыцыйная культура” і “народная культура” і лічыць, што любая культурная з’ява павінна прайсці працэс замацавання, альбо стэрэатыпізацыі, каб стаць урэшце традыцыяй. На гэта патрэбен пэўны час: 5 — 6 пакаленняў (да 120 гадоў!). У савецкія часы, лічыць даследчык, гэты працэс быў перапынены. У выніку мы страцілі культуру цэлых сацыяльных слаёў — шляхецкую і гарадскую (местачковую), таму сёння лічым традыцыйнай культуру толькі аднаго саслоўя — сялян.

У кантэксце агульнай тэматыкі форуму надзвычай актуальна прагучаў даклад дырэктара навукова-метадычнага Цэнтра па культуразнаўстве Міністэрства культуры і турызму Азербайджанскай Рэспублікі Вілаята Ісмаілава пра культурна-каштоўнасную значнасць даверу ва ўстойлівым развіцці грамадства. Было зазначана, што давер — менавіта той механізм, які дзейнічаў на працягу ўсяго развіцця. Досвед продкаў і давер да яго дазваляе грамадству існаваць ва ўстойлівых і стабільных формах. У сучасным мультыкультурным, плюралістычным грамадстве людзі, супрацьпастаўляючы сябе, свой лад жыцця, сваю сістэму каштоўнасцей глабалізаванаму свету, умацоўваюць нацыянальную і этнічную самабытнасць — перш за ўсё за кошт павелічэння ўзаемадзеяння салідарных груп. Але вынікам можа стаць рост недаверу, ксенафобіі, расавай варожасці. Таму адной з галоўных задач у фарміраванні культуры ўстойлівага развіцця з’яўляецца стварэнне атмасферы даверу — не толькі да “сваіх”, але і “чужых” палітычных, нацыянальных, рэлігійных груп.



*Госць з Літвы Ліауса Сауліус частуецца мсціслаўскай юшкай.*

Пра асаблівасці фарміравання і развіцця традыцыйнай культуры сваёй вобласці распавёў дырэктар Луганскага абласнога цэнтра народнай творчасці Васіль Яравой. Украінскія калегі шмат робяць для адраджэння і развіцця народных рамёстваў, арганізуюць абласныя фестывалі і конкурсы фальклору, узаемадзейнічаюць з іншымі рэгіёнамі краіны. Па словах выступоўцы, спецыфіка традыцыйнай культуры Луганшчыны заключаецца ў тым, што яна фарміравалася на аснове шматнацыянальных культур і традыцый.

Пра “Жывую традыцыю Літвы” расказаў дырэктар цэнтра народнай культуры Літвы (г. Вільнюс) Ліауса Сауліус. Штогод у краіне ладзіцца каля 45 тысяч культурных мерапрыемстваў, з іх каля паловы прысвечана народнай культуры. Найбольш цікавым быў расповед пра традыцыю правядзення спеўнага свята ў Літве, якое ладзіцца раз на чатыры гады і збірае лепшых выканаўцаў народнай песні. Таксама дакладчык пазнаёміў з асаблівасцямі фінансавання і заканадаўствам у сферы культуры.

Вядучы метадыст Варонежскага абласнога цэнтра народнай творчасці Лізавета Цвяткова падзялілася вопытам работы сваёй установы, выступіўшы на тэму “Фарміраванне каталога аб’ектаў нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны Варонежскай вобласці”. Гэта вобласць, разам з іншымі абранымі Міністэрствам культуры Расійскай Федэрацыі рэгіёнамі, была ўключана ў вопытны праект па фарміраванні электроннага каталога нематэрыяльнай культурнай спадчыны Расіі, і цэнтр народнай творчасці каардынуе гэтую працу ў вобласці. Сёння для ўключэння ў федэральны каталог прадстаўлена 15 аб’ектаў нематэрыяльнай культурнай спадчыны Варонежскай вобласці, сярод якіх “Казкі Купрыяніхі”, “Ваджэнне русалкі ў сяле Оськіна Варонежскай вобласці”, “Тэхналогія вырабу нагруднага ўпрыгожвання «грыбатка»” і інш.

Пра купальскія традыцыі Магілёўшчыны распавяла спецыяліст Інстытута культуры Беларусі Вольга Басько, якая зазначыла, што сярод іншых рэгіёнаў Беларусі Магілёўскае Падняпроўе вылучаецца фальклорнымі традыцыямі, старажытнымі каляндарна-абрадавымі святамі, гісторыка-стылявым пластом каляндарна-абрадавых песень. Купальская старажытная абраднасць сярод усходнеславянскіх народаў найбольш захавалася ў беларускай традыцыі, а з даследаваных раёнаў Магілёўскай вобласці найбольш цэласная форма старадаўняга Купалля назіраецца ў Клічаўскім і Быхаўскім. У мясцовых традыцыях гаспадары і сёння перад купальскай ноччу здзяйсняюць рытуальна-абрадавыя дзеянні, звязаныя з аховай жывёлы і ўраджаем, але некаторыя абрады ўжо забытыя. На жаль, пры арганізацыі і правядзенні Купалля рэгіянальныя традыцыі выкарыстоўваюцца абмежавана і ў скажоным выглядзе.

— На мой погляд, форум атрымаўся, — падзяліўся дырэктар Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы Алег Хмялькоў. — Навукоўцы-фалькларысты пабачылі практычны бок справы, а практыкам было карысна даведацца пра навуковыя асновы сваёй працы. Госці з замежжа пазнаёміліся з вопытам Беларусі, у прыватнасці, Магілёўшчыны. А мы, у сваю чаргу, атрымалі ўяўленне пра дзейнасць калег за мяжою. Па сутнасці, мы займаемся адной і той жа справай, але кожная краіна мае свае нацыянальныя асаблівасці, культурныя адметнасці, уласны каларыт. Будзем рады далейшаму плённаму супрацоўніцтву з нашымі калегамі, і яно будзе ўзаемавыгадным.

Таксама адбыўся абмен меркаваннямі па такіх пытаннях, як сістэма фінансавання культурных устаноў. Паводле слоў прадстаўнікоў Літвы, нават у межах Еўрасаюза няма адзінага падыходу да фінансавання культурнай сферы. Ва Украіне і Беларусі, як было неаднаразова падкрэслена ўдзельнікамі “круглага стала”, традыцыйная культура адчувае грунтоўную матэрыяльную падтрымку з боку дзяржавы. Напрыклад, у нашай краіне важную ролю ва ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы вясковых устаноў культуры адыграла Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця вёскі.

Удзельнікі форуму ўсебакова абмеркавалі такое пытанне, як уключэнне ў працэс падтрымкі і актуалізацыі традыцыйнай культуры сістэмы адукацыі, каб падрастаючае пакаленне пераймала каштоўнасці нашай спадчыны. Неабходнасць гэтага прызналі ўсе ўдзельнікі “круглага стала”, але ў бачанні самога працэсу іх меркаванні не супадаюць. Актуальна прагучала думка Арусяк Саакян пра тое, што фальклор павінен увайсці ў школу як асобны прадмет. Магчыма, дзеля абмеркавання такой праблемы і варта сабраць наступны форум. Прадстаўнікі Літвы зазначылі: вывучэнне традыцыйнай культуры не павінна набываць прымусовую форму, а каб укараніць гэта ў школах, патрэбны абдуманы і абгрунтаваны падыход.

Першы міжнародны форум завяршыўся, але гэта не значыць, што яго тэма вычарпана — наадварот, яна патрабуе далейшага ўсебаковага даследавання і абмеркавання, якое, мы спадзяёмся, будзе працягнута. Таксама існуе надзённая неабходнасць, і гэта прызналі ўсе яго ўдзельнікі, — працягваць і пашыраць супрацоўніцтва. У якой форме гэта будзе адбывацца — пакажа час.

# Прымушае ўсміхнуцца… гліну

Ірына ТОРБІНА,
фота аўтара

**Рукі сапраўднага майстра здольны прымусіць усміхнуцца нават гліну. За рабочым сталом у сваёй гарадской кватэры сярод фарбаў і мініяцюрных фігурак Святлана Арэхава нагадвае чараўніцу. Яе царства — незвычайны свет керамікі. Нягледзячы на тое, што створаны з халоднай гліны, ён надзвычай светлы і цёплы. Менавіта такі, які жыве ў душы майстра.**


*Святлана Арэхава за работай.*

Лёс творчага чалавека — гэта няспынны пошук і адданая праца. Майстар керамікі з Чашнікаў у іншай рэальнасці сябе і не ўяўляе. Яшчэ ў юнацтве, жадаючы далучыцца да высокага мастацтва, дзяўчына зразумела: здзейсніць мару будзе няпроста. Часы, калі дзеці з маленькага райцэнтра маглі б вучыцца азам жывапісу ў прафесіяналаў, тады яшчэ не надышлі. А каб вытрымаць уступныя экзамены ў профільныя вучэбныя ўстановы, такія навыкі былі неабходны ў першую чаргу. Але яна паспяхова прайшла выпрабаванні і пачала заняткі ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава.

Праз гады і адлегласці па-іншаму адчуваецца смак першай перамогі. У групе, дзе вучылася чашнічанка, займаліся пераважна выпускнікі сталічных школ з мастацкім ухілам, з правінцыялаў — толькі Святлана. Але якім нялёгкім быў пачатак! “Паступова зраўнялася з аднакурснікамі, на старшых курсах усё ішло добра”, — успамінае мая суразмоўца.


*Арлекіна, створаны майстрам.*

Першыя гады працоўнай дзейнасці прыйшліся на неспакойныя дзевяностыя, тады нават сталыя мастакі часта заставаліся без справы. А што давялося вытрымаць маладым — уявіць няцяжка. Першая пасада выпускніцы мастацкага вучылішча — мастак у барысаўскім кінатэатры, а наступны запіс у працоўнай кніжцы зроблены ўжо ў чашніцкай будаўнічай арганізацыі, але і тут дзяўчына трапіла пад скарачэнне. Пошукі пастаяннага занятку зноў прывялі Святлану ў сталіцу, і яна апынулася ў майстэрні прафесійнага керамiста, дзе правяла чатыры гады.

Ляпіла, распісвала і вельмі любіла сваю справу. Але жыццё праз некаторы час вымусіла зноў вярнуцца на радзіму. Галоўнае багацце, што прывезла з сабой, — вопыт работы з сапраўднымі прафесіяналамі. У 1999-м стала прадпрымальнікам, цяпер яна стварае і рэалізоўвае керамічныя работы.

Стаўка на тавар, што не з’яўляецца прадметам першай неабходнасці ва ўмовах сённяшняй глыбінкі, — даволі рызыкоўная справа. Толькі мясцовы керамiст пра гэты выбар не шкадуе. Працуе шмат, натхненне не пакідае майстра. Бачыць, што зробленае радуе і цікавіць людзей. Не хвалююць яе і нязручнасці. Ляпіць і фарбаваць свае вырабы вымушана ў двухпакаёвай кватэры, дзе жыве разам з маці, а абпальваць даводзіцца ў гаражы.

Член клуба “Майстар” чашніцкага Дома рамёстваў, Святлана Арэхава ведае тысячу спосабаў, каб ажывіць гліну, і нішто не можа перашкодзіць гэтай цікавай справе. Больш як дзвесце кілаграмаў сыравіны, набытай на барысаўскім заводзе, за год яе рукі ператвараюць у сотні мініяцюрных цацак. Кожны твор — адмысловы, непаўторны. Яе Арлекіны вельмі розныя. На думку аўтара, гэта якраз тая форма, што дазваляе раскрыцца падчас роспісу, бо тут ёсць аб’ём, твар.

Хоць і няпроста рамесніку-керамісту ў глыбінцы, Святлана Міхайлаўна не сумуе. Любімая справа дорыць задавальненне. Майстар падтрымлівае цесныя сувязі з калегамі. У іх ліку — калектыў керамічнай майстэрні, дзе рабіла некалі першыя крокі. Вырабы Арэхавай ведаюць дзякуючы Міжнароднаму фестывалю мастацтваў “Славянскі базар”, шматлікім выстаўкам, сталічным кааператывам “Славутасць” і “Славутыя майстры”. У планах — паспрабаваць сябе ў іншых рамёствах. Чаму б не ўзяцца, напрыклад, за моднае цяпер валянне?

*Майстэрня*

# Пасяліўся «Рыбак» ля Мястры

**У Мядзеле, на ўзбярэжжы возера Мястра, з’явілася новая скульптура — рыбак з вялізным сомам. А ля яго ног яшчэ і кот прытуліўся. Нарадзіўся гэты незвычайны твор мастацтва ў рамках мерапрыемстваў па добраўпарадкаванні набярэжнай і ўсяго горада. Выканаў яго па заказе Мядзельскага РУП ЖКГ Юрась Камандзірчык, разьбяр па дрэве з курортнага пасёлка Нарач.**

Алесь ВЫСОЦКІ,
фота аўтара

Што ж натхніла майстра зрабіць такога рыбака? У адказ пачуў:

— Неяк у кнізе “Памяць”, прысвечанай Мядзельскаму раёну, пабачыў фотаздымак, зроблены ў 1968 годзе. На ім — выява мясцовага рыбака з сомам, злоўленым у Нарачы. Даўжыня рыбіны — два з паловай метры! Вось і захацелася нагадаць людзям, што некалі вадзіліся ў нашых азёрах такія веліканы.

Скульптур, аўтарам якіх з’яўляецца Юрась Камандзірчык, устаноўлена ўжо нямала ў Нарачанскім краі. Той, хто іх бачыў, заўважыць адметнасць мядзельскай: яна размалявана ў розныя колеры.

— Раней свае работы фарбаваў у адзін тон, — тлумачыць майстар. — Упершыню зрабіў інакш. І, здаецца, яна стала жывейшай і весялейшай.

Прынамсі, з гэтай скульптурай маглі пазнаёміцца наведвальнікі Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2011” у Маладзечне. Юрасю прадставілася магчымасць прадэманстраваць гасцям свята, як нараджаецца фігура з дрэва. І гэтая гісторыя мела працяг. Па беларускім радыё прагучаў рэпартаж з “Дажынак”. Знаёмы Юрася, з якім разам вучыліся, пачуў расповед пра скульптуру рыбака і склаў верш пра вусатага дзеда і не менш вусатага сома.

Майстар спадзяецца, што яго работа прыйдзецца даспадобы як мядзяльчанам, так і шматлікім гасцям Нарачанскага краю. Увага да яго твора ўжо адчуваецца. Чаму б не сфатаграфавацца на ўспамін каля “Рыбака”?

— Толькі закончыў усталёўваць скульптуру, як гляджу: падыходзяць маці з дзецьмі, уважліва ўсё разглядаюць, а малыя спрабуюць за нос рыбака крануць, — усміхаецца Юрась.


*Юрась Камандзірчык са сваёй скульптурай.*

Дарэчы, упрыгожванне скульптурамі мядзельскай набярэжнай плануецца працягнуць.

*Афарызм*

*Падымі угару свае вока,*
*І ты будзеш ізноў як дзіця…*

**Максім БАГДАНОВІЧ**

*З глыбінкі*

## Прысвячаецца класікам

Літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, прайшла ў СШ № 2 г. Чавусы.

Вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа па-майстэрску дэкламавалі юныя аматары паэзіі Маргарыта Ільюшчанка, Арцём Кондзераў, Хрысціна Прусянкова, Валерыя Мазакова, Арцём Засядзацелеў. Вучаніца Ірына Аляксеенка пранікнёна выканала песню “Беларусь мая сінявокая”, зачаравала ўсіх прысутных і “Спадчына” ў выкананні юнай спявачкі Анастасіі Мікушкінай.

Перад настаўнікамі і вучнямі выступіў старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў, які расказаў пра літаратурныя здабыткі землякоў і падарыў школьнай бібліятэцы кнігі з іх творамі. Паэт з горада Чавусы, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Салаўцоў прачытаў уласныя вершы, прысвечаныя класікам-юбілярам.

**Уладзімір САСНОЎКІН,**
**г. Чавусы**

## Прэч раўнадушша

Івацэвіцкую сярэднюю школу № 1 наведаў паэт Уладзімір Сітуха, член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Уладзімір Мікалаевіч родам з вёскі Гутава Драгічынскага раёна. Жыве ў Брэсце. Праз гады пранёс ён любоў да сваёй малой і вялікай Радзімы, да беларускага народа. Вершы, якія чытаў Уладзімір Сітуха падчас сустрэчы са школьнікамі і педагогамі, працяты гэтай любоўю. Але ў адных яна — з адценнем патрыятызму, у другіх — жыццялюбства, у трэціх — з подыхам сыноўніх пачуццяў да маці ды шчырай веры ў Бога, а ў чацвёртых — любоў, каханне чыстай вады.

Паміж вершамі пісьменнік расказваў школьнікам, як складваўся яго жыццёвы і творчы лёс, як нараджаліся яго кнігі, рабіў высновы з пражытага і перажытага, дзяліўся іх імі. Тэмы закраналіся розныя: пра духоўнасць і Радзіму, пра сэнс жыцця, барацьбу дабра і зла, знакавых асоб, якім прысвячае паэт свае вершы. Гаварыў ён і пра асабістае, сямейнае — вершамі…

Шаноўны госць падарыў школе сваю кнігу “Стваральнікі”.

**Вольга ШЭЛЯГОВІЧ,**
**г. Івацэвічы**

## Мінулае і будучае кнігі

Якую ролю адыгрывае кніга ў жыцці людзей? На гэтае пытанне спрабавалі адказаць вучні Гудскай базавай школы, якія былі запрошаны на ўрок-прэзентацыю “Цуд, імя якому — кніга”, што прайшоў у Гудскай сельскай бібліятэцы.

Дзеці даведаліся пра першыя сродкі захоўвання і перадачы інфармацыі, якія прыдумала чалавецтва шмат стагоддзяў таму, пазнаёміліся са структурай сучаснай кнігі. Абмяркоўваючы пытанне пра будучыню кнігі, вучні прыйшлі да высновы, што кніга ў сучасным выглядзе пакуль што самы надзейны сродак зносін людзей.

Урок скончыўся вясёлай віктарынай “Казачныя падарожжы”, удзельнікі якой маглі праверыць свае літаратурныя веды.

**Галіна ШАПАВАЛАВА,**
**Лідскі раён**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2836
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 31.05.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2376
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686